ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 47 (2626)
ПЯТНІЦА
24
лістапада 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

**ДРУЖБА НАРОДАЎ...** Ці не аб ёй, такой магутнай, непарушнай, якой яна стала сёння ў Краіне Саветаў, марылі лепшыя прадстаўнікі закаўказскіх народаў дарэвалюцыйнай Расіі!

Яшчэ ў XII стагоддзі геніяльны Руставелі стварыў несмяротны гімн дружбы трох розных краёў у цудоўных вобразах Тарыэла, Аўтандзіла і Фрыдона... Такое ж палымянае імкненне да вечнай дружбы грузінскага, армянскага і азербайджанскага народаў адлюстравалася ў творчасці паэта гэтых трох нацый Саят-Нова. Аб шчырай дружбе з народамі Закаўказзя марылі і вялікія рускія пісьменнікі і грамадскія дзеячы XIX стагоддзя...

І — здзейснілася!

Савецкая ўлада канчаткова паклала канец варожасці і недаверу паміж народамі Закаўказзя. Дзякуючы бескарыслівай і братняй дапамозе вялікага рускага народа, народаў іншых братніх рэспублік, грузіны, армяне і азербайджанцы за паўстагоддзе дасягнулі нябачнага росквіту сваёй эканомікі і сацыялістычнай па змесце, нацыянальнай па форме культуры. І як не прыгадаць радкі грузінскага паэта Галактыёна Табідзе, які з гонарам пісаў, што ўпершыню наша краіна братэрства

*У гісторыі зямнога шара*
*Народаў дружбаю магутна.*

Яскравае пацвярджэнне ўсепераможнай еднасці братніх рэспублік — Вялікая Айчынная вайна, калі народы нашай краіны, адданыя Радзіме, справе партыі і братэрскай дружбе, перамаглі самага крыважэрнага ворага...

Сёння, прысвячаючы нумар штотыднёвіка сябрам з Закаўказзя, мы прыгадваем і незлічоныя прыклады нашых плённых культурных, літаратурных сувязей... Ім мацнець год ад году, як і мацнець вялікай непарушнай еднасці народаў Краіны Саветаў.



Народны мастак СССР Ладо ГУДЗІАШВІЛІ. Збор ураджаю.

# У ЭКСПАЗІЦЫЯХ — ЖЫЦЦЁ РЭСПУБЛІКІ

ПАЎВЕКАВЫ ЮБІЛЕЙ СССР з'явіўся для музеяў Беларусі своеасаблівым экзаменам на ідэйна-творчую сталасць, праверкай іх здольнасці і ўмення весці глыбока, маштабна збіральную, экспазіцыйную, масава-выхавальную работу.

Па аглядзе работы музеяў Беларусі быў створаны Рэспубліканскі аргкамітэт. На яго пасяджэнні правяраўся ход выканання абавязацельстваў, узятых музеямі ў гонар знамянальнай даты.

Што ж зрабілі музеі, якімі экспанатамі яны папоўніліся? Трэба адзначыць, што ўсе музеі рэспублікі правялі навукова-даследчую работу па выяўленні і вывучэнні дакументаў па ўтварэнні СССР, цікавых матэрыялаў аб ролі БССР, як члена-арганізатара Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Музеі дапоўнілі экспазіцыі матэрыяламі, якія адлюстроўваюць дружбу і супрацоўніцтва народаў Савецкага Саюза, пралетарскі інтэрнацыяналізм, стварылі спецыяльныя стэнды «Утварэнне СССР». Так, Дзяржаўны музей БССР паднавіў стэнд «Беларусы — удзельнікі баёў на розных франтах грамадзянскай вайны», а супрацоўнікі Гродзенскага музея адшукалі новыя экспанаты пра беларусаў — абаронцаў рэспубліканскай Іспаніі, беларусаў — удзельнікаў французскага Супраціўлення і іншыя.

У ходзе падрыхтоўкі паўсюдна ў музеях ўключылі ў экспазіцыю творы і выказванні У. І. Леніна аб нацыянальнай палітыцы Савецкай улады, аб супрацоўніцтве Савецкіх рэспублік і пралетарскім інтэрнацыяналізме.

Многія экспазіцыйныя тэмы яскрава адлюстроўваюць перыяд пасляваеннага развіцця прамысловасці, сельскай гаспадаркі, павышэння матэрыяльнага і культурнага ўзроўню жыцця савецкага народа, а таксама сучасны этап камуністычнага будаўніцтва. Ёсць дакументы, фатаграфіі, вывучыўшы якія можна даведацца аб узаемадапамозе, дружбе і супрацоўніцтве ўсіх народаў краіны,

Выкарыстоўваюцца такія формы прапаганды, як экскурсіі, лекцыі. У Дзяржаўным музеі БССР створаны спецыяльны лекторый «У братняй сям'і народаў».

Прыгожа аформілі выстаўкі, якія раскрываюць веліч і хараство жыцця працоўных Савецкай Беларусі, Гродзенскі, Брэсцкі, Магілёўскі, Віцебскі, Гомельскі, Бабруйскі, Пінскі, Рэчыцкі і іншыя музеі рэспублікі. Вялікая работа была праведзена Дзяржаўным музеем БССР па стварэнні выстаўкі «БССР у братняй сям'і народаў», якая экспанавалася ў верасні ў Цэнтральным дзяржаўным ордэна Леніна музеі Рэвалюцыі СССР у Маскве.

Музеі рэспублікі ўдзяляюць вялікую ўвагу арганізацыі сустрэч і вечароў з дэлегатамі XXIV з'езда КПСС і XXVII з'езда КПБ, ветэранамі партыі, дэлегатамі першых з'ездаў Саветаў СССР і БССР, з дэпутатамі Вярхоўных Саветаў СССР і БССР, наватарамі пяцігодак, прадстаўнікамі навукі, культуры, партыйнымі і савецкімі работнікамі. У Брэсцкім і Пінскім музеях, напрыклад, арганізуюцца вечары на тэмы: «Адна вялікая магутная сям'я» і «50 гадоў СССР». У Дзяржаўным музеі БССР арганізуюцца «Дні дружбы народаў», у час якіх працоўныя г. Мінска сустракаюцца з гасцямі з іншых саюзных рэспублік.

Для воінаў Савецкай Арміі музеі рэспублікі праводзяць масавыя мерапрыемствы па тэме: «Рэспубліка, у якой ты служыш».

Традыцыйныя формы масавай работы музеяў рэспублікі — правядзенне піянерскіх збораў, лінеек, ленінскіх залікаў камсамольцаў, камсамольскіх сходаў і г. д. — напоўнены ў сучасны момант зместам, звязаным з юбілеем.

**Н. ВАРАТНІЦКАЯ,**
ст. інспектар па музеях Міністэрства культуры БССР.

## КОЛАСАЎСКІЯ ДНІ Ў ЛЕНІНГРАДЗЕ

**У Ленінградзе ўрачыста адзначан юбілей народнага паэта БССР Якуба Коласа. Ва ўрачыстасцях прыняла ўдзел група пісьменнікаў Беларусі ў складзе Янкі Скрыгана, Міколы Хведаровіча, Алега Лойкі, Барыса Сачанкі, Аляксея Гардзіцкага і дырэктара Літаратурнага музея Якуба Коласа Данілы Міцкевіча.**

**Пасланцы Беларусі прысутнічалі на гарадскім урачыстым сходзе, прысвечаным 90-годдзю з дня нараджэння Якуба Коласа, выступілі на металічным заводзе, заводзе «Чырвоны трохкутнік» і другіх прадпрыемствах Ленінграда, сустрэліся з студэнтамі і школьнікамі горада на Няве.**

## *ВІНШУЕМ З УЗНАГАРОДАЙ!*

**За заслугі ў галіне архітэктуры і горадабудаўніцтва, шматгадовую навукова-педагагічную дзейнасць і ў сувязі з сямідзесяцігоддзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР узнагародзіў загадчыка кафедры Беларускага політэхнічнага інстытута прафесара Воінава Аляксандра Пятровіча ордэнам Кастрычніцкай Рэвалюцыі.**

□

**За заслугі ў развіцці беларускай савецкай літаратуры і ў сувязі з сямідзесяцігоддзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў пісьменніка Машару Міхаіла Антонавіча Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.**

□

**За заслугі ў развіцці беларускай савецкай літаратуры і ў сувязі з шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў пісьменніка Кавалёва Паўла Нічыпаравіча Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.**

## БЕЛАРУСЬ У СВЕЦЕ МАРАК

У гэтыя дні многія масквічы і госці сталіцы спяшаюцца ў Політэхнічны музей.

Тут адкрылася Усесаюзная філатэлістычная выстаўка, прысвечаная 50-годдзю ўтварэння СССР. У ёй удзельнічаюць філатэлісты са ста гарадоў нашай краіны і саюзы філатэлістаў сацыялістычных краін. Паштовая мініяцюра, савецкая марка, расказвае аб нашым гераічным часе, уваскрашае слаўную гісторыю Савецкай дзяржавы.

Вялікая колькасць экспануемых на выстаўцы марак прысвечана Савецкай Беларусі.

Аб гераічнай барацьбе беларускага народа ў час Вялікай Айчыннай вайны расказваюць маркі «Герой Савецкага Саюза В. Харужая», «Крэпасць-герой Брэст» і іншыя.

Да выстаўкі выпушчана спецыяльная серыя юбілейных марак «50 год дэкларацыі і дагавору аб утварэнні СССР»

**Э. БРОЙТМАН**

# *НАМ ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ...*

### З ГОМЕЛЯ

Днямі сакратар ЦК прафсаюза работнікаў культуры СССР Ф. Жылкін і старшыня Беларускага рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў культуры Л. Паміла ўручылі пераходны Чырвоны сцяг ВЦСПС і Міністэрства культуры СССР калектыву Гомельскага абласнога драматычнага тэатра за лепшыя паказчыкі культурна-шэфскай работы на сяле. Гомельскія артысты заваявалі таксама пераходны Чырвоны сцяг Міністэрства культуры СССР і ЦК прафсаюза работнікаў культуры за перамогу ў сацыялістычным спаборніцтве тэатральна-відовішчных устаноў краіны.

**Т. ХАРЫТОНАВА.**

### З НАВАПОЛАЦКА

Больш чатырох гадоў назад прыйшлі ў Палац культуры нафтавікоў гэтыя дзяўчынкі і хлопчыкі. Прыйшлі нічога не ўмеючы, але з гарачым жаданнем навучыцца спяваць і танцаваць. Вось тады і быў створаны ансамбль песні і танца «Камарыкі», які ўзначаліла Марта Фядотаўна Гурына.

Сёння ў складзе «Камарыкаў» — 260 самадзейных артыстаў акцябрацкага і піянерскага ўзросту. Харэаграфічным пастаноўкам ансамбля «Камарыкі», «Лявоніха», «Па ягады» і многім іншым апладзіравалі гледачы Беларусі, Латвіі, Пскоўскай вобласці.

У мінулую нядзелю прасторная зала палаца не змагла змясціць усіх жадаючых прысутнічаць на ўручэнні ансамблю дыплома аб прысваенні высокага звання народнага. Адначасова пастаноўшчыку танцаў В. Клячко і лепшым выканаўцам: Наташы Зубкоўскай, Сярожу Цярэшчанку і Жору Мілашу былі ўручаны дыпломы першай ступені Беларускага рэспубліканскага камітэта прафсаюза нафтахімічнай прамысловасці.

Прысутныя горача павіншавалі і другі дзіцячы калектыў Палаца культуры нафтавікоў — цыркавы ансамбль «Юнацтва», якому таксама прысвоена ганаровае званне народнага.

□ Плённа працуе гарадскі універсітэт тэатральнага мастацтва. Яго праграма дае магчымасць пазнаёміцца з творчасцю беларускіх драматургаў, драматургаў брацкіх рэспублік, сусветнай класікай.

Над універсітэтам шэфствуе калектыў Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа. На першых занятках адбылася сустрэча слухачоў з галоўным рэжысёрам тэатра С. Казіміроўскім, пасля якой коласаўцы паказалі спектакль «Несцерка».

20 лістапада зноў сустрэліся полацкія аматары мастацтва з віцебскімі артыстамі, якія на гэты раз прывезлі спектакль па п'есе А. Макаёнка «Зацюканы апостал».

Віцябляне рыхтуюць для паказу сваім падшэфным таксама спектаклі па п'есе Н. Думбадзе «Не трывожся, мама!..» і «Марыя Сцюарт» Ф. Шылера.

□ Адкрыўся палітычны камсамольска-маладзёжны клуб «Праметэй». У праграме работы клуба знаёмства з выдатнымі людзьмі— героямі вайны і працы, ветэранамі партыі. У клубе будуць каладжвацца выстаўкі, дэманстравацца кінафільмы.

«Праметэй» — не адзіны маладзёжны клуб у горадзе. Вялікай папулярнасцю карыстаюцца клубы «Салдаты айчыны» — для дапрызыўнікаў, «Аэліта» — для дзяўчат, клуб школьнікаў — «Кругагляд».

□ «Культура паводзін маладога чалавека», «Як слухаць і разумець музыку» — з такімі лекцыямі выступілі перад рабочымі нафтаперапрацоўчага завода, трэста № 16 нафтабуда, камбіната бытавога абслугоўвання, у маладзёжных інтэрнатах дацэнт Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. В. Луначарскага С. Мадорскі і кандыдат філасофскіх навук Г. Рубанаў.

**В. ІВАНОВА.**

### З КЛЕЦКА

□ Шмат расказаў можна пачуць у Машуках і навакольных вёсках Клецкага раёна аб бясстрашных лясных байцах партызанскага атрада «Сокалы», якім камандаваў Кірыл Пракопавіч Арлоўскі. Асабліва памятным для мясцовых жыхароў застаўся першы бой народных мсціўцаў, які адбыўся неўзабаве пасля высадкі атрада. Больш як сто эсэсаўцаў знішчылі тады партызаны. Пасля гэтага чужынцам часта даводзілася адчуваць на сабе трапныя ўдары народных мсціўцаў.

Ушаноўваючы гераізм партызан, хлебаробы мясцовага калгаса «Камунар» напярэдадні Кастрычніцкіх свят устанавілі ва ўрочышчы «Раскоп» помнік. На ім залатымі літарамі напісана: «Тут 25 кастрычніка 1942 года з'явіўся партызанскі атрад «Сокалы» пад камандаваннем К. П. Арлоўскага. 17 лютага ён знішчыў групу эсэсаўцаў».

На адкрыцці помніка прысутнічалі дачка К. П. Арлоўскага Святлана, камісар атрада Рыгор Васільевіч Івашкевіч і былыя партызаны.

**А. БУШЭНКА.**

## ЮБІЛЕЙ МАСТАЦКАГА ВУЧЫЛІШЧА

ЯК ПАВЕДАМЛЯЛАСЯ ўжо ў «Літаратуры і мастацтве», Мінскаму мастацкаму вучылішчу імя А. К. Глебава споўнілася 25 гадоў. За гэты час тут падрыхтавана больш 800 мастакоў-афармiцеляў і выкладчыкаў малявання і чарчэння. Многія выпускнікі вучылішча, атрымаўшы пазней вышэйшую мастацкую адукацыю, сталі вядомымі ў рэспубліцы творцамі. Сярод іх — М. Савіцкі, В. Вярсоцкі, В. Сумараў, Б. Забораў, Н. і Г. Паплаўскія, А. Кашкурэвіч, Г. Мурамцаў і многія іншыя.

Цяпер у вучылішчы займаецца 360 юнакоў і дзяўчат—будучых дзеячоў мастацкага фронту рэспублікі.

Днямі адбылося ўрачыстае пасяджэнне, прысвечанае юбілею вучылішча. Яно праведзена 18 лістапада ў актавай зале Мінскага радыётэхнічнага тэхнікума.

За дасягнутыя поспехі па падрыхтоўцы кадраў мастакоў і выкладчыкаў малявання і чарчэння Мінскае мастацкае вучылішча імя А. К. Глебава ўзнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.

**Н. ЛОСЬ.**

## ПЕСНІ ТУРЫСЦКІХ КАСТРОЎ

Не зусім звычайна выглядала глядзельная зала Палаца культуры камвольнага камбіната ў мінулую нядзелю. Зялёныя штармоўкі і курткі з эмблемамі турысцкіх клубаў, сустрэчы і размовы—усё нагадвала турысцкі лагер. Але галоўнае — песні. Пачуць і запомніць іх сабраліся сюды слухачы і ўдзельнікі конкурсу маладзёжнай песні, арганізаванай Мінскім гаркомам камсамола, абласным саветам па турызму і клубам песні «Свіцязь».

З Мінска і з Урала, з Масквы і Ленінграда, з Рыгі і Казані з'ехаліся людзі розных узростаў і прафесій, каб расказаць у песнях аб былых паходах, мужнасці, прыгажосці роднага краю. І часта, калі выконвалася знаёмая мелодыя, зала падпявала выканаўцы. Гэта не дзіўна — многія песні напісаны ў паходах, удзельнікамі якіх былі і аўтары, і слухачы.

У паходах, ля помнікаў баявой славы, ля безыменных салдацкіх магіл нараджаюцца скупыя словы песень-клятваў, аб пераемнасці пакаленняў, аб жаданні быць у адным страі з бацькамі і старэйшымі братамі.

Журы конкурсу, у рабоце якога прынялі ўдзел лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола кампазітар І. Лучанок і вядомы паэт А. Гарадніцкі, узнагародзіла памятнымі падарункамі за лепшыя песні на грамадзянскую тэматыку слесара-механіка з Ленінграда В. Віхарава, выпускніка Казанскага авіяцыйнага інстытута В. Бокава, хірурга з Казані У. Мураўёва, інжынера Маскоўскага электралямпавага завода С. Сцёркіна. Лепшымі аўтарамі лірычных песень прызнаны кандыдат тэхнічных навук з Ленінграда В. Глазанаў і маскоўскі журналіст Б. Вахнюк.

Адзін з прызоў — простая сяміструнная гітара з гравіроўкай «За лепшае выкананне песні Арыка Крупа». А. Круп — інжынер завода імя Вавілава, аўтар многіх папулярных песень, які трагічна загінуў у саянскіх лавінах. Гітару атрымаў Таліваладзіс Кейвс, пад кіраўніцтвам якога рыжскі калектыў своеасабліва і выразна выканаў песню А. Крупа «Замаразкі».

На вечары выступілі члены клуба песні «Свіцязь», свае новыя творы выканаў паэт А. Гарадніцкі.

Член журы, сакратар Мінскага гаркома камсамола В. Калпакоў горача падзякаваў гасцям за ўдзел у канцэрце.

**Я. БЯЛЬКЕВІЧ.**

## МІНСК ВІТАЕ ЎКРАІНСКІХ СПЕВАКОЎ

*Мінчане знаёмяцца з высокім майстэрствам спевакоў братняй Украіны. Народная артыстка СССР Н. Ткачэнка выканала галоўную партыю ў оперы «Аіда»; цікавы і своеасаблівы вобраз Альфрэда стварыў заслужаны артыст УССР А. Ішчанка ў «Травіяце»; агульнае захапленне выклікала непаўторная ў любой ролі свайго вялікага рэпертуару народная артыстка СССР Б. Рудэнка.*

Фота Ул. КРУКА.







# НА СЦЭНЕ—ГЕРОІ ЖЫЦЦЯ

**АМАЛЬ тыдзень працягваецца ў Мінску рэспубліканскі агляд драматургіі і тэатральнага мастацтва, прысвечаны 50-годдзю ўтварэння СССР, які адкрыўся 20 лістапада спектаклем тэатра імя Янкі Купалы «У ноч зацьмення месяца».**

**У Беларусі поруч з п'есамі сваіх, беларускіх пісьменнікаў, ідуць п'есы рускіх, украінскіх, грузінскіх, малдаўскіх, кіргізскіх, башкірскіх драматургаў. Вось некалькі штрыхоў да спектакляў, якія ўдзельнічаюць у аглядзе.**



«Снежныя зімы». Сцэна са спектакля.



«У ноч зацьмення месяца». Сцэна са спектакля.



«Тапалька мая...». Сцэна са спектакля.



«Памяць сэрца». Сцэна са спектакля.



«Чалавек збоку». Сцэна са спектакля.

## ЧАМУ ВЯРТАЮЦЦА БУСЛЫ?

*І. Друцэ. «Птушкі нашай маладосці». Магілёўскі абласны тэатр драмы і камедыі (у Бабруйску). Рэжысёр Ул. Шыманскі.*

— П'есу І. Друцэ «Птушкі нашай маладосці» паставілі многія тэатры краіны, — расказвае галоўны рэжысёр тэатра В. Каралько. — Да ролі цёткі Руцы — гераіні гэтай п'есы — большасць актрыс прыйшла складанымі акцёрскімі шляхамі. Няўдачы, пошукі, знаходкі, зноў пошукі... Ды гэта і зразумела. Каб стварыць такі характар, расказаць такую біяграфію, трэба мець вялікі жыццёвы і акцёрскі вопыт.

Таму, калі ролю цёткі Руцы мы даверылі актрысе нашага тэатра А. Палухінай (думаецца, што яна самая маладая выканаўца гэтай ролі ў краіне), гэта было і рызыкоўна і адказна. Але актрыса зрабіла ўсё магчымае і нават, бадай, немагчымае, каб стварыць на сцэне складаны вобраз, данесці да гледача філасофскі кантэкст ролі...

Актрыса А. Палухіна расказвае:

— Мы з рэжысёрам Ул. Шыманскім многа думалі, чыталі... Я ездзіла ў Малдавію. І хоць мы не імкнуліся стварыць вобраз менавіта малдаўскай жанчыны, вельмі хацелася пазнаёміцца з жыхарамі тых месц, дзе нарадзілася п'еса, у якую ўсе мы, удзельнікі спектакля, па-сапраўднаму ўлюбёныя. А гэта, як вядома, бывае не так ужо часта.

## НАШ МАЛАДЫ ГРУЗІНСКІ СЯБРА

*Н. Думбадзе. «Не хвалюйся, мама!» Гомельскі абласны драматычны тэатр. Рэжысёр, народны артыст БССР І. Папоў гаворыць:*

— Мы заўсёды праяўлялі вялікую цікавасць да шматнацыянальнай драматургіі нашай краіны. Падрыхтоўка да 50-годдзя ўтварэння СССР яшчэ больш пашырыла творчыя сувязі і кантакты. Мы паставілі п'есы ўкраінскіх драматургаў А. Каламійца «Першы грэх» і Л. Сінельнікава «Хвалі над намі». Аўтар апошняй пабываў у нас у гасцях.

На п'есе Надара Думбадзе «Не хвалюйся, мама!» мы спыніліся не выпадкова. У ёй закранаюцца многія важныя актуальныя пытанні сучаснага жыцця, ідзе гутарка аб тым абавязку, які ёсць у кожнага перад людзьмі і перад грамадствам, аб любві і адданасці Радзіме. Малады герой п'есы, хлопец з грузінскага сяла Таймураз Джакелі, выбірае для сябе дарогу ў жыццё. А наш тэатр заўсёды хвалявалі пытанні фарміравання чалавечай асобы.

Нас вельмі падкупілі паэтычны лад п'есы, мяккі лірызм, дасціпнасць і прыгажосць — якасці, якія наогул уласцівы драматургіі Думбадзе. Таму ўсе ўдзельнікі спектакля працавалі над ім з задавальненнем. Цэнтральныя ролі выконваюць маладыя акцёры Святлана Гаркуша і Валерый Смірноў.

Спектакль па грузінскай п'есе мы выпусцілі, калі былі на гастролях у Бранску. А потым паказалі ў сябе, у Гомелі.

## ЗА КАЗКАЙ — ЯВА

*В. Пальчынскайтэ. «Я спяшаюся за летам». Тэатр юнага гледача. Рэжысёр А. Рагаўскайтэ.*

У цудоўную краіну, дзе растуць яркія, духмяныя, дзівосна прыгожыя кветкі, прыйшло пустазелле. Злоснае, каварнае, нястрымнае... Нічога дзіўнага: злосць і прыгажосць рэдка суіснуюць. І таму пустазеллю не спадабаліся прыгожыя кветкі. Пачалася вайна.

— П'еса-казка літоўскай пісьменніцы Віялеты Пальчынскайтэ спадабалася мне сваёй вобразнасцю, адсутнасцю дыдактыкі, — расказвае паэт А. Вярцінскі, — проста і ненадакучліва яна падводзіць дзяцей да сур'ёзных вывадаў, прымушае іх задумацца над тым, што такое дружба, любоў, вернасць, як неабходна ўсё гэта ў жыцці, каб перамагала цудоўнае. У п'есе шмат выдумкі, фантазіі, а гэта так любяць дзеці. Вось таму я і ўзяўся перакладаць казку з літоўскай мовы на беларускую...

## ІЛЬЯС АЛЫБАЕЎ ШУКАЕ СЯБЕ

*Ч. Айтматаў. «Тапалька мая...» Магілёўскі абласны драматычны тэатр. Рэжысёр Ул. Караткевіч.*

Кіргізскі пісьменнік Чынгіз Айтматаў — адзін з самых папулярных савецкіх пісьменнікаў. Не так-та проста перакласці яго паэтычныя, вельмі своеасаблівыя па ладзе і кампазіцыі творы на мову тэатра і кіно. Аднак гледачы ўжо ўбачылі на экранах карціны «Першы настаўнік», «Мацярынскае поле», «Спякота», «Бег інаходца», «Джаміля», у аснову якіх лягла айтматаўская проза.

У тэатры — куды цяжэй. Але надта вялікая прыцягальная сіла твораў кіргізскага пісьменніка — і на сцэну выходзяць героі Чынгіза Айтматава.

Адзін з іх — Ільяс Алыбаеў з аповесці «Тапалька мая ў чырвонай хусцінцы», інсцэніраванай для тэатра і пастаўленай у Магілёве.

Ільяс — шафёр, чалавек неўтаймаванага характару, дзёрзкі і няўрымслівы. І ведучы аб ім размову, тэатр узнімае вялікую і важную тэму: чалавек і сфера маральных норм. Ільяс увесь час нечага шукае — месца ў жыцці, шчасця, любві... І ў знаходках, і ў стратах фарміруецца яго характар, выпрацоўваецца светапогляд.

Ільяса іграе на магілёўскай сцэне артыст А. Гаманюк.

— Некалькі гадоў назад, калі я толькі прыйшоў у Магілёўскі тэатр, я ўжо марыў пра гэту п'есу, — расказвае галоўны рэжысёр Ул. Караткевіч. — І вось мы яе паставілі.

## «СНЕЖНЫЯ ЗІМЫ» ПАЧАЛІ ТЭАТРАЛЬНУЮ БІЯГРАФІЮ

*І. Шамякін. «Снежныя зімы» (інсцэніроўка І. Шамякіна і Ул. Ганчарова). Тэатр імя Я. Коласа. Рэжысёр, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР С. Казіміроўскі.*

— Раман І. Шамякіна прыцягнуў нас перш за ўсё тым, што ў цэнтры — вобраз сумленнага, бескампраміснага камуніста Антанюка, — сказаў рэжысёр. — Стварыць такі характар на сцэне мараць многія артысты. Івану Антанюку супрацьстаіць дырэктар буйнага інстытута Валянцін Будыка. Гэта людзі, якія ідуць па жыццю рознай хадой. Але паколькі і той, і другі — асобы моцныя, то ў іх ёсць, натуральна, прыхільнікі і праціўнікі. Сутыкненне паміж імі і нараджае асноўны канфлікт драмы.

У «Снежных зімах» адчуваецца сувязь часоў — мінулага, сучаснага і будучага...

●

Абласныя тэатры, якія атрымалі права прыняць удзел у аглядзе, паказваюць свае спектаклі на галоўнай сцэне Беларусі — купалаўскай.

Тэатр імя Янкі Купалы прадставіў на агляд спектакль па п'есе Мустая Карыма «У ноч зацьмення месяца». Спектакль ужо быў паказаны ў Маскве і атрымаў прызнанне сталічнага гледача. Надоўга застанецца ў памяці акцёраў цёплая сустрэча з аўтарам п'есы. Пакажуць купалаўцы і сваю даўнюю работу — «Памяць сэрца» па п'есе А. Карнейчука.

А на сцэну Рускага драматычнага тэатра імя М. Горкага ў дні агляду выйдзе чалавек працы, стваральнік матэрыяльных каштоўнасцей, інжынер Чашкоў. Чалавек выдатны, народжаны ў век навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, наш сучаснік. І, напэўна, без такога героя паказ быў бы далёка няпоўным. «Герой майго твора — інжынер, начальнік гіганцкага цэха, — гаворыць ленінградскі драматург Ігнацій Дварэцкі. — Змест: барацьба новага са старым. Барацьба гэтая вечная. У гэтым сэнсе кожны твор можна назваць «Бітвай у дарозе».

Героі жыцця — героі на сцэне. Пра гэта сведчыць агляд спектакляў, якія адбываецца ў Мінску напярэдадні знамянальнай даты.

# ЧАСОПІСАМ — ВЫДАТНАЕ АФАРМЛЕННЕ І ПАЛІГРАФІЧНАЕ ВЫКАНАННЕ

*Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў СССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю, Цэнтральнае праўленне НТТ паліграфіі і выдавецтваў і праўленне Саюза журналістаў СССР аб'явілі чарговы Усесаюзны конкурс на лепшыя часопісы па мастацкім афармленні і паліграфічным выкананні. Мэта конкурсу — садзейнічаць далейшаму павышэнню ідэйна-мастацкага ўзроўню выданняў, іх лепшаму афармленню і паліграфічнаму выкананню.*

*У конкурсе могуць удзельнічаць грамадска-палітычныя, масавыя ілюстраваныя, навуковыя, навукова-тэхнічныя, навукова-папулярныя, вытворча-масавыя, літаратурна-мастацкія, мастацтвазнаўчыя, дзіцячыя, гумарыстычныя і іншыя часопісы. На конкурс часопісы могуць рэкамендавацца ведамствамі і арганізацыямі, чыімі выданнямі яны з'яўляюцца, рэдакцыямі і выдавецтвамі.*

*Пададзеныя на конкурс часопісы разглядаюцца па групах аднаго тыпу выдання і ацэньваюцца па ўсіх элементах мастацка-тэхнічнага афармлення і паліграфічнага выканання. Пры разглядзе выданняў улічваюцца ідэйны і літаратурны ўзровень часопіса, мастацкія вартасці афармлення, адпаведнасць афармлення прызначэнню і зместу часопіса, арыгінальнасць творчай задумы, сучаснасць і прафесійнасць выканання, наватарскія прыёмы ў канструяванні і стварэнні адзінства ансамбля выдання, якасць макетавання і вёрсткі, якія найбольш поўна раскрываюць індывідуальныя асаблівасці выдання, эканамічная мэтазгоднасць сродкаў афармлення, прымяненне новых тэхнічных працэсаў, матэрыялаў, шрыфтаў, удасканаленне якасці паліграфічнага выканання.*

*На конкурс падаюцца часопісы, выдадзеныя за перыяд з 1 студзеня па 31 снежня 1972 года ў трох экземплярах паслядоўна выпушчаных 3 нумароў, а таксама кароткая даведка. Апошні тэрмін падачы часопісаў на конкурс — 15 лютага 1973 года.*

*Для ўзнагароджання ўдзельнікаў конкурсу за лепшае мастацка-тэхнічнае афармленне і паліграфічнае выкананне часопісаў устаноўлены спецыяльныя дыпломы: дыплом імя Івана Фёдарава, дыпломы 1-й, 2-й і 3-й ступеняў.*

*Зацверджаны склад журы Усесаюзнага конкурсу, у які ўвайшлі спецыялісты часопісна-выдавецкай справы, мастакі, журналісты, мастацтвазнаўцы, работнікі паліграфіі. Усяго 32 чалавекі. Старшынёй журы абраны прадстаўнік Усесаюзнай секцыі мастакоў перыядычнага друку Саюза журналістаў, народны мастак РСФСР А. Н. Яр-Краўчанка.*

*Рэдакцыям часопісаў і калектывам паліграфічных прадпрыемстваў нашай рэспублікі неабходна прыкласці ўсе сілы, вопыт і веды, да таго ж, каб кожны часопіс, які выдаецца ў Беларусі, мог стаць у шэраг лепшых і адпавядаць самым высокім патрабаванням савецкага чытача.*

*Прыняць актыўны ўдзел у чарговым Усесаюзным конкурсе на лепшыя часопісы 1972 года — абавязак кожнага журналіста, паліграфіста і мастака.*

Пімен ПАНЧАНКА

# НАШАЙ ДРУЖБЕ МАЦНЕЦЬ

ДЗЕ ВЫТОКІ, дзе пачатак нашай вялікай дружбы? Дзе тая крыніца, з якой мы разам—грузіны, армяне, азербайджанцы, беларусы — п'ём ужо які час цудадзейнае пітво шчырай любві і ўзаемапавагі?

Мажліва, тыя вытокі яшчэ ў неўміручых словах Шата Руставелі — «другу верны друг паможа»... Або ў творчасці Давіда Мачыбелі, які з бязмежнай любоўю ўславіў у сваёй паэме рускага паэта-дзекабрыста Аляксандра Бястужава-Марлінскага? І тое ж горача высакароднае імкненне да дружбы з народамі Закаўказзя ў творах Грыбаедава, Пушкіна, Лермантава?

Гэтых вытокаў многа... Адно ясна: парасткі плённай дружбы з'явіліся даўно. А расквітнелі па-сапраўднаму нашы сяброўскія стасункі толькі пасля Вялікага Кастрычніка, які аб'яднаў народы дарэвалюцыйнай царскай Расіі ў адзіную магутную сям'ю.

Памяць вяртае мяне ў трыццатыя гады... Думаю, што мы, літаратары, адкрылі для сябе Грузію як краіну менавіта ў гэты час. І першаадкрывальнікам быў ніхто іншы, як наш незабыўны пясняр Янка Купала. Яго шчодрае на любоў да людзей сэрца не магло не адгукнуцца на такое ж пачуццё грузінскіх сяброў. Грузіі паэт прысвячае шэраг вершаў—«Грузія», «Сонечнаму Шата Руставелі», «Генацвале»... Многа і пераклаў ён твораў грузінскіх аўтараў на беларускую мову. Пазней Вярхоўны Савет Грузінскай ССР нават узнагародзіў Янку Купалу Ганаровай граматай за пераклады твораў А. Цэрэтэлі.

Беларусь наведалі грузінскія пісьменнікі Жгенці, Джавахішвілі, В. Буачыдзе, К. Лордкіпанідзе, Гветадзе, Кутатэлі, Дадыяні і іншыя. Выязджалі ў Грузію Я. Купала, Я. Колас, П. Броўка, П. Глебка, М. Лынькоў, Э. Самуйлёнак, Б. Мікуліч, В. Вольскі і інш. Паездка дала, як вядома, вельмі добрыя вынікі—пісьменнікі расказалі аб Грузіі ў сваіх празаічных і паэтычных творах.

А колькі з'явілася перакладаў у нас за апошні час з грузінскай мовы! Колькі перакладзена твораў беларускіх празаікаў і паэтаў у Грузіі! Раманы І. Шамякіна і П. Броўкі, зборнікі «Беларускія апавяданні» і «Беларуская савецкая паэзія», апавяданні Я. Брыля і І. Мележа, вершы М. Танка і А. Пысіна, А. Куляшова і М. Аўрамчыка, Р. Барадуліна і Г. Бураўкіна—ды ці ўсё пералічыш? І гэта, безумоўна, найлепшым чынам сведчыць аб нашых сталых творчых сувязях. І не толькі аб сувязях літаратурных... Умацаваліся сувязі беларусаў як з грузінскім, так і з іншымі народамі Закаўказзя і ў галіне эканомікі. За гады Савецкай улады Грузія ператварылася ў індустрыяльную рэспубліку з перадавой сацыялістычнай эканомікай і культурай.

Жыватворнае супрацоўніцтва і дружба наша, якой вось-вось будзе пяцьдзесят год, як ніколі ўмацаваліся ў грозныя гады Вялікай Айчыннай вайны. Грузіны з іншымі народамі СССР гераічна змагаліся з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Мы выйшлі з гэтага цяжкага выпрабавання пераможцамі. І нам, беларусам, прыемна ўспамінаць, што сярод беларускіх партызан было нямала і грузін, бязмежна адданых сваёй Савецкай Радзіме, мужных людзей. А «ці ёсць на свеце што-небудзь больш цудоўнае, чым мужнасць храбраца, які трапіў у бяду?» Гэтыя мудрыя, дзівосныя словы належаць грузінскаму пісьменніку Канстанціну Лордкіпанідзе, які сам прайшоў цяжкімі дарогамі Вялікай Айчыннай вайны і ў сваёй творчасці адлюстраваў гэты гераічны час.

На нашай беларускай зямлі ніколі не забудуць тых, хто аддаў жыццё за свабоду і незалежнасць сваёй Радзімы. Мне нярэдка даводзіцца бываць на Віцебшчыне, і я чуў, з якой любоўю і ўдзячнасцю гавораць мясцовыя жыхары аб грузінскім паэце, воіне Мірзо Гелавані, які загінуў тут у гады вайны...

Асабіста мне пашанцавала наведаць Грузію толькі ў 1966 годзе, калі я з групай беларускіх пісьменнікаў прымаў удзел у святкаванні 800-годдзя з дня нараджэння Шата Руставелі. У Тбілісі тады адбыўся аб'яднаны пленум праўлення СП СССР і Грузіі. Было многа гасцей — прадстаўнікі ўсіх братніх рэспублік, дэлегацыі з-за мяжы... І тады, мажліва, я ўпершыню адчуў, якая гэта цудоўная краіна, якой павагай карыстаецца яна не толькі ў вялікім сузор'і братніх рэспублік, але і ва ўсім свеце. Памятаю, на юбілейных урачыстасцях выступаў адзін англійскі вучоны і гаварыў ён на чыстай грузінскай мове, якую вывучыў з-за пашаны да культуры старажытнай краіны.

Мы, беларускія літаратары, прывезлі на гэта ўсенароднае свята свой падарунак — новы пераклад неўміручай паэмы Шата Руставелі «Віцязь у тыгравай шкуры»... І дні, якія правялі мы ў Грузіі, запомніліся на ўсё жыццё. Праехалі краіну ад Тбілісі да горнага гарадка Вардзія, бліжэй пазнаёміліся з надзвычай працавітымі і шчырымі людзьмі, з іх мінулым і сучасным, з іх дасягненнямі, і на кожным кроку адчувалі незвычайную гасціннасць гаспадароў. Уразіла нас і маляўнічая прырода гэтага паўднёвага краю... Яна такая ж шчодрая, як і сэрцы грузін. Нават ведаючы, што ў грузін, параўнаўча невялікага народа, багатая фальклорная спадчына, мы былі ўражаны тымі шматлікімі песнямі, паданнямі, што пачулі, і тымі прыгожымі танцамі, што ўбачылі... А сярод унікальных помнікаў старажытнай культуры народа асабліва запомнілася мне наведанне ў Мцхета кафедральнага сабора Свеці-Цхавелі, пабудаванага таленавітым грузінскім дойлідам Арсукідзе ў 1010—1029 гг. Сабор—адзін з найбольш вядомых узораў старажытна-грузінскага дойлідства і сведчыць аб таленавітасці гэтага народа.

Сяброўскія творчыя сувязі з грузінскімі пісьменнікамі даўно ўвайшлі ў маё жыццё. Я сустракаўся з імі і ў час творчых нарад у Маскве, і на святкаваннях розных юбілеяў у братніх рэспубліках. І я не памылюся, калі скажу, што мне, як паэту, многае дала творчасць такіх вядомых песняроў Грузіі, як Табідзе, Чыкавані, Каладзе, Леанідзе. У іх вельмі яркая паэзія, выразная па думцы, афарыстычная, надзвычай каларытная, якая напоўнена, бы той сакавіты вінаград, пяшчотай і сілай паўднёвага сонца...

Асабліва добрыя стасункі ўсталяваліся ў мяне з Міхаілам Квлівідзе. Гэта — своеасаблівы, таленавіты паэт, харошы сябра. Мне падабаюцца ў яго лірычных вершах і гарачая страснасць, і сур'ёзная разважлівасць, і тая афарыстычнасць, пра якую я ўжо гаварыў. З вялікай радасцю я падпісаўся б пад такімі гучнымі радкамі паэта, якія прыводжу з рускага зборніка:

**Мне не утратить к людям интереса**
**и я, надеюсь, им необходим.**
**Что я один!**
**Я—как кусок железа—**
**звеню тогда, когда столкнусь с другим...**

...Традыцыі нашых творчых сувязей з грузінскімі, армянскімі і азербайджанскімі пісьменнікамі працягваюцца. Эстафету гэтай плённай дружбы зараз падхапіла маладзейшае пакаленне літаратараў рэспублікі. Максім Горкі ў свой час вельмі трапна і слушна гаварыў аб ганаровай і адказнай місіі пісьменнікаў у справе ўмацавання дружбы — праз літаратуру народы знаёмяцца адзін з адным... Дык будзем жа заўсёды памятаць гэты важны запавет вялікага пралетарскага пісьменніка і настойліва ператвараць яго ў жыццё.

Самед ВУРГУН

Азербайджан

## МАСКВА

Толькі ўспомню цябе—і натхненне са мной,
Даражэй за дыханне мне, горад ты мой.
Старажытную славу тваю не забыць,
Перад ворагам сэрца тваё не дрыжыць.
Хай маланка і хмары, і ветру размах,
Не змаўкае сваяшчэннае сэрца ў грудзях!
За чужынцам страла паляціць наўздагон,
У прыродзе ёсць мудры, вялікі закон:
Ў самай чорнай бядзе ні на міг, ні на дзень
Не пагасне гарачага сэрца прамень!

Хіба можна вясною паводку спыніць?
Хіба ісціну можна пятлёй задушыць?..
Ты дагледжаны вечна бацькоўскай рукой,
Горад радасці, шчасця і працы людской!
О Масква, ты заўсёды пад ззяннем зары,
Майму сэрцу ты ўмееш натхненне дарыць.
Адчуваў, як ад маці, я ласку тваю
І, як сын, пачуццё да цябе я таю.
Мы з табою раздзялілі і хлеб наш і соль,
Мы з табою адчулі і радасць і боль.
Гартаваліся еднасць, братэрства ў агні,
Наша сіла у дружнай і кроўнай радні.
Адступаць не прывыкла ты, наша Масква,
Ты, як вечнасць сама, дарагая Масква!
Рускі брат — гэта годнасць твая і твой шлях,
Гэта — ленінскі дом, гэта — сонечны дах.
Ты, Масква, з перамогай наперад ідзеш
І твой розум празрысты, як пушкінскі верш.

Горад сэрца! Ты волю нясеш у руках,
Ты адвагай гарыш — перамога ў баях!
За цябе і вінтоўка, і сэрца маё.
О Масква! — Гэта лепшае слова маё!
Патаемныя словы Айчыны святой,
Чалавецтва злілося з тваёю красой.
У нас думкі з табою навекі адны,
Падымаюцца ў бой дарагія сыны.
Гэта — бой, каб не змеркнуць вялікай Маскве,
Гэта сэрца байца барыкадай жыве,
Гэта — песня і воля, і камень і штык
Не дапусцяць чужынцаў да вежаў святых.
... І забойцы крывавыя гэтай зімой
Знойдуць толькі магілу сабе пад Масквой.

1941

Пераклаў Ю. СВІРКА

Герман САР'ЯН

Арменія

## МАК

Паўшым ў маі 1920 года за Савецкую Арменію.

Мне ўсміхнуўся ў полі раніцою
Чырвоны мак, прыгожы, дзіўны мак,
Нібы загаварыў той мак са мною,
Здавалася, ён падаваў мне знак:

— Мой кроўны брат, спыніся прада мною,
Рукой мае пялёсткі закрані.
У гэтым полі кожнаю вясною
Хацеў цябе сустрэць я ў цішыні.

Ад свайго сябра ты прымі вітанне,
Яго пагляд пялёсткі зберaглі.
Ён мне аддаў апошняе дыханне,
Каб кветкі пунсавелі на зямлі.

Тут, на зямлі, дзе я расту праз годы,
Ён у баі загінуў як герой.
Ён быў мяцежны, баявы і горды,
Сваё жыццё звязаў ён з барацьбой.

Ён у зямлі застаўся, як паданне,
Яго сябры тады схавалі тут.
Каб да цябе данесці прывітанне,
Я, можа, з сэрца мужнага расту...

— Чырвоны мак, прыгожы і праменны,
Скажы,
Каб вестка да яго дайшла,
Што наша старажытная Арменія,
Нібы вясною ружа, расцвіла.

І ў небе, і ў полі, і ў забоі,
І ў рытме дзён, і ў сэрцах трапятких,
Скажы,
Што мы такіх, як ён, герояў...
Запомнім, зберажом на ўсе вякі.

Пераклаў Ю. СВІРКА



Каўказскі краявід.

## Эд. ТАПЧАН
Арменія

# УПОРАВЕНЬ З ЧАСАМ

ПАЎВЕКАВАЯ гісторыя савецкай армянскай літаратуры неаддзельна ад гісторыі шматнацыянальнай савецкай літаратуры. Наша літаратура дыхала адным уздыхам з рускай і іншымі братнімі літаратурамі, піла з адной крыніцы і ў нацыянальнай мастацкай форме адлюстроўвала сацыялістычнае жыццё нашага народа. Дзякуючы гэтаму яна выйшла за рамкі культуры адной нацыі і заваявала ўсесаюзнае і сусветнае прызнанне.

Свой артыкул «Інтэлігенцыя і рэвалюцыя» (1918 год) Аляксандр Блок завяршае такімі словамі: «Усім сэрцам, усёй свядомасцю слухайце рэвалюцыю». Армянскі народ, які знаходзіўся на краі пагібелі, прыслухоўваўся да голасу рэвалюцыі з глыбокай верай у сваё выратаванне. Вялікі паэт Аванес Туманян праз два месяцы пасля перамогі Кастрычніка пісаў: «Я думаю, што вялікія імкненні бальшавізма не чужыя душы рускага чалавека. А рускі народ наогул заклікаíны выканаць вялікую місію ў жыцці народаў». Гэтай вялікай верай жылі армянскі народ і армянская літаратура. Не выпадкова ў 1918 годзе ў паэмах «Сома» і «Нястрымныя натоўпы» Чарэнц не толькі паказаў значэнне Кастрычніцкай рэвалюцыі для вызвалення ўсяго чалавецтва, але і выказаў непахісную волю армянскага народа ісці па шляху Кастрычніка.

Першымі паэтычнымі словамі Савецкай Арменіі былі словы пра братэрства, з якімі вялікі Чарэнц звяртаўся да працоўных усяго свету. Паэт глыбока ўсведамляў, што пачынаецца новая эпоха, эпоха інтэрнацыяналізму і дружбы народаў, і лёс армянскага народа непарыўна будзе звязаны з пабудовай сацыялістычнага грамадства.

Першымі героямі армянскай савецкай літаратуры былі людзі, якія перажылі горыч і нягоды мінулага, бачылі смерць і разбурэнні і, дзякуючы новаму ладу, усвядомілі сваю чалавечую годнасць і аддана змагаліся за новае жыццё. Узнаўляючы праўду рэчаіснасці, Е. Чарэнц, А. Акапян, Д. Дэмірчан, Ст. Заран, А. Бакунц, Н. Заран, Г. Саран стварылі вобразы першых камуністаў, чыё гераічнае жыццё вызначала гістарычны шлях народа.

Багацце фарбаў і адценняў паэтычнага свету нярэдка параўноўваюць з вясёлкай. Гэта параўнанне цалкам можна прымяніць да нашай паэзіі. «Чакаю цябе» Н. Зарана, «Хрызантэма» Г. Сар'яна, «Мара» Сармена, «Помнік маці» Аванеса Шыраза, «Дзе ты, планета кахання» Ашота Грашы, «Песні скал», «Мая песня» С. Капуцікян, «Дваццаты век» Г. Эміна, «Дым Айчыны» В. Даўцяна, «Дзікая ружа» Р. Аванесяна і іншыя кнігі сведчаць аб сталасці, шматграннасці і новым узроўні нашай паэзіі. У гэтых кнігах, якія складаюць толькі частку выдадзенай у апошнія гады паэтычнай прадукцыі, пэўна выяўляюцца грамадзянскі дух паэзіі, яе сувязь з традыцыямі мінулага і наватарскія накіраванні.

Імкненне да пошуку і адкрыцця новага шырока праяўляецца ў творах нашых паэтаў сярэдняга пакалення. Зборнікі «З табой, сэрца маё» А. Сараяна, «Зялёны кастрычнік» Л. Мірыджаняна, «Прэлюдыя ў гарах» В. Карэнца, «Ды праслаўлю» Л. Дурана, «Вершы» Г. Туманяна, «Сонца маё, сэрца маё» Н. Мікаеляна, «Паўдзённы кліч» С. Харазяна, «Рэквіем» Р. Даваяна, «Жыць і кахаць» Арамаіса Саакяна выдзяляюцца свежасцю думак, пачуццяў і паэтычных форм. Аўтары гэтых кніг, разглядаючы пытанні сучаснасці, спалучаюць нацыянальныя традыцыі паэзіі з інтэрнацыянальнымі, хаця ў нас творчыя рознагалоссі адносна традыцый працягваюцца і набываюць усё новыя і новыя формы. Гэта натуральна і зразумела, паколькі развіццё паэзіі адбываецца ў складанай узаемасувязі ідэй і паэтычных форм, дзе выкарыстоўваюцца магчымасці старых і новых традыцый.

Адна з асноўных тэм нашай паэзіі — патрыятызм, магутнае пачуццё, якое выказвае жывую сувязь паэта з роднай зямлёй і лёсам народа.

Паўвека ўжо, як мы з законным гонарам лічым сваёй Радзімай не толькі Арменію, але ўвесь Савецкі Саюз. Ад Арарацкай даліны наша Радзіма распасціраецца да Масквы, да Казахстана і Узбекістана, да Украіны і Беларусі.

Імкненне адлюстроўваць жыццё новымі мастацкімі сродкамі больш ярка выяўляецца ў паэзіі маладых. Адмаўляючыся ад традыцыйных форм і памераў, маладыя паэты спрабуюць пашырыць рамкі ахопу рэчаіснасці, павялічыць ёмістасць паэтычнага слова. З гэтай мэтай яны адыходзяць ад традыцыйнага ўспрымання рэчаў і з'яў і прыбягаюць да бязрыфмаваных вершаў. Усё гэта, вядома, не іх адкрыццё, не навіна, аднак імкненне асэнсаваць з'яву жыцця з новага пункту гледжання, несумненна, трэба заахвочваць.

Усё яшчэ актуальна для нас тэма Вялікай Айчыннай вайны.

Раманы і аповесці «Недзе заканчваецца гарызонт» Х. Гюльназарана, «Ваенны дзённік» С. Ханзадзяна, «Асуджаныя лёсам» і «Сяржант Каро» М. Саркісяна, напісаныя на розным мастацкім узроўні, але з верных агульных пазіцый, на новым матэрыяле паказваюць удзел армянскага народа ў Айчыннай вайне, сілу дружбы народаў, непераможны дух савецкіх воінаў.

Устанаўленню Савецкай улады ў Арменіі папярэднічаў цяжкі і змрочны перыяд, калі з-за авантурыстычнай палітыкі нацыяналістычных партый Закаўказзе было адарвана ад Расіі і аддадзена на літасць імперыялістычных дзяржаў і турэцкіх пагромшчыкаў. Падзеі гэтага ракавога перыяду, унутранае і знешняе палітычнае проціборства, самадданая барацьба камуністаў за выратаванне народаў Закаўказзя праўдзіва, на багатым гістарычным матэрыяле, адлюстраваны ў раманах «Сказ пра пальму» М. Шатырана, «Магіла невядомага салдата» А. Мкртчана.

Ніколі яшчэ не ствараласяі так шмат твораў маладых празаікаў, як у гэтыя гады. Найбольш значныя з іх: «Бацька сям'і» А. Айвазяна, «Пражытыя і непражытыя гады» В. Петрасяна, «Клод Роберт Ізерлі» П. Зэйтунцяна, «Дзе ты быў, чалавек?» З. Халапяна, «Жнівень» Г. Мацевасяна, «Марафон» А. Калантарана, «Сіцыліянская абарона» К. Сіманяна, «Чорныя і белыя лебедзі» Г. Аршакяна і інш.

Творчасць маладых знамянуе сабой новую якасць у развіцці нашай літаратуры. Тэматычная і жанравая шматграннасць, літаратурная культура прозы маладых — відавочны. Але гэта толькі знешнія прыкметы. Галоўнае — сучаснасць зместу, імкненне ставіць у сваіх творах праблемы сучаснага жыцця з грамадзянскай зацікаўленасцю.

Гэтыя поспехі і дасягненні, вядома, не павінны нас заспакойваць. Наперадзе шмат спраў. Перад нашай літаратурай стаяць задачы, якія адкрываюць новыя творчыя гарызонты. Ніколі не трэба забываць, што наша літаратура прызвана сцвярджаць жыццё, сцвярджаць ідэалы камунізму.

## Гусейн РАЗІ
Азербайджан

### СЯБРАМ

Я пра дружбу хачу гаварыць,
Без якой
нам і дня
не пражыць.
Дружба —
мост праз бурлівы паток.
Дружба —
ў спёку вады глыток.
Не ўяўляю,
Ці змог бы ў жыцці
Я без дружбы
столькі прайсці.
І не трэба напышлівых слоў,
Калі вернасць
яднае братоў.
Я дарогу прайшоў
не адну,
Зведаў радасць,
зведаў вайну.
Не бліндаж,
Не тоўшча брані
Мне жыццё зберaглі ў тыя
дні—
Ратавала дружба мяне.
За браню
Наша дружба мацней!

## Сільва КАПУЦІКЯН
Арменія

### ЗЯМЛЯ

Тут вайна грымела. Пошум
лесу
не напомніць пра мінулы бой.
Згасла смертаноснае жалеза
І варонка зарасла травой.

Паднялася маладая хвоя,
Дуб стаіць магутны ў плячах.
Сонца ён трымае над сабою,
Белы грыб трымае ў каранях.

Густалапых елак звіслі шаты,
Захілілі трэшчыны зямлі.
А навокал колерамі свята
Незабудкі ярка расцвілі.

Не, мы не забылі,
не забылі
І хіба забудземся калі
Пра зямлю, якую залячылі,
І пра шчасце гэтае зямлі.

Пераклаў К. КАМЕЙША.

## Карло КАЛАДЗЕ
Грузія

### ВЫСТРАЛ

— Радзіўся сын!
— Радзіўся сын! —
бабахнуў пісталет.
Той выстрал абвяшчаў гарам,
што я прыйшоў на свет.

Яшчэ, здавалася, дымок
клубіцца ля ствала,
а я хацеў ужо абняць
ўвесь свет дабра і зла.

Але астыў тады пістоль,
як толькі стаяў дым.
Мяне пужае на тахце
ён халадком сівым.

Дык што ж той выстрал
абвяшчаў?
У цемру ўзлёт іскры.
Мінута з громам напалам
ўзарвалася ўгары.

Каб толькі я ўбачыць мог
ізноў салюта дым!..
Ды прагрымеў увесь мой век
тым выстралам адным.

Пераклала Е. ЛОСЬ.

# «ПАЭЗІЯ — ДУША НАРОДА...»

*ГУТАРКА КАРЭСПАНДЭНТА «ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА» З ГРУЗІНСКІМ ПАЭТАМ КАРЛО КАЛАДЗЕ*



Карло Каладзе. Малюнак А. БАНДЗЕЛАДЗЕ.

*Наша размова аб паэзіі пачалася вельмі проста і напачатку нібы не зусім па тэме, здалёку — з успамінаў саракагадовай даўнасці... Карло Каладзе неаднаразова наведваў Беларусь яшчэ ў 30-я гады, сустракаўся з Янкам Купалам, Якубам Коласам і многімі іншымі беларускімі пісьменнікамі, добра памятае даваенны Мінск з яго ціхімі вуліцамі і маленькімі хаткамі — нават у цэнтры горада; ён з сумам прыгадвае іх, таму што тыя хаты былі для яго такімі ж сімпатычнымі і дарагімі, як драўляныя будыніны Масквы... Але разам з тым Карло Каладзе не хавае свайго захаплення велічным абліччам сучаснага Мінска: цудоўны горад!*

*Іскрыстыя, зусім яшчэ маладыя вочы на рухавым, даволі энергічным твары, вясёлы заразлівы смяшок і нейкая ваблівая жыццярадаснасць — такім прадстаў перада мной Карло Каладзе, цудоўны грузінскі паэт і драматург, адзін з зачынальнікаў грузінскай савецкай паэзіі...*

*Натуральна, размова зайшла аб «грузінскім вершы» Карло Каладзе, яго наватарскім вопыце ў паэзіі.*

**Карло Каладзе.** Калі гаварыць аб маёй барацьбе за абнаўленне грузінскага верша, то сёння пра гэта мне ўспамінаць і радасна, і журботна, і трохі горка... Многімі вершамі ахвяраваў я ў пошуках новай паэтычнай формы. Многа было і непрыемнасцей. Яны выклікалі пакуты. Але ж я настойліва шукаў, хоць часам мяне і дакаралі за «фармалістычнае наватарства». Чаго хаваць, было рознае: то я спрачаўся з класічнай формай верша і даводзіў паэтычную форму да гутарковай мовы, то, захапіўшыся фальклорам, насуперак дэкадэнцкай паэтыцы імкнуўся па-новаму ўзнавіць нацыянальны характар грузінскага верша. Але ў любой справе — не толькі ў паэтычных пошуках — важна зрабіць правільную выснову... Урэшце, калі ты адданы свайму народу, калі жывеш яго думкамі і надзеямі, служыш яму сваім розумам і сэрцам, ты, паэт, не можаш не пісаць для людзей проста і даходліва, і ніякія эксперыменты не перашкодзяць табе выпіць з вечнай крыніцы мудрай народнай паэзіі, ад чаго голас стане яшчэ дужэйшы і званчэйшы. Грузінскім паэтам у гэтым пашанцавала. У жыцці грузінскага народа паэзія заўсёды займала пачэснае месца. І не толькі таму, што яна несла шматвяковыя мары народа, яго душу — сам народ накіроўваў сваё жыццё так, што свае імкненні выказваў праз паэзію.

У старажытнай самабытнай культуры Грузіі народныя песні, прыгожыя легенды і паданні заўсёды былі ў пашане. Ды што казаць — і цяпер ні адно свята не абыходзіцца ў нас без вершаў, без песні...

**Так павялося ў Грузіі: любое —**
**Падзея, подзвіг, лёс або вясна —**
**Заўсёды пакідае за сабою**
**Расказаная ў вершах навіна.**

Некаторыя гавораць: сонечная Грузія дала свету Шата Руставелі, Давіда Гурамішвілі, Нікалаза Бараташвілі, Важа Пшавелу таму, што прырода ў нас багатая, велічная: чароўныя горы і даліны, сады і вінаграднікі... Што ж, не спрачаюся, ёсць у гэтым таксама ісціна. Але галоўнае ўсё ж — у гісторыі нашага свабодалюбівага народа, у пятнаццацівяковай гісторыі нашай культуры...

Ды закончым нашу размову аб мастацкай форме. Безумоўна, мастацкая форма не стаіць на месцы, яна развіваецца, мяняецца разам з ростам культуры народа і г. д., але адбываецца такое абнаўленне не ў шкоду народнай мове. Іншая справа, штучныя формы — яны не даўгавечныя, яны ніколі не прыжываюцца ў паэзіі...

— Бясспрэчна, наватарскі вопыт майстроў паэтычнага цэха ў Грузіі першых паслякастрычніцкіх дзесяцігоддзяў быў і застаецца невычэрпнай крыніцай натхнення для моладзі, аказвае моцнае ўздзеянне на ўвесь ход грузінскага літаратурнага працэсу. Як жа развіваюцца, на ваш погляд, традыцыі ў грузінскай савецкай літаратуры сёння? Ці задаволены прадстаўнікі старэйшага пакалення сваёй літаратурнай зменай?

**Карло Каладзе.** На моры бываюць розныя хвалі... Бывае і дзевяты вал. Я бачу гэтую магутную вялікую хвалю і ў нашай літаратуры. За апошняе дзесяцігоддзе грузінская паэзія і проза папоўніліся значнымі свежымі сіламі. У гэтым сэнсе 60-я гады нагадваюць мне 30-я... Сярод новага пакалення пісьменнікаў многа па-сапраўднаму яркіх дараванняў, таленавітых паэтаў і празаікаў, якім уласцівы і свае стылявыя асаблівасці, і свае адносіны да традыцый і наватарства, і свой кірунак ідэйна-мастацкага пошуку... Хто яны? Упэўнены, што многія імёны вам знаёмыя: гэта О. Іаселіяні, Н. Думбадзе, М. Мачаварыяні, Р. Джапарыдзе, Ш. Нішніянідзе, А. Чыладзе... Нарэшце, не магу не назваць Ганну Каландадзе, цудоўную паэтэсу...

Здараецца так: з'явіўся паэт арыгінальны, цікавы, аб ім усюды гавораць, яго пераймаюць... Ды вось паступова тое новае, што ён прынёс з сабой, ужо не новае, раствараецца ў вершах другіх. І хоць ён і піша потым так, як пісаў, але пра яго хутка забываюць. А вось паэтычны талент Ганны Каландадзе неяк адразу і нечакана засвяціўся на гарызонце — пасля дзесяці год яе маўчання... Над новай кніжкай паэтэсы варта паразважаць. Яна хвалюе ўсіх нас і радуе. І тут, бадай, да месца сказаць: гэтак жа, як дрэнныя вершы цягнуць назад, тармозяць, так вось добрыя творы ўзвышаюць літаратуру, дапамагаюць у агульным творчым працэсе.

Увогуле, маладыя пісьменнікі дастойна працягваюць мастацкі летапіс сацыялістычнай Грузіі, у які ўпісалі неацэнныя старонкі тыя, каго сёння па праву называюць класікамі грузінскай савецкай літаратуры: М. Джавахішвілі, К. Лордкіпанідзе, К. Гамсахурдзія, Г. Табідзе, Г. Леанідзе, С. Чыкавані, Д. Шэнгелая і другія. Прадстаўнікі маладога пакалення грузінскай літаратуры, як і іх папярэднікі, імкнуцца ўзняць у сваіх творах найбольш вострыя і актуальныя праблемы сучаснасці, увасобіць у мастацкіх вобразах жыццё рабочага, калгасніка, інтэлігента нашых дзён. А тут — шырокае поле для маральнай праблематыкі...

— Магчыма, гэтае пытанне падасца крыху прыватным... У вашых лірычных вершах адчуваеш столькі любві да родных гор і далін, да сівых снежных вяршынь і шумлівых горных рэк... Вы і зараз, жывучы ў Тбілісі, не забываеце, наведваеце родныя мясціны?

**Карло Каладзе.** Вёска Джыгтубані на зямлі старажытнай казачнай Калхіды, дзе я нарадзіўся, — заўсёды ў маім сэрцы... Але ў нас няма такога пісьменніка, які б не быў цесна звязаны са сваім родным котлішчам, не любіў яго. Ды і як інакш? Там — дзяцінства, юнацтва, родныя... Там — першы глыток паветра і першы позірк у блакітнае бяздонне неба. Але, бадай, рэдка дзе ў невялікай краіне сустрэнеш гарады і сялібы, якія так рэзка адрозніваюцца адзін ад аднаго. Як кажуць, мова — адна, а горы — розныя... І характары грузін розныя, прырода накладвае свой адбітак. Гэта вельмі прыкметна ў творчасці пісьменнікаў рэспублікі. Кожны паэт — своеасаблівы. І цудоўна ж: творчасць усіх уліваецца ў адзін паўнаводны паток, імя якому — грузінская савецкая літаратура.

— Ці не маглі б вы прыгадаць найбольш яркія старонкі сувязей грузінскіх і беларускіх літаратараў?

**Карло Каладзе.** Сяброўскія сувязі, аб якіх я ўжо гаварыў на пачатку размовы, пачаліся між грузінскімі і беларускімі літаратарамі яшчэ ў даваенныя гады. Можна лічыць, што менавіта ў 30-я гады грузіны вельмі блізка пазнаёміліся з Беларуссю... І абавязаныя гэтым яны былі перш за ўсё сваім пісьменнікам, нястомным вандраўнікам па Краіне Саветаў. Нашы літаратары асабліва ахвотна наведвалі вашу рэспубліку, знаёміліся з жыццём, звычаямі, мастацтвам беларусаў, а вярнуўшыся дадому — расказвалі аб усім у сваіх творах. Прыгадваецца, менавіта плёнам такіх паездак былі беларускія навелы Раждзена Гветадзе. «Беларускія апавяданні» Канстанціна Лордкіпанідзе, цыкл вершаў пра Беларусь Іла Мосашвілі. Ды і беларускія пісьменнікі не былі ў крыўдзе на Грузію: рэспубліка як самых жаданых сяброў прымала прадстаўнікоў братняй рэспублікі... Мы дагэтуль помнім Эдуарда Самуйлёнка, яго «Будучыню», якую ён напісаў дзякуючы наведванню Грузіі. Мы захоўваем у сэрцах памяць аб сустрэчах са слаўным сынам беларускага народа Янкам Купалам. І вось, калі я прыехаў на святкаванне 90-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа, я наведаў і мемарыяльны комплекс нашага незабыўнага друга Янкі Купалы. Прыгадаліся сустрэчы з ім, размовы аб шляхах творчасці... І было прыемна думаць аб тым, што героі твораў Я. Купалы, як і Я. Коласа, заваявалі шырокую папулярнасць у Грузіі, што іх ведаюць і любяць у нашай рэспубліцы і рабочы ад станка, і чаявод, і школьнік горнай сялібы... Яны вучаць нас умацоўваць інтэрнацыянальнае братэрства, жыць і працаваць у імя камуністычных ідэалаў.

Але там, каля Купалавага помніка, прыгадалася мне і іншае — як дружба паміж нашымі народамі, закладзеная ў першыя гады Савецкай улады, прадоўжылася і ўмацавалася ў гады Вялікай Айчыннай вайны ў барацьбе з фашызмам. У беларускіх лясах плячом к плячу з вашымі народнымі мсціўцамі змагаліся і нашы грузінскія хлопцы... Абараняючы шматпакутную беларускую зямлю, яны абаранялі і нашу цудоўную Грузію. Многія з іх не вярнуліся ў бацькоўскія хаты, загінулі смерцю герояў і пахаваны ў вашых сёлах. Аб іх хвалююча напісаў былы ўдзельнік партызанскага руху на Беларусі Давід Квіцарыдзе... І кожны раз, калі ён піша аб мінулай вайне, у яго кнігах абавязкова прысутнічае мужны вобраз беларуса...

Нашы сяброўскія сувязі моцныя. Хочацца толькі, каб яны яшчэ больш пашырыліся, каб мы добра ведалі не толькі імёны Петруся Броўкі і Максіма Танка, Івана Шамякіна і Івана Мележа, але каб у дыяпазон грузінскага чытача ўваходзіла ўсё больш вашых пісьменнікаў. Мы павінны часцей бываць адзін у аднаго і не абмяжоўвацца кароткімі паездкамі... Асабіста я з вялікай прыемнасцю для сябе правёў гэтыя некалькі дзён у вашай гасціннай святочнай сталіцы, у асяроддзі калег.

Сёння, калі мы жывём у адзінай магутнай сям'і братніх народаў, калі адбываецца плённы працэс развіцця нацыянальных форм, прагрэсіўных традыцый мінулага, калі ў кожнай рэспубліцы сацыялістычная культура дасягнула вялікага росквіту, і гэты росквіт асабліва праяўляецца ў літаратуры, мастацтве, нашы далейшыя поспехі ў галіне літаратуры проста немагчымы без стабільных узаемасувязей. Гэты факт дастаткова даказаны агульнасаюзнай практыкай літаратараў...

— У вас зайздросны паэтычны лёс: столькі плённых творчых год за плячыма! Крытыка і цяпер аднадушна адзначае, што ваша муза не пастарэла, ваш голас па-ранейшаму малады: «Карло Каладзе не ўспамінае аб маладосці — ён піша маладой і моцнай рукой».

**Карло Каладзе.** На гэты раз, бадай, крытыкі трохі памыліліся... Пастарэў Карло Каладзе — рашыў прыгадаць мінулае, маладыя гады. Пішу мемуары. «Кнігу маіх дзён і начэй». Але я мяркую, што асабліва не збянтэжу прыхільнікаў маёй паэзіі... У кнізе будуць, акрамя прозы, і вершы. У прозе раскажу аб тым, як жылося; у вершах — што я адчуваў...

□

*Вось і закончылася гутарка з адным са старэйшых паэтаў Грузіі Карло Каладзе...*

*Развітваемся. Удзячна пазіраю на яго добры шырокі твар, абрамлёны сівымі валасамі, у спакойныя вочы, у якіх свеціцца жыццёвая мудрасць, розум і спагадлівая жартаўлівасць. Пазіраю, каб запомніць, і тут жа прыгадваю герояў яго кніг — такіх жа шчырых, добразычлівых і шчодрых сэрцам працаўнікоў — вінаградара і ганчара, пастуха і рыбалова, плытагона з Ахалдаба і калгаснікаў з вёскі Шрома... Усе яны гэтак жа, як і іх пясняр, страсна закаханы ў сваю родную краіну, сваю сацыялістычную Грузію, усламляюць яе і працай і песняй.*

Ісраіл МУСТАФАЕЎ

Азербайджан

# ГЛЫБОКІЯ КАРЭННІ

СУЧАСНАЯ азербайджанская літаратура захоўвае і развівае лепшыя перадавыя традыцыі нашай шматвекавой літаратурнай спадчыны і ў той жа час творча выкарыстоўвае вопыт шматнацыянальнай савецкай літаратуры, якая грунтуецца на прынцыпах сацыялістычнага рэалізму, прагрэсіўнай сусветнай мастацкай думкі.

У творчасці такіх майстроў слова, як Нізамі, Хагані, Насімі, Фізулі, Вагіф, Ахундаў, дэмакратызм і гуманізм, пастаянная вера ў праўду жыцця, перамогу дабра над злом, унутраная вера ў стваральную сілу працаўніка, у яго шчаслівую будучыню — асветлены з пазіцый высокіх ідэалаў; разам з тым у іх творах адлюстравана бескампрамісная барацьба супраць прыгнёту, несправядлівасці, тыраніі, цемрашальства. Асноўны герой сучаснай азербайджанскай прозы, паэзіі і драматургіі — гэта чалавек, які ўвасабляе розныя слаі нашага грамадства і цэлы рад характэрных рыс нашай гісторыі, сучаснага жыцця і эпохі.

Творчыя пошукі ў нашай прозе тэматычна вядуцца ў двух напрамках: творы на гістарычную тэму і творы, прысвечаныя праблемам сучаснага жыцця. Але па часовых прыкметах, адлюстраваных у творах падзей, нельга правесці паміж гэтымі тэмамі выразнай мяжы. Раўнамерны паказ сучаснай эпохі і гістарычнага мінулага — агульная рыса, якая набліжае адзін да другога гэтыя творы. Такім шляхам раскрываецца сувязь эпох і пакаленняў.

Трэба адзначыць і яшчэ адну асаблівасць твораў, напісаных на гістарычную тэму: гісторыя і гістарычныя падзеі разглядаюцца з пазіцый сучаснага савецкага пісьменніка, класавыя сутыкненні і дзейнасць, барацьба асоб працэджваюцца скрозь сіта сучаснага філасофскага мыслення, асэнсоўваюцца з пункту гледжання патрабаванняў творчага метаду сацыялістычнага рэалізму.

Важкі ўклад азербайджанскіх пісьменнікаў ва ўсесаюзнуюЛенініяну. Асабліва шмат твораў, прысвечаных Леніну, рэвалюцыі з'явілася ў перыяд падрыхтоўкі да святкавання 100-годдзя з дня нараджэння вялікага правадыра. Але яшчэ ў 20-я гады нашы пісьменнікі звярталіся да вобраза Леніна, раскрываючы ў сваіх творах нягаснучыя рысы характару гэтага вялікага барацьбіта і чалавека. Н. Нарыманаў, М. Ардубадзі, М. Моджуз пісалі аб Леніне, як аб непахісным рэвалюцыянеры, абаронцы прыгнечанага Усходу.

Пазней гэтая традыцыя яшчэ больш узмацнела і ўзбагацілася. У азербайджанскай літаратуры з'явіліся ўсё новыя і новыя творы, якія распрацоўваюць рэвалюцыйную тэму. «Таўрыз туманны» М. Ардубадзі, «Мір гіне» А. Абульгасана, «Шамо» С. Рагімава, «Раніца» Мехці Гусейна, «Маніфест маладога чалавека» Мір Джалала — гэта творы на гістарычную тэму, якія ўвайшлі ў асноўны фонд азербайджанскай літаратуры.

Сур'ёзныя поспехі, дасягнутыя нашай прозай апошніх год у жанры гістарычнага рамана больш за ўсё звязаны з двума творамі: раманамі Мірзы Ібрагімава «Новыя часы» і Ісмаіла Шыхлы «Буйная Кура»... Абодва гэтыя творы прысвечаны незвычайна складанаму, адказнаму і супярэчліваму перыяду ў жыцці, гісторыі нашага народа — апошняй чвэрці XIX стагоддзя.

У нашай літаратуры апошняга дзесяцігоддзя цяжка знайсці іншы твор, які б меў столькі чытачоў, як «Буйная Кура» Ісмаіла Шыхлы. У творы знайшлі сваё правільнае мастацкае адлюстраванне не толькі асобныя вобразы, але і пэўная гістарычная эпоха, псіхалогія грамадства ў гэты перыяд, грамадскія супярэчнасці, тэндэнцыі развіцця. Гэты раман змог адлюстраваць у сабе, у сапраўдным сэнсе гэтага слова, характар народа.

Сярод твораў на гісторыка-рэвалюцыйную тэму мы павінны з гонарам назваць і раман маладога празаіка Фармана Керым-задэ «Снежны перавал», першы буйны твор пісьменніка.

Асноўнай тэмай азербайджанскай літаратуры з'яўляецца сучаснае жыццё, вялікая барацьба савецкіх людзей за пабудову камуністычнага грамадства і, нарэшце, спецыфічныя асаблівасці нашага складанага часу.

З часу нараджэння азербайджанскай савецкай прозы жыццё сяла, лёс селяніна, было асноўнай, а, магчыма, адзінай, у пэўны перыяд, тэмай. Пачынаючы з 30-х гадоў велізарная большасць раманаў, аповесцей і апавяданняў, былі прысвечаны сялу, яго людзям. Такія вопытныя пісьменнікі, як М. Ібрагімаў, С. Рагімаў, А. Вяліеў, А. Абульгасан, І. Шыхлы і іншыя працягваюць распрацоўваць тэму сяла.

Але новыя адносіны да тэмы, імкненне да ўдасканалення псіхалагічнага аналізу, глыбініназіранняў і цэласнасці створаных вобразаў вылучае двух нашых празаікаў: Іса Гусейнава і Сабіра Ахмедава. У сваіх творах яны закранаюць канкрэтныя праблемы сучаснага сяла, у дастатковай меры вызначаюць контуры гэтых праблем.

Новыя адносіны да сяла і да яго людзей прыцягваюць увагу таксама ў творах пісьменніка больш маладога пакалення Акрама Айліслі. Заваяваў сімпатыі чытачоў малады пісьменнік Анар, які здолеў адлюстраваць жывымі фарбамі пачуцці і думкі нашых сучаснікаў.

У апошнія гады наша проза значна ўзбагацілася творамі, прысвечанымі тэме дружбы народаў, патрыятызму, Вялікай Айчыннай вайне. Чацвертая кніга рамана «Бастыёны дружбы» А. Абульгасана, «На далёкіх берагах» Імрана Касумава і Гасана Сейдбейлі, «Ён быў не адзінокі» Юсіфа Азімзадэ, «Памяць пра сябра» Сулеймана Вяліева, «Шакаладніца» Гусейна Абас-задэ з'яўляюцца прыкладам умелага адлюстравання франтавога жыцця, самаадданасці байцоў, высакародных чалавечых пачуццяў.

Азербайджанцы — ад малога да вялікага — з'яўляюцца заўзятымі прыхільнікамі паэзіі. Зусім не выпадкова выказванне Мікалая Ціханава, што Азербайджан, азербайджанскі народ — народ паэтаў.

Творчасць піянераў азербайджанскай савецкай паэзіі Самеда Вургуна, Мікаіла Мушфіга, Сулеймана Рустама, Мамеда Рагіма, Ахмеда Джаміля складаюць асноўны фонд нашай сучаснай паэзіі.

Маюць рацыю тыя, хто называе Самеда Вургуна паэтам вялікіх ідэалаў. У яго творчасці ў яскравай форме знайшлі сваё адлюстраванне лепшыя традыцыі нашай шматвяковай паэзіі. У той жа час Самед Вургун зусім арыгінальны паэт новага тыпу. У яго лірыцы знайшлі сваё адлюстраванне веліч, прыгажосць і чароўнасць азербайджанскай прыроды. Значна ўзбагаціў Самед Вургун і азербайджанскую драматургію. Яго п'есы «Вагіф», «Фархад і Шырын», «Чалавек» карыстаюцца пастаяннай сімпатыяй як чытачоў, так і гледачоў.

У Азербайджане цяпер жыве цэлае пакаленне таленавітых паэтаў, якія маюць індывідуальны творчы шлях, свой шлях у паэзіі, але яны развіваюць традыцыі паэзіі Самеда Вургуна і ў цэлым лепшыя якасці нашай паэзіі.

Творчасць Бахціяра Вагаб-задэ Набі Хазры, Гусейна Гусейн-задэ, Балаша Азер-оглу, Адыля Бабаева, Джабіра Наўруза, Габіля, Аліагі Кюрчайлы, Мамеда Ібрагіма, Сахраба Тахіра вызначае аблічча нашай сённяшняй паэзіі. Большасць з іх добра знаёма ўсесаюзнаму чытачу.

З гэтага пункту гледжання асабліва характэрна творчасць паэтаў маладога пакалення — Фікрэта Гаджы, Нарымана Гасан-задэ, Фікрэта Садыха, Іса Ісмаіл-задэ, Мамеда Ісмаіла, Алекпера Салах-задэ і інш.

Гэтыя паэты шмат разважаюць, хвалююцца, спрабуюць усвядоміць сабе рытм сэрца сучаснага чалавека, маляўнічасць пачуццяў, свет яго думак.

Радуюць дасягненні азербайджанскіх пісьменнікаў і ў галіне драматургіі. Нашы драматургі, развіваючы традыцыі М. Ф. Ахундава Н. Б. Везірава, А. Ахвердава, Дж. Мамедкулі-задэ, Г. Джавіда, Дж. Джабарлы, С. Вургуна значна ўзбагацілі яе новымі тэмамі і знаходкамі. П'есы Сабіта Рахмана, Мірзы Ібрагімава, Ільяса Эфендзіева, Імрана Касумава, Бахціяра Вагаб-задэ, Адзіля Бабаева, якія расказваюць аб жыцці і барацьбе нашых сучаснікаў, адыгрываюць вялікую ролю ў выхаванні ў падрастаючага пакалення пачуцця патрыятызму і інтэрнацыяналізму, любві і бязмежнай вернасці да народа і партыі.

П'есы азербайджанскіх драматургаў з поспехам ідуць на сцэнах маскоўскіх тэатраў і тэатраў братніх рэспублік.

Творчыя дасягненні нашай літаратуры ў гады Савецкай улады безумоўна радуюць нас. Але перад нашай літаратурай як заўсёды стаяць вельмі сур'ёзныя, адказныя творчыя задачы. Свята 50-годдзе ўтварэння СССР, якое набліжаецца, яшчэ больш узмацняе адказнасць і значэнне гэтых задач у адлюстраванні цудоўнай савецкай рэчаіснасці.



Начны Баку.

Іосіф НАНЕШВІЛІ

Грузія

●

Кастрычніцкі сцяг праслаўляю!  
Хачу я і пільны рубеж,  
І домны,  
і ўсе ўраджаі  
Яму прысвяціць, нібы верш!

За тое, што сталі на ногі,  
Што парасткі высяцца зноў,  
Я слаўлю  
бацькоў  
перамогі  
Ад імя іх верных сыноў.

Не ўсім раздалі ўзнагароды:  
Загінулі. Помняць сыны.  
У Арагве фарэлей чароды  
З адзнакай крыві іх відны.

Бяссмерце іх —  
хаты і нівы,  
Давер'е спагады людской,  
І бэзавых хваляў разлівы,  
І хваляў марскіх неспакой!

Мы зналі вялікія мукі,  
Але не змянілі свой шлях.  
І нашыя чыстыя рукі  
Не мажуць мазут і зямля.

І мы сцяганосцамі сталі,  
Рабочага гарту сыны —  
Так пальцамі дрэўка сціскалі,  
Што з дрэўкам зрасліся яны.

За ўсё гэта, памяць жывая,  
Гатоў я пайсці і ў агонь.  
Кастрычніцкі сцяг праслаўляю  
І тых,  
хто трымае яго!

Пераклаў Ю. СВІРКА.





# Ільяс ЭФЕНДЗІЕЎ

Азербайджан

# КІРШЫК І ЧЫРВОНАЯ КВЕТКА

КАЛІ СТАРЫ КАРА і яго вучань падняліся на дах дома ў Нагорнай частцы горада, узыходзіла сонца.

Абодва яны высокія, у грубых, запэцканых у мазут кашулях. У старога амаль на самыя бровы насунута рудая кепка, у хлопца — галава непакрытая, чорныя валасы расчэсаны набок. Стары трымае пракураную да вугальнай чарнаты піпку, якая, напэўна, перажыла не аднаго гаспадара.

Яны прайшлі па даху з канца ў канец. Хлопец спытаў: «На ёй?» Стары кіўнуў.

Малады палез уніз па лесвіцы, а стары дастаў капшук, не спяшаючыся, пачаў набіваць піпку. Адначасова, прыжмурыўшы вочы ад сонца, ён аглядаў месца будучай работы.

Даўні кір на даху расплыўся, размякнуў. Усюды праступалі маршчыны расколін.

Раптам стары ўбачыў: у адным месцы кір узняўся, лопнуў і з адкрытай шчылінкі прабілася кветка. Яна была пунцовая і пад касымі промнямі сонца пылала нібы рубін. Маладыя лісточкі, якія толькі-толькі распусціліся, акружалі кветку клапатлівым венчыкам.

Не адводзячы вачэй ад кветкі, стары раскурыў піпку. За сваё доўгае жыццё кіршыка ён не аднойчы назіраў падобныя цуды. Гэта здаралася, як правіла, увосень ці вясной. І кожны раз старога здзіўляла сіла гэтых кволых сцяблінак. Кожны раз, калі ён нагінаўся над імі, яму здавалася, што яны цягнуцца, каб нешта сказаць яму. Але што? Стары не задумваўся над гэтым. Ён проста любаваўся.

Сонца адарвалася ад гарызонта, павісла над морам. Стары цяжка выпраставў спіну і, прыклаўшы да вачэй казырок далоні, пачаў глядзець на ўсход. Ён стаяў, шырока расставіўшы ногі ў грубых ботах. Здавалася, ён так стаіць з дня заснавання свету і будзе стаяць, пакуль існуе гэты свет!

Твар старога кіршыка пацямнеў ад сонца. Сурова праступалі на ім маршчыны. Быццам глыбокія і чорныя восеньскія барозны...

Над дахам узнялася чорнавалосая галава хлопца. Стоячы на апошняй перакладзіне лесвіцы, ён працягнуў майстру торбу з інструментам. Яны ўзяліся за ломікі і пачалі сашкрэбваць з даху і скідваць уніз стары кір.

Калі работа была закончана і яны спусціліся ўніз, стары адшпіліў нагрудную кішэню і дастаў рублёўку:

— Бяры...

— Ды ёсць у мяне!

— Бяры!

Заціснуўшы ў жмені грошы, хлопец пабег. Стары задаволена паглядзеў яму ўслед, а потым сеў у цяньку пад сцяной і закурыў.





Збоку здавалася, быццам сядзіць ён і сочыць за людзьмі, што праходзяць міма, за аўтамашынамі. Але не, яго, сямідзесяцігадовага чалавека, не цікавіла ўся гэта шумлівая мітусня навокал. Ён глядзеў міма людзей і машын так, нібы хацеў убачыць нешта ў другім канцы вуліцы. Ды не, нічога не хацеў убачыць. Ён проста глядзеў.

...З-за вугла выскачыў хлопец з кульком падпахай. У руцэ ён трымаў газету.

— Сённяшняя? — спытаў стары.

— Так. Але нічога ў свеце асаблівага не здарылася. Хочаш?

Стары, не выпускаючы з рота піпкі, павольна зашамацеў газетай, а хлопец, дастаўшы з кулька пук вязеры, кінуў на хаду «Пайду памыю!» і знік у варотах дома.

Калі ён вярнуўся, стары ўжо разгарнуў газету і паклаў на ёй хлеб, каўбасу, сыр, паставіў пару бутэлек піва. Потым дастаў нож з касцянымі, пацямнелымі ад часу тронкамі і пачаў наразаць каўбасу.

— Як, да сямі закончым? — нечакана спытаў хлопец.

— Работу? Відаць, закончым, — стары паглядзеў на хлопца. «Да сямі... Маладосць!» Калісьці і ён прыставаў з такім жа пытаннем да свайго майстра. Многа з таго часу прайшло, а як быццам учора гэта было...

Падсілкаваўшыся, яны згарнулі газету з астаткамі ежы і пачалі раскладваць агонь пад вялікім закапцелым чанам, які прывезлі напярэдадні.

...Лічы, паўвека ўжо чан гэты, нібы кацёл з пекла, са смалой, што заўсёды булькала ў ім, не разлучаецца са старым. Колькі год ён, як зараз яго вучань, закасаўшы рукавы, мяшаў кір, адчуваючы, як ён размягчаецца, паддаецца сіле яго рук.

У першы раз ён схіліўся над чанам яшчэ падлеткам, вучнем старога майстра, таксама Кары — радавое імя кіршыкаў. Якраз пяцьдзесят гадоў назад, у пятніцу, пачалі яны заліваць кірам дах гэтага дома. Пятніца — апошняя пятніца Наўраз-байрама.

Яны працавалі да ўсходу сонца. А потым прынеслі з суседняй хашной свежыя чурэкі, матал, чайнік з добра завараным чаем.

Увечары Уста-Кара запрасіў яго да сябе ў госці. Каля варот дамоў гарэлі кастры. Праз агонь скакалі дзеці і крычалі ад захаплення.

Жонка старога майстра Гюлегум-Баджы прынесла плоў. Потым — чай у грушавідных шклянках з усходнімі прысмакамі.

Стары помніў усё да дробязей. Так, нібы гэта было ўчора, нібы жывыя і Уста-Кара і Гюлегум-Баджы...

Хлопец, наваліўшыся на доўгую металічную ручку лапаты, размешваў кір. Кір пухірыўся, быццам густое цеста. Уздымаліся і ападалі тугія мускулы на загарэлых руках хлопца. Вялікія кроплі поту выступілі на яго твары.

Стары, седзячы непадалёку, смактаў піпку і адабральна глядзеў на хлопца: «Моцны род кіршыкаў!..»

Нарэшце, выбіўшы піпку аб камень, ён крыкнуў:

— Хопіць! Няхай пакіпіць. А ты сядай, астынь.

Хлопец адставіў лапату, дастаў насоўку. Першы раз бачыў стары ў яго такую акуратную, выпрасаваную насавую хустачку: (акрамя старой бабулі ў хлопца нікога не было).

Хлопец асцярожна, быццам прамакнуўшы, выцер з твару пот.

— Пайду нап'юся,— сказаў ён.

— Ідзі, — дазволіў стары.

— Прынесці табе?

— Не хачу!

Хлопец ужо накіроўваўся да варот, калі стары крыкнуў услед:

— Глядзі, многа не пі! Ці даўно балела горла?!

Сонца хілілася да гарызонту, а рабоце не відаць было канца. Хлопец, спяшаючыся, набіраў вядро за вядром, стары, стоячы на даху, падцягваў вёдры наверх і разліваў кір густым роўным слоем.

Нарэшце, паглядзеўшы на вялікі кішэнны гадзіннік — да сямі засталося пятнаццаць хвілін — стары звесіўся ўніз і крыкнуў:

— Даволі! Астатняе заўтра закончым.

І дадаў, нібы сам сабе: «Паясніца нешта разбалелася...»

Узрадаваны хлопец кінуў вёдры:

— Ну, калі я не патрэбны больш...

— Ідзі, ідзі!

— Да заўтра!

Перакінуўшы пінжак цераз плячо, хлопец заспяшаўся... А стары... Яму спяшацца было некуды. Павольна, каб не хіснуць лесвіцы, спусціўся ён уніз, падняў вядро, што кінуў хлопец, акунуў у гарачы кір. Потым зноў падняўся на дах, падцягнуў вядро...

Калі работа была скончана — а стары абяцаў скончыць яе сёння і не мог парушыць слова — ужо сцямнела. Майстар павольна спусціўся на набярэжную і сеў на лавачку ля самай вады. Каля яе раслі кусты алеандра.

Ён любіў гэтыя гадзіны пасля работы, любіў гэтую лавачку, любіў мора!

На набярэжнай гуляла многа людзей. Каля старога праходзілі маладыя пары. Але стары не глядзеў у іх бок. Ён любаваўся морам, мільгаценнем палосак святла, што працягнуліся ад берагу...

...На другі дзень яны залівалі дах суседняга дома. Зноў стары працаваў уверсе, а хлопец — унізе. Ужо ў канцы работы, калі стары звесіўся ўніз, каб падцягнуць вядро, ён убачыў дзяўчыну, якая стаяла непадалёку ад хлопца. Яна была ў рабочым камбінезоне. Ярка-чырвоная стужка сцягвала падстрыжаныя кароткія валасы. Відаць, яна толькі-толькі памылася: валасы былі яшчэ мокрыя. Яна стаяла і глядзела на хлопца, а той паспешліва зачэрпваў вёдрамі кір і кожны раз трошкі выплёскваў на зямлю.

Стары падумаў: відаць, прахожая, — ці мала зацікаўленых спыняюцца паглядзець на іх.

Але калі работа была закончана, і ён спусціўся ўніз, хлопец кіўнуў на дзяўчыну, якая ўсё яшчэ стаяла побач:

— Пазнаёмся, майстар...

Дзяўчына падышла да майстра, пазіраючы на яго з-пад ілба. Потым нечакана ўсміхнулася. У яе былі вельмі белыя зубы і чырвоная стужка палымнела на смаліста-чорных вільготных яшчэ валасах...

Стары асцярожна паціснуў ёй руку, потым дастаў піпку і, прачышчаючы яе, спытаў:

— Працуеш?

— Яна будуе новую кінастудыю, — адказаў хлопец замест яе. — Вось, адразу пасля работы...

Дзяўчына маўкліва пазірала на старога, нібы чакала, што ён спытае ў яе яшчэ. Але стары больш нічога не спытаў. Тады хлопец перакінуў пінжак цераз плячо.

— Ну, калі я больш не патрэбны...

— Ідзі, ідзіце, — дазволіў стары.

Хлопец на хвіліну затрымаўся, потым павярнуўся і яны пайшлі.

— Рашыд! — нечакана паклікаў яго стары.

Калі той падышоў да яго зноў, стары сунуў яму ў руку тры рублі.

— Што, ужо атрымаў за работу? — здзівіўся юнак.

— Не, але...

— Дзякуй! — і хлопец кінуўся даганяць дзяўчыну.

...З таго дня яна пачала прыходзіць кожны вечар. Убачыўшы яе, хлопец пачынаў спяшацца, і кір, што налівалі ў вёдры, вылівался на зямлю. А потым хлопец



# Іса ІСМАІЛ-ЗАДЭ

Азербайджан

# АДЧУЦЬ ІМГНЕННЕ...

ДЗВЕРЫ яго майстэрні былі адчынены. Адтуль даносіліся галасы. Ён сядзеў, падпершы рукой галаву, у другой руцэ дымілася цыгарэта...

— За два апошнія гады я напісаў каля пяцідзесяці работ.— Сатар Бухлул-задэ ўстаў і пачаў паварочваць прыстаўленыя да сцяны карціны. Майстэрня напаўнялася колерамі, святлом, хмарамі, дрэвамі, гарамі. Нібыта ўсё было жывым, усё дыхала. «Мардакянскія карціны», «Пяскі Нардарана», «Скалы Бузоўны», «Піршагі», «Блакітныя скалы», «Шахнабад», «Кяпаз».

У Сатара Бухлул-задэ свае адносіны да прыроды, на першы погляд супярэчлівыя. Цяжка ўявіць Апшэрон без сонца, залатога пяску, яснага, на ўсю шыр неба. Гэта ўяўленне ўстанавілася ў нас дастаткова трывала. Але пэндзаль Бухлул-задэ паказвае іншы Апшэрон. Фантазія мастака настолькі моцная, што можа перадаваць залатыя пяскі на блакітным фоне, надаваць бузаўнінскім скалам вогненны колер; тут усё залежыць не столькі ад фактуры, колькі ад «спыненага» імгнення, ад таго, з якога пункту глядзеў мастак. Можа таму, ва ўсіх пейзажах Бухлул-задэ, мы бачым жывое, эмацыянальнае адлюстраванне фантастычнага, паўрэальнага стану. Элементы «фантастычнага рэалізму» адчуваюцца ў кожным штрыху мастака. Здалёк здаецца, што ў яго карцінах ты бачыш пейзажы Апшэрона, падгледжаныя за марывам, міражом. Але адна жывая дэталь, штрых (напрыклад, смакоўніца ў карціне «Піршагі») гаворыць пра многае.

У карціне «Шахнабад» для таго, каб падкрэсліць адчуванне эйлага на фоне велічных гор на пярэднім плане — ледзь бачныя сілуэты коннікаў. Пейзаж «Шэмаха» здалёк напамінае келагай — маляўнічую жаночую хустку, якая прыйшла да нас з далёкіх часоў.

— Я нічога не плануго загадзя, — гаворыць Бухлул-задэ. — Бывае, тое, чаго я хацеў дабіцца не атрымалася. Атрымалася не так, як я адчуваў. Тады я пачынаў працаваць спачатку. Часам знойдзены аднойчы матыў нашу ў памяці гадамі.

Дзіўна, мастак з такой складанай творчай лабараторыяй можа адначасова працаваць над некалькімі карцінамі. Але пры адной умове: тэмы павінны быць вельмі аддаленымі. Так створаны «Пяскі Більгя», «Шэмаха», «Вясна ў Кубе».

— Спачатку яны мне спадабаліся. Напэўна, таму, што я яшчэ жыў імі. Праз некалькі дзён рашыўся, паглядзеў іх зноў. Зусім не спадабаліся! Я адразу павярнуў карціны да сцяны...

У той дзень сустрэўся са знаёмым. Пытаецца: што з табой здарылася?.. Як растлумачыць?..

...Партрэт мудрага, журботнага старога на фоне гнуткіх галінак вярбы. Ён апусціў галаву, заплюшчыў задуменныя вочы, склаў рукі на грудзях. Ні старога, ні дрэва мы не бачым выразна, поўнасцю. Галінкі паралельнымі лініямі цяг-



Сабір РУСТАМ-ХАНЛЫ

Азербайджан

# КАХАНАЙ

Калі табе балюча, адзінока,
Аддай мне боль,
тугу сваю не сні.
Пайду я ў дні суровыя далёка,
Хай падрастаюць радасныя дні.
Аддай мне сум, нібы слязінкі лёду.
У руках маіх успыхне з іх агонь.

Тады бяры ашчадна і лагодна
Апаленую бедамі далонь.
А пройдзе боль,
трывога ў пыл сатрэцца
І збоку недзе праслізне, як цень.

Няхай на белых крылах узаўецца,
Са мной пражыты, самы першы, дзень.
Пакліч мяне ва ўсе свае напасці,
Мы разам прыйдзем ў радасныя дні.
Дзе ў горне будняў два маленькіх
шчасці
Вялікім сонцам стануць на агні.

Пераклала В. НОВІК.

браў свой пінжак, і яны адыходзілі разам.

Стары не прыставаў да іх з пытаннямі: «Трэба будзе — самі скажуць». Але з таго часу, як з'явілася дзяўчына з чырвонай стужкай, ён пачаў марыць, як згуляе вяселле для маладых, як дасць нашчадку, калі гэта будзе хлопчык, гучнае імя Кара. Перад вачыма старога з усёй яснасцю ажываў кожны дзень будучай сям'і маладога кіршыка... Колькі разоў ён пералічваў грошы, што атрымае, калі яны абновяць дахі ўсіх у квартале дамоў, колькі разоў разважаў, якія рэчы патрэбны для маладых.

Але аднойчы — гэта было ў нядзелю— здарылася нешта зусім нечаканае.

Стары толькі што вярнуўся з лазні ў свой адзінокі пакойчык, заварыў чай.

І тут у дзверы пастукалі. Гэта мог быць толькі вучань, які раней амаль праз дзень забягаў да старога. Але цяпер хлопец быў не адзін. І ўсёроўна — стары ўзрадаваўся як ніколі.

— Садзіцеся, садзіцеся, — ён замітусіўся. — Спякотна тут, і пачаў адкрываць адзінае вакно.

Госці па-святочнаму прыбраліся. Хлопец надзеў беласнежную кашулю, паверх яе завязаў блакітны гальштук. На руцэ дзяўчыны паблёскваў маленькі залаты гадзіннік.

Стары раптам адчуў, што хлопец не такі, як заўсёды — бяспечны і вясёлы, што ён нечым засмучоны.

Замест радасці старога апанаваў незразумелы смутак.

— Добрае сёння надвор'е, — нечакана ўсміхнуўся стары.

Хлопец уважліва паглядзеў на яго. Ён ніколі не чуў ад майстра такіх слоў, не бачыў на яго твары такой бяздумнай усмешкі.

Стары ўстаў, паспешліва прайшоў на кухню і на старадаўнім, у кветках, падносе прынёс тры шклянкі чаю.

— Дарэмна турбуецеся, майстар, — сказаў хлопец. — Дзяўчына прынесла б...

— Турботы! Ды божа, якія турботы...— стары адвёў вочы ўбок. — Вы пасядзіце тут, я зараз.

Хлопец затрымаў яго.

— Майстар, мы ўжо паабедалі. Не турбуйся. Можа, ты сам галодны?

Стары матнуў галавой: «Не».

— Тады сядай, справа ёсць.

Першы раз за ўсе гады хлопец бачыў майстра мітуслівым, разгубленым.

Памаўчалі. Не вытрымаўшы гэтага маўчання, стары падсунуў бліжэй паднос.

— Піце, калі так. Чай астыў.

Ніколі ў голасе старога хлопец не чуў столькі смутку і пяшчоты.

Хлопец схапіў сваю шклянку і ў два глыткі асушыў яе. Стары працягнуў ужо руку за пустой шклянкай, але хлопец хутка сказаў:

— Не, я не буду...

Стары сумна паглядзеў на хлопца.

— Сёння раніцой,— сказаў ён, — прыходзілі яшчэ двое з крэпасці. Я сказаў, што работы ў нас вельмі многа і толькі пасля пятнаццатага...

Хлопец паглядзеў на дзяўчыну. Зноў памаўчалі. Нарэшце хлопец рэзка ўзняў галаву:

— Майстар, заўтра я не прыйду...

— Куды не прыйдзеш? — даўкім голасам запытаў стары.

— Кір заліваць.

— Чаму?

— Пайду вучыцца...

— Куды? — стары рабіў выгляд, што не разумее.

— У дарожны тэхнікум.

Стары памаўчаў хвіліну-другую.

— А не цяжка будзе?

Хлопец зразумеў, што майстар меў на ўвазе.

— Не, нічога, пражывем...

— Я буду працаваць, а ён няхай вучыцца, — нечакана гучна ўступіла ў размову дзяўчына. — Разумееце...

Яна памаўчала, падбіраючы словы.

— ...Разумееце, цяпер кіршыкаў усё менш. Цяпер у новых дамах і дах нават кірам не залiваюць.

— Так, сапраўды... Больш не залiваюць, — падумаў стары. — У новых дамах не залiваюць...

Гэтак жа бязлітасна гучна дзяўчына працягвала:

— Вы на сябе не глядзіце. Рашыд вельмі малады. Ён павінен думаць аб будучым.

— Так... Вядома, — падумаў стары, — павінен...

— Калі гаварыць шчыра, — аднекуль здалёку даносіўся голас дзяўчыны, — вы яму як бацька. Рашыд доўга не згаджаўся развітацца з вамі...

Стары падняў галаву і неяк па-новаму паглядзеў на дзяўчыну. Дзяўчыну, якую ён прывык бачыць у цесным рабочым камбінезоне, з чырвонай стужкай у смаліста-чорных валасах. Яна была такой маленькай і такой моцнай.

Дзяўчына, узяўшы шклянку хлопца і сваю (стары не піў чаю), пайшла на кухню. Калі яна вярнулася, хлопец з палёгкай уздыхнуў. падняўся. Стары ўстаў таксама. Хвіліну яны стаялі і маўчалі. Потым, па звычцы, хлопец сказаў:

— Ну, калі я больш не патрэбны...

— Ідзіце, ідзіце...

— Бывайце здаровы, майстар.

— Бывайце і вы здаровыя і шчаслівыя...

Яны ўжо падышлі да дзвярэй, як дзяўчына нечакана павярнулася, парывіста падбегла да старога і пацалавала яго, устаўшы на дыбачкі.

Яны пайшлі. Дзверы на хвіліну прапусцілі ў пакой яркі сноп святла. Потым зачыніліся, і ў пакоі зноў згусціўся прывычны змрок.

Стары пастаяў ля парога, быццам успамінаючы нешта добрае і важнае. Потым падышоў да акна. Яны зніклі за паваротам...

Стары дастаў трубку. Ён быў як заўсёды спакойны. Потым ён надзеў кепку і выйшаў на вуліцу.

Ён ішоў роўным крокам, трымаючы кірунак да знаёмага скверыка, дзе кожную нядзелю збіраліся кіршыкі.

Сонца пазалаціла ўжо край неба, паблісквалі размаляваныя цудоўным арнаментам будынкі акадэміі.

Ён ішоў і перабіраў у памяці дамы, якія на гэтым тыдні трэба было заліць кірам. Ён ішоў і думаў аб жыцці, аб яго простых і мудрых законах.

Пераклала на беларускую
Таццяна ШАМЯКІНА.


Народны мастак СССР Таір САЛАХАУ. Апшэронскі матыў.


Народны мастак Арм. ССР С. МУРАДЗЯН. Саджанцы.


Народны мастак СССР Я. НІКАЛАДЗЕ. Саламея.


Народны мастак Груз. ССР Р. СТУРУА. Перамога.

нуцца па шчоках старога, ствараючы бачнасць слёз, выдатна адлюстроўваючы ўвесь журботны настрой карціны. Але за гэтым смуткам — стойкасць Фізулі, веліч Фізулі, гордасць Фізулі.

Карціна, аб якой мы расказваем, адна з чатырох, прысвечаных мастаком Фізулі. У другой карціне «Вечар разлукі» Фізулі паказаны ў больш напружаным псіхалагічным стане. У трэцяй — «Вар'яце», з вялікім майстэрствам на фоне месячнай ночы, могілак і свечкі раскрыты лёс Меджнуна, яго трагедыя і хваляванне.

Гэтыя вобразы, дэталі, якія прыйшлі з класічнай паэзіі, дадзены ў арганічнай сувязі з агульным становішчам і настроем. Распяты сілуэт Меджнуна ў цёмнай начы пакідае здзіўляючае ўражанне.

Сатар, убачыўшы, што я захоплены, іранічна ўсміхнуўся:

— А вось мне яны не падабаюцца. І выстаўляць іх не хочацца.

Не думаю, каб Сатар какетнічаў. Ён настолькі таленавіты і так многа ўмее, што мае магчымасць і права быць да канца патрабавальным да сябе.

Часам ён спыняе работу на палавіне і, не сказаўшы нікому ні слова, едзе. Ці гэта жаданне ненадоўга адцягнуць увагу, паглядзець на твор здалёк, як бы збоку, а можа нанава ўбачыць натуру, якую ён палюбіў. Яму знаёмы кожны куток Азербайджана, ён літаральна абышоў яго пешшу, але ў гэтых паездках не дапытлівасць турыста, а строгая, мажліва, не заўсёды ўсведамляемая мастаком сістэма, і работа — упартая работа думкі і пачуццяў.

— Калі вы працуеце? — спытаў я, і ён здзіўлена паціснуў плячыма.

— Час тут не мае значэння. Сябры вельмі скардзяцца на мяне. Не заўсёды могуць знайсці. Сёння я тут, а заўтра... Нядаўна пабываў у Грузіі, у Тбілісі, у Гардабоні, хачу паехаць у Кельбаджары. І надвор'е мне не перашкода, я столькі працаваў пад спякотлівым сонцам Апшэрона, пад праліўным дажджом у Кубе...

У яго ўяўленні ўсё звязана з імгненнем. Яму здаецца часам, што хоць і працаваў цэлыя дні, але не змог злавіць патрэбнае імгненне, не змог адчуць стан натуры. Ён не любіць застаяласці і звычайнасці ў прыродзе. Ён можа з захапленнем расказваць пра абуджэнне зямлі, аб тым, што нават яна дыхае, як жывы чалавек. У яго ўяўленні гэта абуджэнне пакрысе, непрыкметна падыходзіць да кульмінацыі, і, не адчуўшы гэтай «кропкі», цяжка мастаку штонебудзь зрабіць.

— Вы бачылі, як восень паволна асядае на дрэвы? У маіх вачах звычайныя прадметы раптам ператвараюцца ў гатовую дэталь, у матэрыял. І ўсё, чаго я дасягнуў, вынік таго, што крыху адчуваю такія вось імгненні.















Патрыярх зямлі.



Нафтапромысел.

Яўген КАРШУКОЎ

# КАЎКАЗСКІЯ ЗАМАЛЁЎКІ

*Гэтым летам мне давялося наведаць закаўказскія рэспублікі: Азербайджан, Арменію, Грузію. І хочацца падзяліцца ўражаннямі аб сустрэчах, расказаць аб добрых знаёмых і сябрах.*

## «ПАРТЫЗАНУ БАБАШУ»

Я НЕ ПАМЯТАЎ дакладна, у які зборнік увайшоў гэты верш Самеда Вургуна... Ведаў толькі, што напісаны і апублікаваны ён у 1942 годзе, а называецца — «Партызану Бабашу». Чытаўся верш з вялікім хваляваннем, бо кожны радок у ім быў прасякнуты вялікім пачуццём братэрскай дружбы народаў, у кожным радку адчувалася гарачае і шчодрае сэрца паэта. І яшчэ таму, што ў ім гаварылася аб «Беларусі-сястры», аб мужным сыне азербайджанскай зямлі Бабашу Дадашаву, які змагаўся супраць акупантаў на нашай зямлі.

**Ты партызан—перадаюць; снягі прыстанак вам даюць,**
**Дыханнем спёкай гэты снег ты растапіў — перадаюць.**
**Ты Беларусь-сястру спаткаў, каб ёй дапамагчы спаткаў:**
**О, хай ёй шчасце прынясе Усхода братняя рука!**

Пра гэты верш я думаў у Баку ўвесь час. Вельмі хацелася знайсці героя — убачыць, пагутарыць... І калегі з азербайджанскай літаратурнай газеты «Эдзебійят ве інджэсенет» адразу ж дапамаглі. Выявілася, што мой герой — інспектар аддзела начной міліцыі горада.

— Пазваніце на работу — вось вам нумар, ля пад'езда чакае машына, сядайце, едзьце і размаўляйце з ім колькі вам захочацца, — зычліва ўсміхаючыся, сказаў галоўны радактар газеты Юсіф Азім-задэ. — Дарэчы, кампанію вам складзе наш загадчык аддзела Сабір...

Сабір — невысокі, але з добрай спартыўнай фігурай хлопец — тут жа энергічна набраў тэлефонны нумар, пагаварыў мінуту-другую і расчаравана ўздыхнуў:

— Не шанцуе. У адпачынку Дадашаў. Паехаў на Украіну. Кажуць — да сваіх баявых сяброў...

— А раптам вярнуўся ўжо? — перабіў Азім-задэ. — Не губляйце надзеі, на ўсякі выпадак наведайце яго дома.

Праз якіх паўгадзіны, праехаўшы старыя нафтавыя промыслы, бакінскія ўскраіны, мы трапілі ў новы гарадскі пасёлак... Шматпавярховыя дамы, як грыбы высыпалі на пустошы. Нават з вопытным праваднікам Сабірам мы дастаткова паблыталі, пакуль знайшлі патрэбную вуліцу. Але ўсё добрае, што добра канчаецца: гаспадар усё-такі быў дома! Ён выйшаў нам насустрач з ванны, невысокі, грузнаваты, з ручніком на магутнай шыі, можа крышачку стомлены, але вясёлы і ажыўлены.

— Значыць, з Беларусі? Бываў, бываў я ў вас... Колькі гадоў мінула, але і цяпер памятаю беларускіх партызан — мужных, смелых людзей! Вось Кузняцоў... Мой сябра, гамяльчанін. На жаль, загінуў у Карпатах... А які быў цудоўны хлопец!

І ўжо няма канца ўспамінам, і сумным, і радасным. З нетаропкага расказа я даведваюся, як Дадашаў 18-гадовым юнаком стаў партызанам-каўпакаўцам: студэнт, добраахвотнік; курсы радыстаў у Маскве і неўзабаве—глыбокі варожы тыл... Колькі было пройдзена дарог, колькі засталося памятных на ўсё жыццё, дарагіх сэрцу месцаў на Украіне, у Беларусі. Рэйды, смелыя, нечаканыя для фашыстаў аперацыі-вылазкі...

...Гэта было недзе недалёка ад Чарнігава. Партызаны моцна пашкуматалі акупантаў. Захапілі склад зброі. Як заўсёды, пасля паспяховай аперацыі ў Бабаша быў прыўзняты настрой. Ён ляжаў пад сасной і задуменна пазіраў угору—на блакітныя асколкі неба... Успамінаў дом, маці, яе поўныя пяшчоты і трывогі наказы... І раптам:

— Тэрмінова ў штаб!

Прыбег у штаб. Разам з ім—яшчэ двое партызан. Сам Каўпак коратка растлумачыў задачу: трэба выратаваць жыхароў недалёкай вёскі, якіх фашысты рыхтуюцца расстраляць за сувязь з партызанамі... Пад выглядам сялян (везлі дровы) Бабаш і яго таварышы дабраліся да вёскі. Схаваліся на глухім задворку. Выявілася, што карнікі сагналі ўсіх жыхароў у школьны двор, але вырашылі да расправы «падсілкавацца» ў старасты-здрадніка... І — адгулялі! Трое смельчакоў знялі вартавых, закідалі дом старасты гранатамі, а тых, хто ўцалеў, скасілі з аўтаматаў. Вызвалілі жыхароў, захапілі дакументы і ў той жа дзень вярнуліся на стаянку брыгады. Усіх траіх Каўпак прадставіў да ўзнагароды. І хлопец з шырванскай вёскі ўпершыню атрымаў ордэн Айчыннай вайны першай ступені. Потым былі і другія ўзнагароды, іншыя аперацыі.

— Ну, а калі ж вы даведаліся аб вершы Самеда Вургуна? — пытаюся я.

— Пераслалі сябры газету «Камуніст»... А ў ёй і былі гэтыя дарагія для мяне словы паэта.

— Вы сустракаліся з Самедам Вургуном?

— А як жа, была сустрэча... У час вайны. Мяне тады накіравалі на кароткатэрміновыя курсы ў Маскву. Вось там і сустрэліся... На вуліцы. Разумееш, ніколі не думаў, што гэтак атрымаецца. Ідзем са сваім сябрам Кузняцовым і раптам чуем каля гасцініцы «Масква» — размаўляюць на азербайджанскай мове... Ды я б любога земляка расцалаваў, як бацьку роднага... А тут пазіраю — вачам не веру: Самед Вургун... На ўсю вуліцу крычу: «Таварыш Самед Вургун!» Той, другі, што быў з ім, пайшоў, а ён — стаіць, чакае мяне. Падбег, тлумачу, хто я і адкуль, хвалююся, вядома. А Самед Вургун абняў мяне і кажа: «Вось дык сустрэча, зямляк! Жывы герой майго верша... Але ты герой не толькі верша, усёй Радзімы, і дастойны самых лепшых песняў». Вось як было...

Бабаш Дадашаў задумваецца, пазірае перад сабой, нібы зноўку перажывае сустрэчу з паэтам. А мне хочацца хутчэй пачуць працяг расказа. Я прыспешваю: што далей?

— А потым жа мы былі з Кузняцовым у гасцях у Самеда Вургуна ў гасцініцы «Масква» і пазнаёміліся з яго сябрам, паэтам Паўлам Антакольскім. У той жа дзень Самед Вургун выступаў у нас са сваімі вершамі перад курсантамі... Потым на памяць падарыў нам па футравай шапцы, а Каўпаку прасіў перадаць шарсцяны шалік і вершы «Партызанам Украіны». Сідар Арцёмавіч быў вельмі задаволены і ўсё марыў сустрэцца з паэтам.

Я не ўтрымліваюся, каб не спытаць:

— На Украіне вы часта бываеце, а калі да нас, у Беларусь, зазірнеце?

— У наступным годзе—абавязкова прыеду... Павінен. На дружбу з беларусамі, як бачыце, яшчэ Самед Вургун мяне блаславіў... Вялікі быў чалавек! Сапраўдны чалавек!

## «ЕРЭВАН У МАІМ СЭРЦЫ»

УРАРТУ... Адна з самых старажытных краін на сярэднім усходзе. Клінапіс на базальтавым камені расказвае аб вельмі цікавай старонцы ў гісторыі Арменіі... Цар Аргішці сын Менуа.... Той, які пакінуў звесткі на камені, як узнік Ерэван: «...Зямля была пустыннай, магутную справу я на ёй здзейсніў...»

Не, гэта не помнікі даўніны, а можа не столькі яны хвалявалі мяне, калі я ўпершыню, нягледзячы на амаль 40-градусную спякоту, хадзіў па вуліцах Ерэвана, стаяў ля цудоўнай гасцініцы «Арменія» на плошчы імя Леніна...

Горад паказаўся мне вельмі маладым, нейкім новым, нібы народжаным казкай. Былое амаль не пакінула слядоў на яго абліччы, калі не лічыць старажытных руін, ды некалькіх храмаў і мастоў. Мяне радавалі ружова-каменныя будынкі з туфа—вельмі трывалага, даўгавечнага, прыгожага каменя... З таго самага туфа, з якога будавалі тут яшчэ продкі армян. Гэты ружовы, нібы асветлены пяшчотным ранішнім сонцам, працяты яркімі ружова-залацістымі праменямі, горад выглядаў свежа, весела, жыццярадасна. І прыйшлі на памяць радкі з верша Сільвы Капуцікян, у якіх гаворыцца, што «каменне гісторыі» было чорным, як «чорны лёс» шматпакутнага армянскага народа. А сёння—

**Будынкаў колеры вясновыя**
**Пад весні колер нашых дзён.**

Усяго за апошняе паўстагоддзе стаў Ерэван горадам-цудам. Такім, якім не зрабілі яго і 27 стагоддзяў...

Да гасцініцы пад'язджалі машыны, ля параднага ўваходу тоўпіліся тыя, для каго цудоўны камфартабельны будынак стаў на некалькі дзён домам. Былі тут і госці з далёкіх краін... Незвычайныя госці. Людзі, што вярнуліся, прыехалі пакланіцца роднай зямлі. І ў гэтых турыстах не цяжка было пазнаць армян. Іх прагныя позіркі, усхваляваныя галасы выдавалі незвычайную зацікаўленасць усім, што было наўкола—выдатным архітэктурным ансамблем плошчы імя правадыра.

Маю ўвагу прыцягнуў малады, крышку сутулы армянін у вішнёвай тэнісцы—турыст. На яго задуменным твары чыталася радасць—радасць нечаканага адкрыцця... Але гэта пачуццё было не такім, як маё, савецкага чалавека, які прывык да велічных здзяйсненняў у сваёй краіне, а намнога глыбейшым і больш складаным. І думаў, напэўна, ён не толькі аб прыгажосцях сталіцы, а яшчэ аб тым, як яго землякі змаглі так многа зрабіць за кароткі час. Заўважыўшы мой пільны позірк, ён па-сяброўску мне ўсміхнуўся, я прачытаў на яго твары шчырую ўдзячнасць—нібы і сам меў дачыненне да таго, што зроблена ў Арменіі за гады Савецкай улады...

У той жа дзень журналісцкая сцежка прывяла мяне ў Камітэт па культурных сувязях з армянамі за рубяжом: супрацоўнік камітэта Марцірос Сяргеевіч Мелкунян абяцаў пазнаёміць з адным турыстам-армянінам з Уругвая... Якое ж было маё здзіўленне, калі ў яго кабінеце я ўбачыў... свайго нядаўняга знаёмага.

— Грант Ганемян, з Уругвая,—прадставіў яго Марцірос Сяргеевіч і, усміхаючыся, дадаў:—Хочаце ўзяць інтэрв'ю? Грант згодзен... А перакладчыкам буду я.

Наша гутарка прайшла, як кажуць, **у**



Заслужаная артыстка Аз. ССР балерына Галіна Шыраліева.



У Кіравабадскім запаведніку.

вельмі сардэчнай абстаноўцы. Мяне цікавілі яго першыя ўражанні, уражанні чалавека, які ўпершыню ўбачыў краіну продкаў...

— Аб Савецкай Арменіі я многа чытаў. Чытаў і радаваўся поспехам Радзімы маіх продкаў. Але тое, што я ўбачыў сваімі вачыма, здзівіла мяне незвычайна. Эканамічнае становішча ў нас ва Уругваі цяжкае, рэдка ўбачыш твар чалавека з бесклапотнай усмешкай. А тут — ветлівыя, вясёлыя твары на кожным кроку. І ўсе, з кім не гутарыў, задаволены сваім жыццём, працай. Праўда, я яшчэ нідзе не быў акрамя сталіцы...

— Ну, а сама сталіца, як падабаецца вам гэты горад?

— Вы не ўяўляеце сабе, як сціснулася ад хвалявання маё сэрца, калі я з самалёта ўбачыў снежную вяршыню Арарата... А потым, калі прызямліліся, калі пачуў родную мову, я гатоў быў цалаваць кожны камень святога для кожнага армяніна горада. Я многа бачыў розных гарадоў свету, але Ерэван—казка. Ён у маім сэрцы... Пабудаваны з вялікім густам, з улікам нацыянальнай архітэктуры, гэты горад гаворыць не толькі пра дабрабыт народа. Як я разумею, і Ерэван і ўсё тое, чаго дасягнуў армянскі народ за апошнія гады—вынік братняй дапамогі ўсяго савецкага народа... Я рады за суайчыннікаў — мінула для іх доўгая чарга бед і выпрабаванняў. І вось цяпер армяне ўпэўнена глядзяць у будучыню.

Мы не гаворым, не ўдакладняем, колькі пабудавана ў Арменіі заводаў, фабрык, колькі вышэйшых навучальных устаноў, тэатраў. Лічбы ў гэтыя мінуты не патрэбны...

Вокны—адчыненыя. Надвячоркам спякота меншая. Вінаградная лаза заглядае праз вокны ў кабінет. Мае субяседнікі шматзначна маўчаць. Кураць. Узрушана пазіраюць туды, дзе блішчыць снежная галава Арарата... І я беспамылкова здагадваюся, аб чым іх думкі ў гэтую мінуту—аб Радзіме...

## ДОБРЫЯ ТУТ ЛЮДЗІ

АСФАЛЬТАВАНАЯ дарога ўецца між лясістых гор, бяжыць па даліне... Крутыя пад'ёмы, павароты, спускі. Спяшаецца і рвецца ўперад паміж камення неспакойная Пшаўскя Арагва. Той, каму не даводзілася бачыць каўказскай прыроды, наўрад ці ўявіць сабе гэтую непаўторную карціну, якая дастойна вершаў вялікага паэта...

Але ён жыў тут, папулярны і любімы ў Грузіі паэт Важа Пшавела. У Чаргалі, у гэтай маленькай хатцы на схіле гары ля празрыстай халоднай крынічкі, ён тварыў, пісаў свае бессмяротныя песні аб родным краі.

Сёння тут мнагалюдна... Людзі з самых далёкіх сялібаў і гарадоў прыехалі на святкаванне штогадовага «Дня Пшавелы». Чытаюць вершы паэты—Іосіф Нанешвілі, Надар Гурэшыдзе і іншыя, выступаюць са словам удзячнасці госці з далёкіх ад Чаргалі мясцін, пяюць песні... І ўсе гавораць аб тым, як цаніў паэт у людзях сапраўдную дружбу, шчырае іх імкненне дапамагчы адзін аднаму ў бядзе.

Я прыгадаў гэта, калі ля самай ракі пад разгалістымі дрэвамі людзі сабраліся, каб па-старому звычаю адзначыць гэты дзень і кубкам віна, і напеўнай грузінскай песняй.

Побач са мной сядзелі работнік райкома партыі Эдуард Гарыбашвілі і маладая настаўніца з Душэці Зіна Хуцышвілі. Абодва добра гаварылі па-руску. Асабліва Зіна. Тлумачылі мне народныя грузінскія звычаі, многае расказвалі пра свой раён, жартавалі. Мяне троху здзівіла, што ў грузінкі наша імя... Між іншым, кінуліся ў вочы і яе міла-відны славянскі твар, доўгая каса бялявых валасоў.

— Калі б не ведаў, што вы грузінка, сказаў бы—беларуска або ўкраінка,—пажартаваў я.

— А вы амаль угадалі... Мая маці і ёсць украінка.

І я пачуў кароткі, але вельмі хвалюючы расказ аб лёсе Зінінай маці...

Трапіла яна ў Грузію перад самай вайной—адпачывала ў піянерскім лагеры. А тут—вайна... Вярнуцца дамоў, на Чарнігаўшчыну, дзяўчынка ўжо не магла: тэрыторыя была акупіравана ворагам. Дзяўчынку прыгрэла адна грузінская сям'я ў Душэці. І яна не адчувала сябе чужой у гэтай сям'і. Клапаціліся аб ёй, выхоўвалі як сваіх дзяцей. Тут вырасла, тут выйшла замуж. Пасля вайны нікога не знайшла са сваіх—бацькі і браты загінулі.

— Вось мы і жывём у Душэці,—ціха закончыла расказ Зіна. Твар яе троху спахмурнеў, але неўзабаве зноў засвяціўся лагоднай усмешкай: — Добрыя тут людзі, дружныя... Я вельмі люблю гэты край, як і маміну радзіму.

Потым Зіна ўсхвалявана чытала вершы Важа Пшавелы... Радзіма паэта стала і яе радзімай. А зусім побач звінела горная Арагва. І словы песняра аб братэрстве прыгожа ўпляталіся ў гэтую меладычную музыку, спрадвечную песню ракі, над якой сінела, пералівалася вячэрнімі фарбамі чыстае каўказскае неба.

## ДЗВЕ СУСТРЭЧЫ

...1963 ГОД. Пачатак лета. Магутная Прыпяць гуляе сярэбранымі пругкімі хвалямі за кармой цеплахода. Цёплы сустрэчны вецер асвяжае твар. Пажылыя людзі, абняўшыся, стаяць на палубе і спяваюць даваенныя песні. Яны кранаюць сэрца незвычайна: і таму, што добрыя, і таму, што ў мінулым заўсёды ёсць крышку суму. Але яшчэ і таму, што вось так задушэўна пеліся гэтымі людзьмі ля партызанскіх кастроў... А тут жа, на палубе, былыя партызаны-каўпакаўцы: украінцы, рускія, беларусы, грузіны... Прыехалі наведаць месцы колішніх баёў.

Асабліва ажыўлена каля легендарнага Сідара Арцёмавіча Каўпака. Ён — у белай каўказскай бурцы, якую падарылі яму толькі што партызаны з Грузіі... З бацькоўскай любоўю пазірае на свайго лепшага камандзіра палка Героя Савецкага Саюза Давіда Бакрадзе. А той, высокі, двухметровага росту, плячысты асілак усміхаецца разгубленай, нават нейкай амаль дзіцячай пяшчотнай усмешкай: рухавы кінааператар з мясцовай тэлестудыі не спіць...

— Гэтая паездка ў Беларусь была цудоўнай,—гаворыць Давід Іосіфавіч.—Я яе ўсё ўспамінаю... Асабліва сардэчна нас сустракалі ў Арэвічах, Нароўлі. Людзі памятаюць...

Я сяджу ў кабінеце ўпраўляючага трэста «Грузія-мармур» Іосіфа Бакрадзе... Гэта — другая сустрэча, пасля прыпяцкай. А магчыма і трэцяя—я ж чытаў яго кнігі ўспамінаў пра партызанскія паходы. Толькі сёння гэты добразычлівы вясёлы тбілісец зацікавіў мяне іншым, сваімі мірнымі справамі... З якім натхненнем і веданнем ён расказваў аб здабычы мармуру ў Грузіі, з якім гонарам паказваў узоры мармуру, — чорнага, белага, жоўтага, шэрага, блакітнага, чырвонага... Здаецца тут сабраны ўсе колеры вясёлкі.

— 48 колераў у нас! Ёсць такія, якіх нідзе няма... За мяжой наш мармур, ведаеце, як цэніцца? Ого, толькі давай... Быў я нядаўна ў Італіі...

Але я не столькі слухаю цікавыя ўспаміны аб Італіі, колькі ўзіраюся ў натхнёны твар ужо сіваватага Давіда Іосіфавіча. Калі б не сівізна—не паверыў бы, што гэты чалавек у такіх салідных гадах: столькі ў яго юнацкага запалу, сапраўднай захопленасці справай, энергіі.

Перад развітаннем ён зноў вяртаецца да мінулага.

Давід Іосіфавіч успамінае імёны знаёмых беларускіх партызан, перадае ім прывітанні—ажыўлены, узрушаны. А я думаю: вось такая дружба, загартаваная ў баях, замацаваная крывёю ў сумеснай барацьбе за Савецкую Радзіму—такая дружба на ўсё жыццё.

Геворг ЭМІН Арменія

# МАІМ БЕЛАРУСКІМ СЯБРАМ

Пачуццё дружбы народаў, якое вякамі было марай усяго чалавецтва, а потым — пуцяводнай зоркай, праграмай і запаведдзю нашага новага жыцця, зараз да таго ўвайшло ў наша жыццё і злілося з ім, што, існуючы, стала нябачным, як тое паветра, якім мы дыхаем...

З кожным днём гэта паняцце ўсё больш і больш «спускаецца» з трыбун, лозунгаў і газетных палос у жыццё, робіцца ўсё больш і больш канкрэтным, падобна на здаровы кровазварот, які надае сілу кожнаму народу.

Калі, як гаворыцца ў вядомай прыказцы, «Розум добра, а два—лепш», дык што можна сказаць аб той збіральнай, адзінай мудрасці і таленце пятнаццаці народаў-братоў, якія робяць моцнымі і непераможнымі кожнага з нас—няхай гэта будзе ў народнай гаспадарцы, навуцы або літаратуры.

Пяцідзесяцігадовае свята нашага братэрства для мяне асабіста яшчэ больш радаснае тым, што напярэдадні яго я з Дагестана атрымаў пераклад на аварскую мову маёй кнігі «Сем песень аб Арменіі» (проза), а з Беларусі—пераклад маёй кнігі вершаў «Песні Арменіі». Паўтарыць добрае слова — не грэх, і я хачу яшчэ раз сказаць аб тым, які вялікі гонар для мяне, што гэтую кнігу будуць чытаць на вельмі мілай і музычнай для нас, армян, беларускай мове і які я ўдзячны за гэта маім беларускім сябрам, — пачынаючы ад складальніка і аўтара прадмовы кнігі Алеся Бачылы і паэтаў-перакладчыкаў Броўкі, Грачанікава, Гаўрука, Бялевіча, Няхая, Лойкі, Прыходзькі, Аўрамчыка, Семяжона, Грахоўскага, Жычкі, Шахаўца, Пестрака, Чэрні, Панчанкі, Сіпакова, да рэдактараў кнігі Чэрні і Сакалоўскага, мастака Касьмініна, мастацкага і тэхнічнага рэдактараў Прагіна і Федарук, карэктара Харко...

Калі да гэтага спісу дадаць і тых маіх беларускіх сяброў і пісьменнікаў, якія не мелі непасрэдных адносін да выдання маёй кнігі, але любяць наш народ і нашу краіну, і яшчэ дадаць наборшчыкаў кнігі, друкароў, нястомных кнігапрадаўцоў, а заадно і... чытачоў, дык, напэўна, збярэцца ўвесь беларускі народ, якому я хачу сказаць слова майго сэрца, маю гарачую ўдзячнасць і яшчэ —душэўныя віншаванні да 50-годдзя нашага братэрства.

Хачу яшчэ дадаць, што наш народ адносіцца да Беларусі і беларускага народа вельмі цёпла і пяшчотна, і «Анталогія беларускай літаратуры» на армянскай мове з 1957 года стала адной з папулярных кніг у Арменіі...

Я вельмі рады, што ў свой час прыняў сціплы ўдзел у выданні гэтай «Анталогіі», і, спадзяюся, што яшчэ многа новых песень маіх беларускіх сяброў прагучаць на старажытнай мове Арменіі.



Дыванавы камбінат у Кіравабадзе.

# ГЛЫБОКІ, ПРАНІКЛІВЫ ПОЗІРК

### ПРА РАМАНЫ МІКОЛЫ ЛОБАНА «НА ПАРОЗЕ БУДУЧЫНІ» І «ГАРАДОК УСТРОНЬ»

У КАБІНЕЦЕ сакратара райкома партыі размаўляюць двое. Абодва адказныя партыйныя кіраўнікі, людзі добрасумленныя і адданыя справе. Але як па-рознаму яны разумеюць сваю ролю ў жыцці, як па-рознаму бачаць людзей, з якімі даводзіцца працаваць!

Падзеі, апісаныя ў рамане Міколы Лобана «Гарадок Устронь», адбываюцца ў 30-х гадах. Для сакратара райкома партыі Мароза самае галоўнае — вывесці раён па ўсіх паказчыках у перадавыя; у тэрмін (а яшчэ лепш—раней тэрміна) выканаць усе планы, рашэнні, заданні, пастановы, што прыходзяць у раён «зверху». І тут мы разумеем яго: абавязак... Вось толькі сродкі для гэтага... На думку Мароза, любыя сродкі апраўданы высокімі дзяржаўнымі мэтамі. Але старшыня калгаса Бадытчык, чалавек разумны, гаспадарлівы, ён высока цэніць давер арцельцаў і таму не можа бяздумна падпарадкавацца не заўсёды прадуманым загадам раённага начальства. Такі старшыня калгаса для Мароза — «нейкі непрыцёрты, неразмерны, быццам не з таго механізма колца. Усё навокал круціцца, а ён адзін чапляе, упіраецца». Чалавек, вельмі прагны да пашаны, Мароз не церпіць ніякай нязгоды, ніякай «непрыцёртасці» ў кіруемым ім механізме. Ён пачынае крыкам, строгімі адміністрацыйнымі захадамі «падганяць», «падстругваць» душу чалавечую. Калі ж высветлілася, што «падгонкай» такі характар, як у Бадытчыка, не зменіш, ён прымае катэгарычнае рашэнне «адно колца замяніць другім», інакш гаворачы, зняць Бадытчыка з пасады.

Такі «непрыцёрты», яршысты характар аказаўся і ў новага начальніка палітаддзела Устронскай МТС Андрэя Шэмета. Ён адкрыта не прымае стыль кіраўніцтва сакратара райкома Мароза, і на гэтым узнікае адзін з галоўных канфліктаў рамана.

Раманы Міколы Лобана «На парозе будучыні» і «Гарадок Устронь» адлюстроўваюць падзеі бурлівыя, складаныя, часам супярэчлівыя ў гісторыі нашай краіны. Гэта перыяд, які не аднойчы быў аб'ектам увагі нашых пісьменнікаў. Але кожны новы заход у гэту тэму дазваляе раскрыць новыя аспекты ва ўзаемаадносінах людзей, паказаць нейкія новыя адценні каларыту эпохі, грамадскай атмасферы часу.

Мікола Лобан не абыходзіць вострых сацыяльных канфліктаў, складаных псіхалагічных сітуацый, і менавіта гэта забяспечвае яго творам поспех у чытача.

Аўтар раманаў «На парозе будучыні» і «Гарадок Устронь» не толькі пісьменнік, але і вучоны-лінгвіст. Гэта вельмі ўдалае спалучэнне інтарэсаў дае свой цудоўны плён. Мова твораў М. Лобана сакавітая, вобразная, шматфарбная, багата сінанімічная. Эпітэты ўражваюць сваёй свежасцю. І вобраз паўстае не толькі ў зрокавай непаўторнасці, але часта і ў гукавой. Так, Мароз не проста закурыў, а «пачыркаў запалкай, папыхкаў». «Ходзікі недзе чэкаюць»,—заўважае пісьменнік, і за гэтым «чэкаюць» паўстае адразу ўяўленне і зрокавае, і гукавое. У бяздарнага гаспадара, старшыні калгаса Журавінкі людзі выходзяць касіць «у свіныя галасы», г. зн. вельмі позна, калі добрыя суседзі ўжо напрацаваліся.

Жыццёвая актуальнасць праблем, узнятых у творах М. Лобана, майстэрства пісьменніка ў пабудове востра драматычнага канфлікту, у якім героі выяўляюць сябе, сваё светаразуменне, свой характар, уменне жывапісаць словам — усё гэта выклікае ў чытача сімпатыю да аўтара, цікавасць да кніг пісьменніка.

Але разам з тым застаецца і пачуццё нейкай незадаволенасці. Характары ў Шэмета, Мароза, Гаварушкі, Журавінкі, Ляха — герояў рамана «Гарадок Устронь» — надзіва розныя, аднак яны якімі з'явіліся на першых старонках рамана, такімі праходзяць і праз увесь твор. І ў гэтым адчуваецца нешта ад зададзенасці, схематызму. Вось Андрэй Шэмет упершыню з'явіўся ва Устроні, зайшоў да сакратара райкома Мароза, яны яшчэ не знаёмы, ды і чытач не ведае, што гэта за людзі, чаго ад іх чакаць. А Шэмет, быццам яму ўсё наперад вядома, паводзіць сябе з сакратаром райкома пры самай першай сустрэчы насцярожана, недаверліва. Псіхалагічнай матывіроўкі ў гэтай сцэне яўна не хапае. Вось з такой псіхалагічнай неабгрунтаванасцю не аднойчы сустракаешся ў рамане. Мастацкім вобразам рамана часам бракуе духоўнай напоўненасці, псіхалагічнай глыбіні, рэфлектыўнасці ў самым добрым сэнсе гэтага слова, той рэфлектыўнасці, якая дапамагла б убачыць характар у развіцці, у фарміраванні, зрабіла б яго больш яркім і шматгранным.

І хочацца спадзявацца, што ў заключнай частцы трылогіі, над якой працуе празаік, талент яго праявіцца ўсебакова, заззяе ўсімі гранямі.

Лідзія ГОЛУБЕВА,
кандыдат філалагічных навук.

# СВЕТ, ЯКІ ЗАЎЖДЫ З ТАБОЙ

### ПРА КНІГІ АЛЕСЯ ЯКІМОВІЧА «АДКУЛЬ ЛІХА НА СВЕЦЕ», «КАНЕЦ СЕРВІТУТУ», «КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ»

Я ШЧЭ раннімі творамі Алесь Якімовіч звярнуў на сябе ўвагу, як пісьменнік самабытны, арыгінальны. Ён даволі ўдала выкарыстоўвае беларускі фальклор — быліну, казку, паданне. «Каваль-вярнідуб», напрыклад, стаў хрэстаматыйным творам цэлага пакалення. Гэта гісторыя, наша спадчына.

Не будзем пералічваць усё, напісанае А. Якімовічам за многія гады яго літаратурнай дзейнасці. Возьмем апошнія творы нашага вядучага дзіцячага пісьменніка. Я маю на ўвазе «Адкуль ліха на свеце», «Канец сервітуту», «Кастусь Каліноўскі», якія сталі сапраўднай вяхой у творчасці аўтара і пашырылі наша ўяўленне аб яго магчымасцях і таленце. Гэтыя творы аб'ядноўвае не толькі сама тэма, час, цікава выпісаны побыт герояў, але і погляд пісьменніка на падзеі таго часу, маштабнасць і выключная праўдзівасць. Кнігі становяцца як бы летапісам пакалення, і ў гэтым вялікая іх каштоўнасць.

Падзеі адбываюцца ў аповесці «Канец сервітуту» ў невялічкай вёсачцы Галынаўка. А колькі тыповага і цікавага там знойдзена! Колькі розных лёсаў паказана!

Гэтае ўменне — праз малае паказаць вялікае — даволі яскрава сведчыць аб сталасці майстэрства. Мы з замілаваннем і радасцю назіраем, як кволы і забіты пастушок Пятрусь паступова, з году ў год, мужнее, набірае рэвалюцыйнай сілы, і недзе ў канцы кнігі вырастае да сакратара сельскага камітэта.

Пятрусь—гэта прадстаўнік перадавога беларускага сялянства, барацьбіт, удзельнік вялікіх змен, якія адбываліся на пачатку рэвалюцыйных часоў.

Тэма выбрана вялікая і адказная. Але, вядома, галоўнае ў кожным творы не тэма, хоць і яна мае істотнае значэнне, а тыя мастацкія сродкі, якімі тэма вырашана. Тут за прыкладамі, як гаворыцца, далёка хадзіць не трэба. Дастаткова разгарнуць любую старонку, каб пераканацца, што аўтар піша лаканічна, трапна і маляўніча. Аповесць чытаецца ўсюды аднолькава цікава, яна хвалюе, бо яна блізкая нам па свайму духу. Здаецца, што пісьменнік расказвае пра цябе,

# СЫНОЎНЯЯ СПОВЕДЗЬ

### ПРА КНІГУ «ЖНІВО» Г. БУРАЎКІНА

СЁННЯШНЯЯ Беларуская паэзія надзвычай багатая на выяўленне творчых індывідуальнасцей. І ў гэтым узгодненым і суладным хоры вельмі добра чуецца пранікнёны голас Генадзя Бураўкіна.

У чым яго своеасаблівасць?

У абвострана-паглыбленым адчуванні сучаснасці. Цяжка ўявіць, каб паэт узяўся за якую-небудзь гістарычную тэму. Ён піша толькі пра тое, што перажыў і ўсвядоміў асабіста. Нават вершы інтымнага і пейзажнага плана пад яго пяром набываюць падкрэслена публіцыстычнае гучанне. З жартаўлівай інтанацыяй ён і сонца гатоў папракнуць за тое, што яно свеціць капіталістам (верш «З сонцам»). Як вядома, такая пазіцыя даўно ўзаконена ў савецкай паэзіі Уладзімірам Маякоўскім і можна толькі пахваліць аднаго з малодшых яго паслядоўнікаў за імкненне глядзець на рэчы маштабна. Іншая справа, наколькі арганічна гэта для творчай манеры самога Генадзя Бураўкіна.

Паглядзім канкрэтна.

Ёсць тэмы, дзе зварот да Уладзіміра Маякоўскага проста непазбежны. Красамоўнае таму сведчанне—«Паэма расстання» Генадзя Бураўкіна, прысвечаная трагічнай смерці і пахаванню першапраходца космасу Юрыя Гагарына.

Можна па рознаму падыходзіць да ўвасаблення героя нашага часу. Ім можа быць і трактарыст, які цаной уласнага жыцця ратуе калгасны ўраджай, і малады воін, што без развагі кідаецца ў паядынак з вогненнай стыхіяй, каб зберагчы народны набытак, запявала новых метадаў камуністычнай працы і нястомны геолаг, дапытлівы вучоны і патрыёт, што на свае сціплыя сродкі выхаваў добры тузін дзяцей-сірот, абяздоленых вайной. Але ніхто не стане аспрэчваць, што гагарынскі подзвіг — гэта фо-

# ЯРКАЯ ТВОРЧАЯ ІНДЫВІДУАЛЬНАСЦЬ

### ПРА КНІГУ Р. БЯРОЗКІНА «ПОСТАЦІ»

БЕЛАРУСКАЯ КРЫТЫКА і літаратуразнаўства маюць цяпер бясспрэчныя дасягненні і здабыткі. І ў гэтым немалая заслуга Р. Бярозкіна, творчасць якога шырока разгарнулася на сучасным этапе. Яго кнігі «Паэзія праўды» (1958), «Спадарожніца часу» (1961), «Свет Купалы» (1965) былі заўважаны і высока ацэнены грамадскасцю. Яны аказалі і прадаўжаюць аказваць добратворнае ўздзеянне на ўвесь літаратурны працэс у рэспубліцы, узнімаюць і ўзбагачаюць беларускую крытычную думку. Асобныя кнігі гэтага крытыка (нарысы пра творчасць А. Куляшова, М. Багдановіча) выйшлі за межы нашай рэспублікі, выдадзены на рускай мове ў Маскве і робяць вельмі патрэбную ў наш час справу — знаёмяць з беларускай паэзіяй усесаюзнага чытача, умацоўваюць дружбу і ўзаемасувязі паміж нашымі культурамі.

У актыве Р. Бярозкіна шматлікія артыкулы і рэцэнзіі, змешчаныя ў рэспубліканскім і ўсесаюзным перыядычным друку, ён адзін з укладальнікаў трохтомнай «Анталогіі беларускай паэзіі».

Усё гэта дае нам падставу гаварыць аб творчым шляху таленавітага крытыка, аб яго пошуках і адкрыццях у такой жа меры, як гэта мы робім у адносінах да паэта або празаіка. Дарэчы, кожная з названых вышэй кніг магла б быць прадстаўлена ў якасці кандыдацкай дысертацыі...

Высокім прафесіяналізмам, майстэрствам крытычнага аналізу вызначаецца і кніга Р. Бярозкіна «Постаці» (выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1971 г.), адрэдагаваная на грамадскіх асновах лаўрэатам Ленінскай прэміі І. Мележам. Гэта зборнік артыкулаў пра беларускіх паэтаў — розных гістарычных эпох: «Роздум над «Песняй пра зубра» Міколы Гусоўскага, артыкулы пра Цётку, Максіма Багдановіча, Міхайлу Грамыку, Уладзіміра Хадыку, Юлія Таўбіна, Аркадзя Куляшова, Аляксея Пысіна. Як бачым, сабраны артыкулы пра паэтаў розных стыляў, розных творчых магчымасцей. А кніжка ўсё ж атрымалася цэласная, яна адзначана адзінствам эстэтычных патрабаванняў аўтара, яго шчырым імкненнем знайсці сваё непаўторнае ў творчым почырку кожнага паэта і паказаць гэта на прыкладзе творчасці. У Р. Бярозкіна ёсць свой падыход да аналізу мастацкага матэрыялу, свая крытычная манера.

У чым яна?

Па-першае, яго крытыка грунтуецца на строга навуковай марксісцкай аснове, мае моцную ўнутраную логіку разважанняў. Крытык умее паглядзець на канкрэтную з'яву нашага літаратурнага жыцця шырока, у кантэксце ўсесаюзным і сусветным. І крытэрыі ў яго ўсюды навуковыя, эстэтычныя. Ён нідзе не збіваецца на пераказ тэксту, а трымаецца заўсёды на той вышыні, якая патрабуе вялікай інтэлектуальнай энергіі, шырокіх ведаў, душэўнай актыўнасці.

Па-другое, ён ніколі не адрываецца ад грунту, ад канкрэтных фактаў і з'яў, выкладзеных у творы. У цэнтры ўвагі крытыка-даследчыка сама мастацкая фактура твора, яго жывая паэтычная ідэя. Ён ўмее па-свойму, вельмі тонка і кваліфікавана «прачытаць» паэтычны твор у непарыўнай сувязі яго формы і зместу, не зрушыўшы, не ўмярцвіўшы яго жывую душу. Пры такім аналітычным «чытанні» твор заўсёды правяраецца народным жыццём таго гістарычнага часу, аб якім ён напісаны.

Маючы на ўвазе прынцыпы адзінства інтэрнацыянальнага і нацыянальнага, Р. Бярозкін заклапочаны магчымасцямі памножыць нацыянальныя паэтычныя багацці, паказаць хараство і непраходзячае значэнне таго, што створана талентам беларускага народа, што ўносіцца ў скарбніцу сусветнай культуры.

Так, разгледзеўшы «Песню пра зубра», яе мастацкія вартасці, крытык заключае: «Сказаць, што Я. Семяжон выдатна пераклаў выдатны літаратурны помнік старажытнасці, значыць, сказаць вельмі мала,—Семяжон вярнуў вялікаму твору яго ўласную — беларускую — прыроду, арганічную плоць і кроў ягонага замыслу і выкапання, яго стыхію і ўлонне, яго водар, гучанне, фарбы, адценні».

Нямала ўжо напісана ў нас пра творчасць Цёткі. Але ў прачытанні Р. Бярозкіна яна паўстала перад намі жывой і цэльнай натурай; па-мойму, больш поўна і доказна разгледжаны яе грамадска-літаратурная дзейнасць.

Р. Бярозкін адкрыў сучаснаму чытачу паэта Міхайлу Грамыку. Гэта імя пачалі ўпамінаць нядаўна, ды і то часцей як аўтара толькі «Гвалту над формай». Аказваецца, многія творы

пра тваё далёкае, але такое блізкае жыццё, пра тваё гора і тваю радасць.

Нельга, скажам, без хвалявання чытаць тыя старонкі, дзе расказваецца, як Пятрусь з дзедам купілі ў цыгана коніка, які аказаўся... сляпым! Гэтае адкрыццё звалілася на іх бедныя галовы, як гром сярод яснага неба. Што ж рабіць? Грошы аддалі, а набылі калеку, яго ж самога трэба вадзіць...

Беднаму заўсёды не шанцуе. Але ж і тут свеціць надзея: сляпога каня не запішуць у вайсковы абоз! Ды, вядома, што бяда ніколі не ходзіць адна...

За суровай, цяжкай зімою надышла галодная вясна. Петрусёў дзед памёр, адзіная ўцеха — сляпы конік — прапаў. Жыць далей стала проста немагчыма...

І былы «настаўнік», грамацей з трыма класамі, ідзе ў багаты засценак пастушком да Вінцука. Тут адбываецца нейкі надлом у душы героя, спад.

Але ж і ў Піцеры першая рэвалюцыйная ўспышка тым часам як бы патухла на пэўны перыяд. Такая паралель заканамерная, яна патрэбна мастаку для настраёвасці, для агульнай карціны, цэлага палатна. Пасля, калі рэвалюцыйны гром скалане ўстоі самадзяржаўя, абудзіць і падніме на барацьбу сялянскія масы — зноў акрыяе Пятрусь, небывала вырасце. І яго, сведку і ўдзельніка, не абыдуць увагай: пасля раздзелу панскага маёнтка Пятрусь едзе дамоў на кані...

Мы глыбока перакананы, што наш герой у далейшым стане сапраўдным барацьбітом за народнае шчасце.

З вялікай цеплынёй і любоўю малюе Алесь Якімовіч родную беларускую прыроду. У гэтых малюнках поўна сонца і святла, багата водару жытнёвых палеткаў і шумлівых бароў. Тут мы маем прыклад моўнай ашчаднасці, калі на поўную сілу скарыстана кожнае слова. Гэта таксама сведчыць пра сталасць пісьменніка, які ўмее аддзяліць зярняты ад мякіны.

Выкладчык літаратуры Вышэйшых літаратурных курсаў пры інстытуце імя Горкага, акадэмік Грыгор'еў нам гаварыў калісьці, што азначэнне «вобраз» мае надзвычай шырокае паняцце. Толькі той, адзначаў выкладчык, хто ўмее вобразы герояў, вобразы месца дзеяння, вобраз эпохі сцэментаваць у адзіны вобраз цэлага твора, —дасягае мэты. Мне здаецца, што кніга «Канец сервітуту» мае такі вобраз, свой адметны твар.

Многа добрых слоў можна сказаць і пра аповесць «Кастусь Каліноўскі». Але гэта ўжо новая гаворка, хоць у многім творы звязаны між сабою. І калі б мы мелі толькі аповесці «Адкуль ліха на свеце» і «Канец сервітуту», то і тады можна было б з упэўненасцю сказаць — гэтыя творы варты вышэйшай узнагароды, якую па-праву заслужыў наш старэйшына дзіцячай літаратуры Алесь Якімовіч.

**Мікола ВАДАНОСАЎ.**

---

# ПАЭМА НАТХНЕННЯ

## ПРА КНІГУ С. ГРАХОЎСКАГА «ПАЭМА ДАРОГ»

ЯМУ НЯЛЁГКА было ісці па гэтай дарозе. Бязлітасная доля бежанца падпільнавала яго маленства яшчэ тады, у першую, як кажуць, Мікалаеўскую вайну. Абкураны дарожнымі кастрамі, да костачак прамыты дажджом, у лахманах і брудзе ён неяк усё ж рос і гадаваўся:

> **Расхлістаны бадзяўся па марозе**
> **Мурзаты трохгадовы чалавек,**
> **І думаў, што жывуць усе**
> **ў дарозе,**
> **І што ваююць людзі цэлы век.**

А гэта, здаецца, ужо страшна. Страшна таму, што так навучылася думаць трохгадовае дзіця. Яго шчырасць і юнае светаадчуванне ўспрымаюцца як людская трагедыя, як той час, калі чалавек ратаваўся не толькі ад чужынцаў, але і ад сваіх залатапагоннікаў, усіх тых, хто абараняў інтарэсы «верхніх дзесяці тысяч» (У. І. Ленін).

Нямала пройдзе жыццёвых сцяжынак і дарог лірычны герой С. Грахоўскага. На гэтых шляхах, на крутых і заломістых паваротах гісторыі, яму сустрэнуцца добрыя і мудрыя людзі. І калі праўда, што «вострыцца зуб аб зуб, а розум аб розум», дык, здаецца, праўда ж яшчэ і другое: лірычны герой С. Грахоўскага набіраўся вопыту і мужнасці, досціпу і практыкі ў тых разумных і справядлівых, хто востра адчуваў сацыяльную праўду і хто за яе паміраў на франтах грамадзянскай вайны.

Герой «Паэмы дарог» — мастацкі партрэт нашага інтэлектуальнага сучасніка, таго дапытлівага і харошага чалавека, з якім хочацца парадніцца, назваць сваім і блізкім. І падкрэслім, што маляваць такія і падобныя характары — справа вельмі складаная, бо тут заўсёды падпільноўвае мастака небяспека некага паўтарыць, паслізнуцца і ступіць на тую сцяжынку, што вядзе да пасрэднасці і шаблонна-звыклых форм раскрыцця паэтычнага вобраза. Але да гонару аўтара «Паэмы дарог», ён змог «традыцыйным» стылем намаляваць і адкрыць індывідуальна непаўторны мастацкі характар.

Без перабольшання можна сказаць, што С. Грахоўскі валодае не проста аптычным зрокам, а тым шчаслівым мастацкім багаццем, якое спасцігае, эстэтычна і сацыяльна асэнсоўвае пэўную праяву жыцця, прычым асэнсоўвае так, што даўно вядомая з'ява паўстае свежай і абноўленай.

Асобныя прамашкі і недагляды, вядома, ёсць і ў зборніку «Паэма дарог». Але бясспрэчна, на наш погляд, адно: кніжка С. Грахоўскага заслугоўвае самай высокай ацэнкі.

**М. ГРЫНЧЫК,**
**М. ЯНКОЎСКІ.**

---

кус, у якім сканцэнтравана наша гераічнае сёння і аптымістычная будучыня. Гагарын у Бураўкіна — гэта калгаснік і рабочы, прафесійны воін і малады вучоны адначасова. І перш за ўсё — сціплы і родны чалавек нечуванай адвагі, які асмеліўся ступіць за парог нязведанага, адкрыўшы тым самым шлях для ўсяго чалавецтва. Трэба мець сапраўдную смеласць, каб абраць яго героем свайго твора. І Генадзь Бураўкін не пабаяўся творчай і грамадзянскай адказнасці, добра разумеючы, што

> **...будзе ён** (Гагарын—С. Г.), **пад**
> **рэнтгенам нібы,**
> **Пад чыстым паглядам нашых**
> **патомкаў—**
> **І лускою асыплюцца патухлыя**
> **німбы,**
> **І незаўважаныя зоры замігцяць**
> **папацёмку.**
> **І Рэвалюцыя ў ім будзе біцца,**
> **як сэрца.**
> **Будзем кропелькамі крыві ў ім**
> **пульсаваць мы самі.**
> **І навекі думка ленінская**
> **застанецца.**
> **І ўсмешка гагарынская—**
> **таксама.**

Збліжэнне глыбокае і заканамернае. Рэвалюцыя працягваецца.

Заўважым мімаходзь, што да гагарынскага вобраза будуць звяртацца не толькі нашы сучаснікі і суайчыннікі, — ён шматмерны і ўсясветны. Але найдаражэйшым ён застанецца для нас, амаль яго землякоў і амаль аднагодкаў. І натуральна, што паэт, як і ўсе мы, надзвычай балюча ўспрыняў трагічную смерць героя і гэты жалобны момант паклаў у аснову сваёй паэмы. Вобраз Гагарына перададзены яскрава ў сваіх вызначальных рысах:

> **І яму хацелася**
> **саскочыць з партрэтаў,**
> **Уцячы ад эскортаў—**
> **імчаць басаном па лугах.**

Лёгка заўважыць, што карціна развітання са слаўным сынам планеты многімі істотнымі штрыхамі нагадвае аналагічныя мясціны са славутай паэмы «Ул. І. Ленін» Маякоўскага, дзе перададзены апошнія праводзіны правадыра працоўных усяго свету. Неабдымнасць людскога гора родніць гэтыя абодва творы, хоць, зразумела, і не поўныя па значэнні.

Паэт любіць трыбуннасць. Боль і радасць, прыгажосць і пачварнасць выклікаюць у яго імгненную рэакцыю, і ён не можа супакоіцца, пакуль не выкажацца. І ў гэтым сэнсе для яго асабліва блізкія безаглядная панчанкаўская тэмпераментнасць і пысінская салдацкая разважлівасць:

> **Свае званы пагойдваюць азёры.**
> **Звініць гаёў кастрычніцкая**
> **медзь...**
> **Мы слухаем маўклівае міжзор'е,**
> **А блізкіх нам не можам**
> **зразумець.**

Пара яснай сталасці прыйшла да паэта.

**Сцяпан ГАЎРУСЕЎ.**

---

яго варты сур'ёзнага і больш уважлівага вывучэння ў курсе літаратуры 20-х гадоў.

Вельмі беражліва, з улікам часу і біяграфіі паэтаў разглядае Р. Бярозкін спадчыну Ул. Хадыкі, Ю. Таўбіна, А. Жаўрука, М. Сурначова. Уважліва і добразычліва разглядае сапраўды арыгінальную творчасць С. Дзяргая, падкрэслівае вялікае значэнне для ўсёй нашай паэзіі яго шматграннай работы над словам, каб «сцвярдзіць выражаныя ў слове непадманныя каштоўнасці духу, што склаліся не сёння і не ўчора, але знайшлі сваё рэальнае ўвасабленне, сваё апірышча ў вопыце нашага пераўладкаванага свету на новых грамадскіх асновах, нашай барацьбы за сацыяльную праўду і справядлівасць».

Бліскуча напісаны артыкулы пра А. Куляшова («Бесядзь імкне ў акіян») і А. Пысіна («Рух каранёў»). У творчасці гэтых паэтаў знойдзена і па-майстэрску паказана чытачам сапраўды таленавітае, наватарскае, непаўторнае.

Кніга Р. Бярозкіна «Постаці» высока ацэнена нашай крытыкай і грамадскасцю. Скажу ў заключэнне з усёй шчырасцю: не памыліцца і не пакрывіць душой той, хто будзе галасаваць за прысуджэнне яе аўтару Р. Бярозкіну Дзяржаўнай прэміі: ён яе заслужыў шматгадовай і сумленнай працай на карысць беларускай культуры.

**Марына БАРСТОК,**
**кандыдат філалагічных навук.**

---

# ЗБРОЯЙ КРЫТЫЧНАГА СЛОВА

## ПРА КНІГІ Д. БУГАЁВА «ШМАТГРАННАСЦЬ», «ЗБРОЯЙ САТЫРЫ, ЗБРОЯЙ ПРАЎДЫ»

ДЗВЕ КНІГІ Дзмітрыя Бугаёва — «Шматграннасць» і «Зброяй сатыры, зброяй праўды» — вылучаны сёлета на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР.

У кнізе «Шматграннасць» сабраны артыкулы аб найбольш значных творах беларускай літаратуры апошніх гадоў і вызначаны яе істотныя і важныя грані. Канкрэтным аналізам мастацкіх твораў В. Быкава, Я. Брыля, А. Адамовіча, М. Лобана, А. Чарнышэвіча, М. Стральцова і іншых пісьменнікаў крытык яшчэ раз сцвярджае правільнасць важнага палажэння нашай эстэтыкі пра неабмежаваныя магчымасці метаду сацыялістычнага рэалізму.

У кніжцы «Зброяй сатыры, зброяй праўды» Д. Бугаёў выступае пераважна як гісторык літаратуры, хаця і ў ёй добра адчуваецца рука вопытнага крытыка, калі ідзе гаворка аб канкрэтных творах самых розных жанраў выдатнага беларускага сатырыка К. Крапівы. Асвятленню праблемы спецыфікі і зместу яго таленту і прысвечана кніга.

Уважліва прасочваючы ідэйна-тэматычную, індывідуальна - творчую эвалюцыю К. Крапівы-сатырыка, Д. Бугаёў дэманструе высокае майстэрства вучонага-літаратуразнаўцы, будуе свае тэарэтычныя канцэпцыі перш за ўсё на цвёрдым грунце дакладных і бясспрэчных жыццёвых і літаратурных фактаў, якія ён уважліва супастаўляе, аналізуе, удакладняе, а потым ужо робіць тыя ці іншыя навуковыя вывады.

У якасці пажадання хацелася б: па-першае, бачыць у кнігах Д. Бугаёва больш важкіх тэарэтычных абагульненняў, калі ён гаворыць пра галоўныя напрамкі — тэндэнцыі сённяшняга літаратурнага працэсу.

Другое пажаданне: каб аналіз твораў беларускай літаратуры рабіўся на ўсесаюзным фоне — гэта значна павысіла б ідэйна-тэарэтычны ўзровень працы крытыка, зрабіла яе больш цікавай і змястоўнай.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ,**
**кандыдат філасофскіх навук.**

---

# БАГАЦЦЕ ЗМЕСТУ, НАПАЛ ПАЧУЦЦЯ

## НА ВЫСТАЎЦЫ А. КАШКУРЭВІЧА

УСЯГО АДЗІНАЦЦАЦЬ літаграфій і афортаў у экспазіцыі, разгорнутай у выставачнай зале Саюза мастакоў БССР. Гэта вядомыя ўжо работы Арлена Кашкурэвіча — графічныя лісты на тэмы твораў Янкі Купалы і серыя «Партызаны», вылучаныя на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР.

Пра іх нямала пісалі. Пра сур'ёзнае і глыбокае пранікненне мастака ў тэму, пра яго вострае і своеасаблівае светаадчуванне, пра дасканалае валоданне тэхнікай.

Мне хацелася б падкрэсліць, што лісты на купалаўскія тэмы далёка выходзяць за межы звыклага ілюстравання. Яны самастойныя, арыгінальныя творы, здольныя існаваць, калі хочаце, па-за паэтычным тэкстам. Вось, напрыклад, Гусляр з «Кургана»... Не, ён — не толькі персанаж купалаўскай паэмы. Тут — абагульнены вобраз народнага песняра. У нейкай ступені, можа быць гэта нават і сам Купала...

Дух Купалавай паэзіі як бы перакладаецца на мову штрыха... А штрых у Кашкурэвіча — то плаўны, чоткі, які ўзмацняе статычнасць кампазіцыі, то ўсхваляваны, перарывісты, неспакойна-надрыўны. Многія матывы песняра знаходзяць у гэтым штрыху адметны эквівалент. Гэта памагае гледачу пранікнуць у сэнс твораў мастацкага слова, паглыбіцца ў іх.

Бандароўна... яна ў роспачы, у адчаі... Уцякае ад панскіх служак... Драматызм, небяспека моманту і ў вострым супрацьстаўленні чорнага і белага, і ў эмацыянальным гучанні напружанага, чырвонага, удала ўведзенага ў ліст.

Мастак выяўленчымі сродкамі «чытае» ў творах Купалы тое, што застаецца па-за словам.

Серыю «Партызаны» звязвае ўнутраная эмацыянальная агульнасць лістоў, напал пачуцця, сама графічная «мова».

«Маці»... Мабыць гэта работа — найбольш моцная ў серыі. Як гэта няпроста ў жыцці! Мацярынскія рукі набіваюць смертаносным металам кулямётныя стужкі, дыскі... Так, рукі, што павінны песціць дзіця... Як жа сказаць пра цябе, вялікая мудрасць высакароднага мацярынскага гневу?!. І вось Кашкурэвіч сказаў...

«На шчасце, на гора...». Рукі маладых сціснуты за спіной, побач — похва пісталета. Моцна гучыць у гэтым творы пра партызанскае вяселле тэма неўміручасці жыцця, кахання.

Так, у гэтага майстра — свой почырк, свае прыёмы і спосабы асэнсавання матэрыялу. У яго — свой погляд на свет, на чалавека ў ім. Высокае грамадзянскае пачуццё, глыбокая паэзія. І не толькі ў гэтых работах мастака — эманацыянальна дзейсных, глыбока вобразных, запамінальных. Але ў гэтых — асабліва.

**А. ШАРАВА.**

# МАЙСТЭРСТВА І РАМЯСТВО

Ул. БОЙКА

НЯГЛЕДЗЯЧЫ на тое, што выстаўка «СССР — наша Радзіма», разгорнутая ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР, у цэлым успрымаецца менш значнай, чым паказаная ўвесну ў Маскве ў Манежы занальная выстаўка, усё ж новая экспазіцыя — таксама змястоўная. Яна дае ўяўленне пра тыя складаныя працэсы, што адбываюцца сёння ў выяўленчым мастацтве Савецкай Беларусі. Экспазіцыя апраўдвае сваю назву. Мы бачым шмат партрэтаў нашых сучаснікаў, пейзажы розных куткоў нашай шматнацыянальнай Радзімы. Бачым прамое або ўскоснае адлюстраванне асноўных этапаў развіцця Савецкай Беларусі ў братнім саюзе сацыялістычных рэспублік.

ТВОРЧЫХ УДАЧ на выстаўцы— нямала. Несумненны ўклад у беларускую Лeнініяну — хвалюючае палатно У. Стэльмашонка «А. Г. Чарвякоў у У. І. Леніна. Студзень 1923 года». Напружаны па колеры, музычны па пластыцы пейзаж В. Грамыкі «Над возерам». Нечакана новыя для жывапісу Г. Вашчанкі (пасля яго дыпціху «Цэмент» або паказанага ў Манежы палатна «Маё Палессе») гарманічныя, высакародна простыя мелодыі светлага жыцця нашай моладзі — «Раніца» і «Косцік». Нечаканая, здавалася б, для пошукаў мастака драматычнай, нават трагічнай, тэмы, святочна-мажорная «Будаўніца» Э. Куфко... Нарэшце, «Паўстань, пракляццем...» І. Ціханава і «Партрэт пісьменніка Р. Сабаленкі» А Шаўчэнкі, маленькія пейзажы Я. Красоўскага і «Герой Сацыялістычнай Працы І. Сакольчык» І. Стасевіча, «І. Ахрэмчык на Браслаўшчыне» А. Шыбнёва і «Бэз» І. Ахрэмчыка (твор экспануецца пасмяротна).

Радуе, што Л. Шчэмелеў, шэраг палоцен якога апошняга часу пераважна паўтараў раней ім знойдзенае, стварыў знешне стрыманае, але ўнутрана змястоўнае палатно аб моладзі —«Ля школы». Я. Ціхановіч, які доўга маўчаў, заявіў пра сябе змястоўным партрэтам Ул. Галубка. У. Гоманаў стварыў партрэты скульптара А. Дзям'янава і былога партызана Ф. Лабазава — абедзве работы сведчаць пра ўдумлівы падыход партрэтыста да натуры.

Глядач знойдзе гэтыя работы і многія іншыя цікавыя творы, якія тут не пералічваю, паколькі маю на мэце засяродзіць увагу на выдатках творчых пошукаў.

ПАРАЎНАЕМ, напрыклад, тры зусім розныя па тэме, па задуме, па ўзроўні майстэрства карціны.

Цікава задумана М. Клімавым кампазіцыя «Гаворыць Масква». Партызаны ў зямлянцы слухаюць па радыё навіны з Вялікай Зямлі. Зямлянка паказана авалам і як бы ў разрэзе. Тут шмат людзей. Яны застылі ў напружанні. Над авалам зямлянкі — лес. Атмасферу і трывогі, і адзінства змагароў, іх палкага жадання як найхутчэй пачуць навіны з франтоў мастак імкнецца перадаць рытмікай, пластыкай, танальным вырашэннем кампазіцыі, менш за ўсё паглыбляючыся ў псіхалагічныя нюансы на абліччах. Можа, і дастаткова было б абраных аўтарам кампазіцыі сродкаў, каб перадаць змястоўную **пластычную** ідэю і падпарадкваць яе максімальнаму выяўленню высакароднага сэнсу сапраўды мастакоўскага творчага імпульсу, які падказаў задуму, калі б... Тут — нястача прафесійнага ўмельства. Палатно нагадвае эскіз. І не столькі, можа, таму, што аблічча персанажаў абагульнены. Пластычная і колерная манатоннасць з'явілася хутчэй за ўсё ў выніку таго, што не знойдзены памер палатна: яно здробнена. Таму і не было як расставіць пэўныя істотныя пластычныя і жывапісныя акцэнты, што надалі б карціне «поўны голас».

«Выпрабавальнікі» К. Шастоўскага... Сумленна і старанна скапіраваныя людзі і трактары. Болей чым стрыманы жывапіс. Інертнасць тонаў і кампазіцыі. Прафесійнага ўмельства, мабыць, аўтару хапіла б, каб паставіў перад сабой больш акрэсленую задачу. Відаць, ён не задумваўся над тым, што хоча сказаць пра выпрабавальнікаў...

Як бачым, у першым выпадку няўдача — вынік занядбання або недастатковага валодання прафесійным умельствам, а ў другім — вынік адсутнасці акрэсленай задачы, абмежавання сябе «проста адлюстраваннем».

Безумоўна, і па кампазіцыйным, і па жывапісным умельстве на шмат галоў вышэй за прыгаданыя работы палатно П. Крахалёва «Да новага жыцця» — аб калектывізацыі на вёсцы. Адмыслова закампанаванае, прыгожа напісанае, багатае на выразныя дэталі, яно прадыктавана задумай перадаць радасць выбару правільнага шляху ў жыцці. Задума тым больш каштоўная, што большасць твораў аб калектывізацыі ў жывапісе і Беларусі, і братніх рэспублік вырашана ў драматычным ключы. Праўда, адценні драматызму і ў новай карціне П. Крахалёва не знятыя. Яны звязаны з канкрэтнымі персанажамі (напрыклад, серадняк на першым плане). Але пры ўсіх паасобных, можна сказаць — прыватнага характару, вартасцях свайго новага твора П. Крахалёву на гэты раз не ўдалося сказаць новага слова ў традыцыйнай для яго творчасці тэме. У ранейшых творах мастака — трыпціху аб калектывізацыі, дзе асабліва пранікнёна гучала палатно аб гібелі трактарыста, і карціне пра арганізацыю калгаса, якая стала ледзь не класічнай у новай гісторыі жывапісу рэспублікі, — сапраўднае майстэрства. Тут жа — перапевы (хай сабе і мілагучныя) знойдзенага раней.



Б. АРАКЧЭЕЎ. Кавалі.



Л. АСЯДОЎСКІ. Маякоўскі.

Ва ўсіх трох выпадках тэмы — значныя: Айчынная вайна, сённяшні рабочы клас, досвітак калгаснага ладу... Значыцца, мала абраць тэму— яе трэба вырашыць.

ВАРЫЯЦЫІ знойдзенага і выказанага мастаком раней... Такія з'явы назіраем у экспазіцыі досыць часта. Вось, напрыклад, карціна Л. Дударэнкі «Восень у вёсцы». Тут як бы касцянее «аднойчы» знойдзеная адмысловая «манера» жывапісу, што «накладваецца» Л. Дударэнкам ледзь не на любы сюжэт. Па гэтай «манеры» лёгка адрозніваем палотны гэтага мастака сярод іншых. Але ў той жа час з трывогай бачым, што запаволілася яго эвалюцыя — ці не прыкмета гэта пэўнай «самаздаволенасці» жывапісца, якога зробленае раней абавязвае не застываць на месцы. У нейкай меры сказанае датычыць і М. Залознага — мяняюцца сюжэты, нюансы эмацыянальнага свету палоцен — застаецца амаль нязменнай палітра і прыёмы яе скарыстання.

Ізноў жа, на некалькі парадкаў вышэй, чым у папярэдне названых жывапісцаў, творчыя пошукі В. Цвірко. Добра вядома, які разнастайны, вынаходлівы і які нястомны ён у сваёй рабоце. На кожным, бадай, вернісажы В. Цвірко паказвае некалькі прынцыпова па-рознаму напісаных твораў. Вось і на гэты раз майстар дэманструе віртуознае валоданне палітрай, бездакорнае веданне роднай прыроды, яе пяшчотнай паэтычнасці. І ўсё ж мы не аднойчы бачылі ўжо ў яго пейзажы, аналагічныя па настроі, па эмацыянальным напале паказаным цяпер. Выключэнне, бадай, складае карціна «Збажына сабрана».

Наўрад ці прыносяць новае ў творчасць іх аўтараў такія работы, як, напрыклад, «Вясна на Гомельшчыне» М. Казакевіча, «Беларуская мелодыя» П. Данеліі, «Даяркі» А. Гугеля, «Вясновы матыў» Д. Алейніка, «Поўдзень» Р. Кудрэвіч, «Плыты на Прыпяці» В. Кубарава, «Вячэрні Мінск» М. Беляніцкага, «Гродна» І. Пушкова, «Стадыён» Л. Лейтмана, «Нацюрморт з рыбамі» Г. Шутава, хаця кожная з іх — твор досыць высокага прафесійнага ўмельства. На жаль, гэтыя творы, па сутнасці, толькі замацоўваюць знойдзенае раней іх аўтарамі. І гэта датычыць у першую чаргу не столькі формы, колькі ступені глыбіні, змястоўнасці мастацкага мыслення.

УЛАСНА, гэта яшчэ паўбяды, калі мастак на пэўны час як бы застыў у межах адпрацаваных ужо ім тэм, прыёмаў іх увасаблення. Розныя бываюць на гэта прычыны. У тым ліку і як бы «замацаванне» знойдзенага раней перад спробаю зрабіць новы рывок наперад.

Куды горш, калі мастак перапявае не самога сябе, а некага іншага. Без асаблівай цяжкасці можа ўбачыць дасведчаны глядач у некаторых творах на гэтай выстаўцы, напрыклад, не столькі вучобу, колькі механічнае перайманне паасобных прыёмаў В. Цвірко.

Большай самастойнасці, сапраўднага пошуку сваёй «мовы» можна пажадаць У. Напрэенку, які паказаў унутрана дынамічную акварэльную кампазіцыю «Віцебск будуецца». Шкада толькі, што прыёмы, якія ён ужывае, даўно ўжо «адпрацаваны» іншымі яго калегамі, з-пад уплыву якіх У. Напрэенку варта больш рашуча выходзіць на самастойны шлях.

Наўрад ці мэтазгодна так ушчыльную набліжацца Л. Асядоўскаму да тых спосабаў «гаворкі», якія выпрацаваў М. Данцыг. Міжволі ловіш сябе менавіта на гэтай думцы перад карцінай Л. Асядоўскага «Ул. Ул. Маякоўскі»... Тут жа адразу адзначым, што Л. Асядоўскі зрабіў значны крок наперад — і гэта асабліва адчувальна ў яго карціне «Нафта беларуская ёсць!..» Калі ў ранейшых творах Л. Асядоўскага людзі як бы раствараліся ў руху, дык цяпер (асабліва пасля трыпціху мастака, прысвечанага героям Кастрычніка, які мы пабачылі на адной з нядаўніх рэспубліканскіх выставак) ён быццам наблізіўся да сваіх персанажаў і, не здавальняючыся перадачаю чыста знешніх уражанняў ад людзей, падзей і сітуацый, больш паглыбляецца ў іх унутраны свет.

ВАРТА асобна спыніцца на работах, аўтары якіх працуюць як бы рыўкамі, што відаць нават пры параўнанні іх твораў, адначасова паказаных на выстаўцы.

Так, быццам зусім рознымі людзьмі напісаны павярхоўны па настроі, разбелены пейзаж «У даліне Алтая» і напружаны, цэльны, высакародна-раздумлівы—«Цялецкае возера». Нават не верыцца, што абодва належаць аднаму пэндзлю — П. Масленікава.

В. Сахненка, які паказаў, бадай, самы лепшы на выстаўцы, глыбокі, сапраўды філасофска насычаны партрэт мастака М. Савіцкага, яўна пайшоў шляхам знешняй эфектнасці ў партрэце Героя Сацыялістычнай Працы А. Кананoвіч.

Я. Зайцаву належаць на выстаўцы два партрэты — ткачыхі Віцебскага дывановага камбіната Р. Херувімавай і К. Крапівы. Першы з іх — з настроем, з выяўленымі адносінамі да персанажа — напісаны энергічна-маляўніча. Другі — на ўзроўні рабочага эцюда. Напісаны вяла. Далей перадачы знешняга падабенства мастак не пайшоў. Відавочныя і паасобныя [illegible]часці ў малюнку.

ЯШЧЭ трэба сказаць пра некаторыя цікава задуманыя і цікава здзейсненыя творы, якія таксама, як і «паўтарэнне пройдзенага» ў іншых мастакоў, выклікаюць шкадаванне з прычыны іх «недацягнутасці». Да ліку такіх твораў належыць, напрыклад, вялікае палатно А. Кішчанкі «Памяці подзвігу».

...Трое юнакоў — бы на дыване-самалёце, востры кут якога імкне да зямлі... А на зямлі — тры каляскі з немаўляткамі і пяцёра жанчын, ды вастрыё дарогі імкне ўдалячынь... Палаюць золатам адкрытыя целы юнакоў. Хлопцы — прыгожыя, разумныя, мужныя... Імкне да зямлі з чорнага прадоння космасу вастрыё дывана-самалёта...

Складаная, трагічная тэма вырашаецца ў плане рэалістычнай сімволікі. Што ж, можа быць такое рашэнне. Толькі ці не перанасычана палатно сімваламі? Ці не занадта разумовая сувязь паміж верхняй і ніжняй часткамі палатна? Ці патрэбна ніжняя частка? І ці абавязкова менавіта такая, ад якой аддае «літаратуршчынай навыварат»? Безумоўна, мастак пакуль што не дамогся «адзіна магчымага» рашэння, ад якога змястоўны твор толькі выйграў бы.

Калі пакінуць па-за ўвагаю некаторую «рознастылёвасць» жывапісу ў палатне В. Жолтак «Вясна. 30-я гады», прысвечаным маладой калгаснай вёсцы, твор гэты вабіць распрацоўкаю характараў, тыпажоў. Шкада толькі, што не зусім дастаткова акцэнтавана, якая менавіта падзея сабрала ўсіх гэтых людзей разам у прыгожы зімовы дзень.

Нельга змоўчаць і пра цікава задуманае і здзейсненае палатно З. Літвінавай «Мая Беларусь» — магутнае дрэва, пад якім — чырвоныя коні. Усё ў палатне гарманічнае — колеры, аб'ёмы. Толькі, бадай, больш пасавала б тут інакшая назва: усё ж тут неба, коні, дрэва, пакуль не прачытаеш этыкетку, яўна недастакова даюць падстаў для асацыяцый, заяўленых ва ўрачыстай назве.

НА ГЭТАЙ выстаўцы яшчэ раз пераконваемся: калі майстар перастае ўзбагачацца інтэлектуальна і эмацыянальна, ён рана ці позна трапляе ў палон рамяства, хай сабе і адмысловага. Інакш кажучы: рамяство—у падмурку майстэрства, але, вядома, будынак складаецца не з аднаго падмурка.

# Міхасю МАШАРУ—70



*Старэйшаму беларускаму пісьменніку Міхасю Машару 18 лістапада споўнілася 70 гадоў. У прывітанні Саюза пісьменнікаў БССР юбіляру гаворыцца:*

**«Дарагі Міхась Антонавіч!**

**Сардэчна віншуем Вас, аднаго са старэйшых нашых пісьменнікаў, з сямідзесяцігоддзем з дня нараджэння і саракапяцігоддзем літаратурнай дзейнасці.**

**За Вашымі плячыма — нялёгкі жыццёвы шлях, багаты творчы вопыт. Васемнаццацігадовым юнаком Вы пайшлі добраахвотна ў Чырвоную Армію. Пазней прымалі ўдзел у заходнебеларускім рэвалюцыйным руху, за што былі рэпрэсіраваны санацыйным рэжымам і зведалі краты Лукішак. Сімвалічны той факт, што Ваш першы паэтычны зборнік «Малюнкі» выйшаў з друку ў тым жа 1927 годзе, калі Вы былі пасаджаны ў турму. Ваша творчасць непарыўна звязана з Вашай біяграфіяй, з жыццём народа. У Вашых кнігах — зборніках вершаў, паэмах, драматычных творах, раманах — знайшлі адлюстраванне рэвалюцыйнае змаганне народа, у прыватнасці, заходнебеларускага сялянства, яго барацьба за пабудову новага, сацыялістычнага грамадства, яго жыццё, яго думкі, пачуцці і ідэалы. Шырокія сацыяльныя палотны пададзены Вамі ў раманах «Крэсы змагаюцца» і «Сонца за кратамі», над якімі Вы працавалі ў апошнія гады.**

**Жадаем Вам моцнага здароўя, доўгіх год жыцця і новых творчых здзяйсненняў».**

*Далучаемся да гэтага віншавання і жадаем юбіляру новых творчых поспехаў.*

**І**ШОЎ 1928 год. Гэта быў бурны ў Заходняй Беларусі год. Прыгадваюцца: славуты судовы працэс «Грамады»... Масавыя рэвалюцыйныя выступленні рабочых і сялян у абарону сваіх правоў... Выдатная перамога на выбарах у польскі сейм кандыдатаў клуба «Змаганне»... Забастоўка вучняў віленскай беларускай гімназіі... Нягледзячы на жорсткі тэрор пілсудчыкаў, шырыўся, мацнеў нацыянальна-вызваленчы рух!

І тады мы ўпершыню пачулі паэтычнае слова Міхася Машары. З-за турэмных лукішскіх крат, быццам пароль, прагучалі яго мужныя словы:

Цярпенне прэч! Не час на стогны,
На енкі, слёзы і праклёны.
Здабыць хачу жыцця правы
Я—сын галоты і цямры.

Гэтыя радкі з першага невялічкага зборніка «Малюнкі», які выйшаў у Вільнюсе, з'явіліся своеасаблівым крэда пісьменніка. Яны трапна адлюстроўвалі настрой працоўных мас, што не хацелі жыць па-старому і ўздымаліся на барацьбу, каб здабыць «жыцця правы». Мы, вучні беларускай гімназіі, захапляліся гэтым зборнікам. А калі ўведалі, што аўтар яго сядзіць на «Лукішках» за тое, што быў рэдактарам газеты «Наша воля»,—павага і сімпатыі да яго ўзраслі яшчэ больш. «Наш паэт», «Наш Машара»—так называлі яго вучні. Ды ці толькі вучні!

І ён сапраўды быў наш, знаходзіўся ў нашых рэвалюцыйных радах. Пачынаючы свой літаратурны шлях, паэт імкнуўся перш за ўсё, каб яго творы служылі вызваленчай справе. У вершах ён расказваў аб сваім жыцці, аб тым, што бачыў, што перажыў. А перажыў паэт нямала. Васемнаццацігадовым юнаком ён разам са сваімі аднавяскоўцамі бярэцца за зброю і ў 1920 годзе ўступае ў рады Чырвонай Арміі, каб змагацца за свабоду роднай зямлі. Трапляе ў нямецкі лагер для палонных. Вярнуўшыся праз год у сваю вёску Таболы, што каля Шаркаўшчыны, Міхась Машара застае там старыя панскія парадкі. Працуе лесарубам і плытагонам, трэпле лён купцам і махае касой на панскім полі, пільнуе чужыя сады і рамантуе дарогі. Усё робіць, абы толькі агараць які кавалак чорнага хлеба.

Не толькі яму і яго сям'і жылося цяжка. Ён глядзеў навокал і бачыў гаротную долю ўсёй сялянскай беднаты. І нараджаліся сумныя паэтычныя радкі аб тым, што «чакаюць, чакаюць сяляне,—у думках трывожны прыліў. Туга і туга, дзе ні глянеш,—між вёсак жабрацкіх і ніў».

Але ўжо ў першых сваіх вершах Міхась Машара, як і яго паэтычныя паплечнікі—Максім Танк, Піліп Пестрак, Валянцін Таўлай, Міхась Васілёк,—моцна верыць у тое, што недалёка дзень, калі і на нашай вуліцы будзе свята, і што да гэтага свята «барацьбой працярэбім мы шлях». У адным з вершаў ён гаварыў:

Мы—песняры працоўнай эры,
І сцяг наш зоры ткуць.
Ідзём у свет і новай верай,
Як сонцам, чысцім пуць.

«Новая вера»—гэта вера ў рэвалюцыю. Уся давераснёўская творчасць паэта прасякнута гэтай верай. Паспяхова пераадольваючы некаторыя хістанні і ідэйныя хібы, ён увесь свой талент аддаваў вызваленчай барацьбе. І калі паасобныя вершы здаюцца сённяшняму чытачу крыху рытарычнымі і залішне абстрактнымі, дык нельга забываць, што пісаліся яны ва ўмовах, калі за радок можна было атрымаць турмы гадок, і паэту, каб не прычапіўся які-небудзь пракурор, прыходзілася гаварыць алегорыямі, сімваламі. Аднак гэта нікольki не змяншала выбуховай сілы паэтычнага слова.

Мы ў Заходняй Беларусі ведалі і любілі творчасць Міхася Машары. Любілі за тое, што яна была надзейным саюзнікам працоўнага люду ў яго барацьбе супраць панскага прыгнёту і эксплуатацыі. Любілі яго вершы, любілі і паэмы, у якіх аўтар звяртаўся да гераічнага мінулага свайго народа, шукаў прыклады самаахвярнай барацьбы за народнае шчасце. Паэмы «Смерць Кастуся Каліноўскага», «Мамчына горка», «Русалкі» і сёння чытаюцца з вялікай цікавасцю.

Калі ў верасні 1939 года над Заходняй Беларуссю занялася зара свабоды, Міхась Машара прывітаў яе ўсёй сілай свайго таленту. Ён быў удзельнікам Народнага сходу ў Беластоку. Там прачытаў свае першыя вершы, у якіх славіў новае жыццё. Яно падказвае паэту новыя тэмы і вобразы.

У гады Вялікай Айчыннай вайны паэт адточвае майстэрства і ўсю сваю звонкую ліру, увесь творчы пафас аддае святой справе вызвалення Радзімы ад нямецка-фашысцкай навалачы. Ён піша вершы, артыкулы, фельетоны, у якіх выкрывае звярыную сутнасць гітлерызму, заклікае не шкадаваць жыцця ў імя свабоды. Звяртаючыся да заняволенай Беларусі, паэт выказвае ўпэўненасць, што «мы прынясём і гнеў, і перамогу, і помсту ворагу за боль твой, мукі, кроў». У гады вайны яшчэ больш пасталеў і ўзмужнеў яго талент, больш змястоўнымі і лірычнымі сталі радкі вершаў.

У пасляваеннай паэзіі Міхася Машары вядучымі сталі матывы мірнай стваральнай працы, савецкага патрыятызму, барацьбы за мір. У сваіх песнях ён, як сапраўдны патрыёт, славіць «вялікія справы: сучаснасці нашай шчаслівыя дні».

У апошнія гады пісьменнік шмат і плённа працуе над раманам-хронікай з жыцця Заходняй Беларусі. Ужо выйшлі ў свет тры першыя кнігі. Гэты твор аўтабіяграфічны. У ім аўтар паказвае, як на заняволеных панамі землях, дзе на варце ладу несправядлівасці і прыгнёту стаялі «і крыжы, і астрог, і бізун», мацнеў і развіваўся нацыянальна-вызваленчы рух у дваццатыя гады, як рабочыя і сяляне змагаліся за ўз'яднанне з Савецкай Беларуссю. Можна па-рознаму ацэньваць мастацкія вартасці рамана-хронікі, аднак сёння ўжо нельга не прызнаць, што гэты твор—унікальны па багацці цікавага фактычнага матэрыялу—з'явіцца важным укладам у літаратуру пра жыццё і рэвалюцыйную барацьбу працоўных Заходняй Беларусі.

Міхасю Антонавічу Машару—70 гадоў. Хочацца пажадаць яму добрага здароўя, хочацца, каб з-пад яго пяра выйшла яшчэ нямала таленавітых радкоў.

**Якуб МІСКО.**

# Паўлу КАВАЛЁВУ—60



*18 лістапада споўнілася 60 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага празаіка Паўла Кавалёва. З гэтага выпадку праўленне Саюза пісьменнікаў БССР звярнулася да юбіляра з прывітаннем, у якім гаворыцца:*

**«Дарагі Павел Нічыпаравіч!**

**З выпадку Вашага шасцідзесяцігоддзя шлём Вам, вядомаму празаіку, свае шчырыя віншаванні.**

**Літаратурную дзейнасць Вы пачалі з нарысаў аб выдатных людзях рэспублікі, аб іх ратных подзвігах і натхнёнай працы.**

**Кніга «Прага бою», якая выйшла адразу пасля вайны, вызначыла Вас як празаіка. З таго часу Вы напісалі нямала твораў, якія былі прыхільна сустрэты чытачамі. Гэта — «Аповесць пра добрае сэрца», зборнікі апавяданняў «У новы дзень», «Апавяданні», кнігі апавяданняў і аповесцей «Каб шчасліва жыць», «Пісьмо ў два адрасы», «Сонца ў вокны», аповесць «Падзенне Хвядоса Струка».**

**Прыемна адзначыць, што Вы ў сваіх творах намалявалі цікавыя вобразы савецкіх людзей, нашых сучаснікаў, моцна ўлюбёных ў жыццё, адданых партыі, Радзіме.**

**Добра папрацавалі Вы і для нашай дзетвары. Вашы аповесці «Андрэйка», «Лёнька Гром» і зборнікі апавяданняў карыстаюцца папулярнасцю сярод піянераў і школьнікаў.**

**Нельга не адзначыць Вашу работу ў рэдакцыях часопісаў «Вожык» і «Полымя», у якіх Вы ў розныя гады займалі пасады галоўнага рэдактара.**

**Свой юбілей Вы сустракаеце ў росквіце творчых сіл. Жадаем Вам, дарагі сябра, поспехаў у працы, добрага здароўя, шчасця».**

*Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» далучаецца да гэтага віншавання і жадае юбіляру поспехаў.*

**П**АЎЛА КАВАЛЁВА я ведаю ўжо гадоў сорак. Пазнаёміўся спачатку як з земляком, калі той працаваў у Клімавіцкай раённай газеце «Камуна», а я туды дасылаў свае допісы і вершы. Дзіцячыя ўражанні самыя моцныя. І цяпер помняцца вершы, якія П. Кавалёў чытаў аднойчы на літаратурным вечары. Было тады маладому паэту крыху больш дваццаці.

І вось яму шэсцьдзесят. А нам, юным дзяткорам, якім Павел Кавалёў даваў кансультацыі, самім ужо па паўсотні.

У гэтым юбілейным для пісьменніка годзе выйшлі два тамы яго выбраных твораў. Мне, як выдавецкаму работніку, давялося прымаць удзел у рэдагаванні іх. Выбранае—вынік шматгадовай творчай працы пісьменніка. Трымаеш у руках дзве аб'ёмныя кніжкі і думаеш: колькі ж умясцілі яны ў сябе бяссонных начэй, неспакойнага роздуму, цяжкіх гадзін пісьменніцкай працы за рабочым сталом. І трэба сказаць, што П. Кавалёў за сваё пісьменніцкае жыццё зрабіў у літаратуры нямала.

Пачаўшы, як кожны пісьменнік з вершаў, ён пасля перайшоў на прозу. Ім напісаны аповесці, шмат апавяданняў. Нярэдка аўтар выступае ў друку з публіцыстычнымі артыкуламі, нарысамі, дарожнымі нататкамі. А за сваё жыццё ён багата наездзіў і шмат дзе пабываў. Акрамя непасрэднай сваёй літаратурнай працы, Кавалёў актыўна ўдзельнічае і ў грамадскім жыцці рэспублікі. З'яўляўся членам розных дэлегацый, быў адным з прадстаўнікоў беларускай дэлегацыі на Генеральнай Асамблеі ААН. І заўсёды, дзе б яму ні давялося быць за мяжой, ён прынцыпова адстойваў нашы пазіцыі.

На працягу доўгага часу П. Кавалёў займаў адказныя пасады: працаваў у апараце Саюза пісьменнікаў, рэдагаваў часопісы «Вожык», «Полымя». Бясспрэчна, што службовая і грамадская праца мала пакідала часу для літаратуры. І ўсё ж пісьменнік неяк знаходзіў гэты час і напісаў нямала.

Жанравы дыяпазон Паўла Кавалёва шырокі: апавяданні і буйныя творы, гумарэскі і драматургічныя сцэнкі. Піша ён для дарослых і для дзяцей. Шчыра кажучы, прачытаўшы яго два тамы выбраных, знаходзішся ў няпэўнасці: хто ён, дзіцячы пісьменнік, ці «дарослы»? Я лічу П. Кавалёва больш дзіцячым пісьменнікам. Для дзяцей ім напісана даволі вядомыя аповесці «Андрэйка», «Лёнька Гром», «Чырвоны лядок», шэраг апавяданняў. Гэтыя творы сведчаць пра тое, што аўтар нядрэнна ведае дзіцячую псіхалогію. Адна з першых у беларускай літаратуры партызанскіх аповесцей «Андрэйка» заслужана карыстаецца поспехам у малых чытачоў. Нядаўна аўтар значна яе перапрацаваў, дапоўніў. «Андрэйка» перакладзены на шмат якія мовы народаў нашай краіны і замежныя мовы.

У аповесці «Лёнька Гром» Кавалёў зноў жа першы ў нас узяўся за вельмі важную тэму — перавыхаванне падлеткаў-злачынцаў, папярэджанне правапарушэнняў сярод непаўналетніх.

Усе яго аповесці для дзяцей маюць напружаны, займальны сюжэт, пераканальна матываваныя ўчынкі герояў, і як сведчыць бібліятэчная статыстыка, яны не стаяць на паліцах, іх чытаюць.

Нельга абмінуць і здабыткі Кавалёва ў такім жанры, як гумар. Кавалёў выдаў у свой час некалькі зборнікаў гумарэсак. Лепшыя з іх уключаны ў выбранае аўтара... Дасціпнасць, трапнасць сатырычных характарыстак, уменне праз асобныя факты закрануць важныя праблемы—вось што знойдзе чытач у яго лепшых гумарыстычных апавяданнях.

Як і кожны пісьменнік П. Кавалёў лічыць, што ён яшчэ не напісаў сваёй лепшай кнігі, што яе ён носіць у сваім сэрцы. І я шчыра жадаю свайму земляку не старэць, знайсці сілы і натхненне на новыя творы, на тую самую лепшую кнігу, аб якой мы ўсе марым.

Шчасця, здароўя і пленнай творчай працы табе, зямляча!

**Васіль ХОМЧАНКА.**

**С**ЯРОД самых вядомых імён украінскай савецкай літаратуры імя Андрэя Малышкі займае адно з найзначнейшых месц. Прыйшоўшы ў літаратуру яшчэ ў пачатку 30-х гадоў, ён адразу заявіў пра сябе як пясняр новай сацыялістычнай эпохі, дружбы і братэрства савецкіх народаў. Яго першыя кнігі «Бацькаўшчына», «З кнігі жыцця», «Лірыка», «Сакавік» і іншыя адразу паставілі імя паэта поруч з такімі волатамі, як Максім Рыльскі, Паўло Тычына і Уладзімір Сасюра.

Любоў да народа, да роднай зямлі, пачуццё нязломнай сілы братэрства прайшло праз усю творчасць Андрэя Малышкі. Гэтымі матывамі былі прасякнуты яго лірычныя творы.

У гады Айчыннай вайны — паэт на фронце. Яго палымяныя радкі заклікаюць да самаадданай барацьбы супраць фашысцкай навалы. Яго вершы можна было чуць у акопах і пад Сталінградам, і на Курскай дузе, і за Віслаю і Одэрам. Паэт з гонарам заяўляў:

Салдаты ідуць палкамі,
І я сярод іх — сурмач.

# ПЯСНЯР БРАТЭРСТВА

*Да шасцідзесяцігоддзя з дня нараджэння Андрэя МАЛЫШКІ*



А вярнуўшыся да мірнай працы, Андрэй Малышка сваімі вершамі дапамагае аднавіць зруйнаванае фашысцкімі ордамі... Яго паэзія натхняе народ на працоўныя подзвігі.

Багатая і разнастайная літаратурная спадчына Андрэя Малышкі. Цяпер рыхтуецца да выдання дзесяцітомнік яго твораў, куды ўвойдзе ўсё лепшае з творчасці паэта.

Вялікая дружба і любоў да братніх літаратур нашага Саюза натхнялі паэта на плённую перакладчыцкую працу. Ён даў украінскаму чытачу на яго мове шматлікія творы Пушкіна і Лермантава, Маякоўскагаа і Ісакоўскага, Твардоўскага і Пракоф'ева, Вургуна і Леанідзе, Межэлайціса, Гамзатава і многіх іншых. Адной з цудоўных старонак перакладчыцкай дзейнасці Андрэя Малышкі з'яўляецца яго праца над творамі беларускіх пісьменнікаў. Дзякуючы яго старанням да ўкраінскага чытача дайшлі лепшыя творы Петруся Броўкі, Пятра Глебкі, Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі, Максіма Танка і многіх іншых майстроў паэтычнага слова Савецкай Беларусі.

...Яшчэ, здаецца, зусім нядаўна мне давялося сядзець разам з паэтам у яго рабочым кабінеце. Ён працаваў над перакладам аднатомніка выбранай лірыкі Янкі Купалы. Наша размова была шчырай, задушэўнай гутаркай пра беларускую літаратуру, якую так любіў і паважаў Андрэй Малышка.

Калі неўзабаве выйшла цудоўна выданая «Лірыка» Янкі Купалы, я паказаў сігнальны экземпляр Аляксандру Карнейчуку. Ён патрымаў кнігу ў руках, прачытаў верш «А хто там ідзе» і сказаў: — Як добра, што Беларусь мае такога паэта, а мы — такога цудоўнага перакладчыка.

Андрэю Малышку споўнілася б 60 гадоў. Няўмольная смерць вырвала яго з нашых шэрагаў. Але жыве яго палымяная паэзія. Сёння яна горда гучыць на ўсіх мовах нашай шматнацыянальнай савецкай сям'і.

**Пятро ГАРЭЦКІ.**

**Міністэрства культуры БССР выказвае глыбокае спачуванне рэдактару Упраўлення па справах мастацтваў Герштэйн Анне Рыгораўне з выпадку напаткаўшага яе гора—смерці МАЦІ.**

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**

Гаджыага **ДЖУМШУДАЎ.**
Азербайджан

## ЯГО ІДЭЯ

У НАШЫМ ГОРАДЗЕ жыве адзін крытык, якому вельмі не шанцуе ў творчых адносінах. Варта толькі з'явіцца яго артыкулу, як тут жа газеты і часопісы накідваюцца з крытыкай на яго самога.

— За што ж яго крытыкуюць? —спытаеце вы.

Адказваем: за безыдэйнасць. Яго папракаюць у тым, што ён ацэньвае творы сваіх братоў па пяру не паводле іх літаратурных вартасцей, а ў залежнасці ад сваіх асабістых адносін з тым ці іншым аўтарам.

— Дзе ж ваша ідэя? — ставяць перад ім пытанне рубам. І тут жа адказваюць: — Няма ў вас ніякай ідэі, дарагі таварыш! Вы проста зводзіце рахункі!

Аднойчы ці то на нарадзе, ці то на пленуме яго так расчыхвосцілі, што ён, зусім збянтэжаны, пакінуў залу.

Яму там цвёрда заявілі:

— Трэба перастройвацца!

І ён улічыў. Проста з нарады (ці з пленума) ён накіраваўся ў бліжэйшы рэстаран, дзе і напіўся, што называецца, у сцельку.

Стукаючы кулаком па рэстаранным століку, ён бязладна крычаў, звяртаючыся да свайго афіцыянта:

— Я — безыдэйны! Разумееш? Я ім пакажу... Яны ўбачаць яшчэ, хто безыдэйны — я ці яны! Трэба разумець, што я крытык, а крытыка, ведаеш, не можа быць салодкай. Крытыка — не мёд! Гэта што вам — не ідэя?

Афіцыянт, відаць, даўно звыклы да рознага роду п'яных «ідэй», не пярэчыў і толькі спрабаваў як мага хутчэй атрымаць з крыклівага кліента па рахунку.

Вярнуўшыся дадому позна ноччу, крытык пабудзіў усіх суседзяў, бо спадзяваўся не на званок, а на свае ногі, пад ударамі якіх трэсліся і дзверы, і нават сцены. Упусціла яго маці. Яна добра ведала сынаў нораў. Таму, колькі ён не крычаў і не скандаліў, яна толькі маўчала, тужліва сцяўшы вусны.

Заўважыўшы, што жонкі няма дома, крытык дзіка заляманатаваў:

— Дзе Сона, каб яе чорт узяў?! Куды яе ноччу панесла?

— Утаймуйся! — угаворвала яго маці. — Ты ж ведаеш, што Сона з раніцы ў радзільным доме.

— Ах, так! — ляпнуў сябе па ілбе крытык. — Ну, як? Яшчэ нічога няма?

— Як няма? Слава алаху. Сона шчасліва нарадзіла. Дачку. Цудоўная дзяўчынка. Тры кіло важыць.

— Дачку! Здорава! — ухмыльнуўся крытык. — Назавём яе Ідэя і — кропка! Ідэя ў тры кіло вагой!

— Ну, вось яшчэ! — забурчала маці. — Якое нязвыклае імя прыдумаў! Мы з Сонай хацелі назваць дзяўчынку Наргіз. Гэта ж імя тваёй бабулі. Памятаеш, яна завяшчала...

— Да д'ябла бабулек! Да д'ябла завяшчанне! — зароў крытык. —Як я хачу, так і будзе! Тут вам не Саюз пісьменнікаў, каб са мной не лічыцца! Я патрабую, каб маю дачку назвалі Ідэяй.

Не распранаючыся, ён бухнуўся ў ложак і, засынаючы, яшчэ мармытаў:

— Я ім пакажу, які я безыдэйны! Мяне голымі рукамі не возьмеш! Ёсць у мяне цяпер Ідэя! Ёсць! Ёсць!

*Надар Думбадзе*
ГРУЗІЯ




ГІСТОРЫЯ паходжання гасцініцы прыкладна такая: калі ўсявышні выгнаў Адама і Еву з раю з-за яблыка і даручыў ім пладзіцца і размнажацца, яны с перапалоху кінуліся выконваць божы наказ з такім запалам, што пачалося стоўпатварэнне, у якім нават сабака не змог бы пазнаць гаспадара. І назвалася ўсё гэта чалавецтвам. Потым чалавецтва пачало перамяшчацца з аднаго пункта ў другі, іншымі словамі, хадзіць і ездзіць у адведзіны.

Упершыню гэта здарылася, відаць, так:

— Гаспадар! — гукнуў нехта каля варот.

— Хто там? — адгукнуўся з-за варот чалавек.

— Ной я, Ной!

— Які?

— Вынаходца Ноева каўчэга...

— Ну, заходзь, — запрасіў чалавек чалавека. Потым прынёс хлеба, наліў віна, паслаў мядзведжую шкуру, збудаваў з камення ўзгалоўе і прапанаваў: адпачні, маўляў. Прачнуўся ранічкай госць — ні грошай плаціць, ні анкет запаўняць, — сабраў свае бэбахі, сказаў гаспадару дзякуй і пайшоў сваёй дарогай. А калі зачасцілі госці і ўжо не змяшчаліся ў доме, чалавек пабудаваў побач другі дом і назваў яго гасцініцай. Жыццё ішло сваім парадкам і дайшло да таго, што па дарозе ў горад па правую руку (а калі ехаць з горада, то па левую) пабудавалі вялікі дом для гасцей. І вось праз многа тысяч год з дня заснавання першай гасцініцы я наведаў новы атэль.

— Гаспадар! — гукнуў я каля акенца, за якім, выцягнуўшыся на двух крэслах накшталт бервяна, падрыхтаванага для распілоўкі, спаў чуйным сном адміністратара мажны мужчына.

На мой вокліч адміністратар крыху расплюшчыў адно вока.

— Нумар ёсць? — спытаў я шэптам.

— Ёсць, — гучна адказаў адміністратар і запатрабаваў пашпарт.

— Пашпарта няма, — разгубіўся я.

— Сьто ты гаволісь,— чамусьці засюсюкаў ён, — можа, ты няпоўналетні?

— Ёсць пасведчанне асобы, — сказаў я басам.

— Не выйдзе, — адрэзаў ён.

— Чаму?

— Адкуль мне ведаць, можа, ў цябе чужое пасведчанне, можа, ты ўвогуле чалавека забіў і хаваешся пад чужым імем, ці ўзламаў банк, ці жанчыну згвалціў, а?.. І што я адкажу раніцай, калі мяне спытаюць: як гэта атрымалася, таварыш Ванечка, што ў вас начаваў забойца, узломшчык сейфаў, зневажальнік жанчын? Як прозвішча? — спытаў ён раптам.

— Думбава.

— Бог на помач, бандыт Думбава. Ну, што загадаеш рабіць?

— Кінь жарты. Ні пра што цябе не спытаюць...

— Ты думаеш?.. Не, без пашпарта не прыму!

— Ды што ты, сапраўды, прычапіўся да гэтага пашпарта! Урэшце, у бандыта і пашпарт можа быць падроблены.

— Ну, ведаеш, калі ў цябе і пашпарт фальшывы, і пасведчанне чужое, і фатаграфія не твая, і пячатка падробленая, і ўвогуле ты шпіён, тады здавайся, адвяду ў міліцыю, там і пераспіш.

— Ванечка, дарагі,—не вытрымаўшы, узмаліўся я, — ты толькі не гані мяне зараз на вуліцу, а там рабі, як хочаш? Хочаш, прывяжы ланцугом да ложка. Клянуся дзецьмі, нікуды не збягу.

Адміністратар доўга чухаў патыліцу, і, прабурчаўшы нешта наконт свайго добрага сэрца, працягнуў мне анкету.

— Запоўні, ды так, каб кожная коска была на месцы. З анкетай жартаваць нельга. Апрача мяне, увесь свет правярае!

— Анёл ты, а не чалавек! Ты сама матка боская! — палесціў я яго, як мог, і стаў запаўняць анкету.

1. Прозвішча, імя, імя па бацьку — Думбава Джвебе Уладзіміравіч.
2. Пол — самец.
3. Нацыянальнасць — гурыец.
4. Узрост — квітнеючы.
5. Прафесія — бандыт, узломшчык сейфаў.
6. Мэта прыезду — перарэзаць глотку адміністратару гасцініцы, а потым узарваць райасвод.
7. Адкуль прыехаў — не ваша справа.
8. Куды выбывае — к чорту ў зубы.
9. Тэрмін пражывання — ад 15 сутак да 5 год.
10. Сямейнае становішча — жанаты ў чацвёрты раз. Першых трох жонак атруціў. Цяпер тручу чацвёртую.
11. Пастаяннае месца жыхарства і адрас — бадзяга я.
12. Асабісты подпіс — Макнамара.

Ванечка ўклаў анкету ў пасведчанне, замкнуў у шуфлядку, сказаў мне дабранач і зноў расцягнуўся на двух крэслах.

Раніцай мы з Ванечкам расставаліся, як старыя сябры: — Шчыра дзякую, Ванечка, дарагі! Будзеш у Тбілісі, заходзь. У анкеце ўсё ўказана. .

— Абавязкова, шаноўны! Прабач, што патурбаваў з гэтай анкетай... Ты ж ведаеш, праца парадак любіць, — адказаў збянтэжаны Ванечка і моцна пацiснуў мне руку.

— Думаю, яшчэ давядзецца пабыць у вас...

— Калі ласка, дарагі! Лепшага госця не пажадаеш, — ляпаў мяне па спіне Ванечка, апускаючы правай рукою у сваю кішэню дзесятку, якая яшчэ ўчора спачывала ў маёй кішэні.



— Чаму вы ў апошні час адмаўляецеся ад камандзіровак?
— Урачы забаранілі піць.



— Дайце кнігу скаргаў!
— Вунь, вазьміце!

Гейбула **РАСУЛАЎ**
Азербайджан

## Услед за Шылерам

Дастаўшы з партфеля стосік спісанай паперы, малады драматург шчодрым жэстам кінуў яго на стол рэдактара.

— Гэта што? — здзівіўся той.

— Вось, напісаў рэцэнзію на маю п'есу. Рашыў аддаць яе ў ваш часопіс. Можаце друкаваць. Хай так і будзе.

— Самі? Напісалі рэцэнзію на сваю п'есу?

— А што тут дзіўнага? Шылер жа напісаў рэцэнзію на сваіх «Разбойнікаў»?

Рэдактар замяўся, пацiснуў плячыма і пачаў праглядаць рукапіс.

— Дарагі мой, — усміхнуўся ён нарэшце. — Тут жа адны дыфірамбы. А Шылер, наколькі я ведаю, рэзка раскрытыкаваў «Разбойнікаў».

— Вядома чаму, — ускіпеў драматург. — У «Разбойніках» была процьма недахопаў. А мая п'еса, як вы ведаеце, сапраўдны шэдэўр!

По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-21-53, аддзела культуры — 33-24-62, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.



 Індэкс 63856 АТ 18146